Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Лім

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 26 (4570) 2 ліпеня 2010 г.

# У нумары:





# 3 ліпеня — Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь



Калаж Віктара Калініна

Фота Каетуся Дробава і з інтэрнэт-сайта

Алесь БАЧЫЛА

## Радзіма мая дарагая…

Радзіма мая дарагая,
Ты ў шчасці жаданым жыві:
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай сыноўняй любві.

На рэках, азёрах і нівах,
Заводах, будоўлях — наўсцяж
Народ наш працуе руплівы,
І край узвышаецца наш.

Я радасць сваю не стрымаю —
І песня ўзлятае сама:
Мне лепей ад роднага краю
Нічога на свеце няма.

Чужое зямлі нам не трэба,
Пачуцці ва ўсіх нас адны:
Мы хочам, каб мірнае неба
Не знала пажараў вайны.

Мы дружбы народам жадаем
І шчырай братэрскай любві.
Радзіма мая дарагая,
Красуйся і ў шчасці жыві!

## Пунктырам

• Як паведамілі ў прэс-службе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, Кіраўнік дзяржавы падпісаў указ аб узнагароджванні народнага артыста Расійскай Федэрацыі Юрыя Антонава ордэнам Францыска Скарыны за вялікі асабісты ўнёсак ва ўмацаванне культурных сувязей паміж Беларуссю і Расіяй.

• 5 ліпеня на сцэне Нацыянальнага Вялікага акадэмічнага тэатра оперы і балета выступіць знакаміты грузінскі балет пад кіраўніцтвам выбітнай артысткі Ніны Ананіяшвілі. У Мінску артысты Тбіліскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета імя З. Паліяшвілі прэзентуюць тры аднаактавыя пастаноўкі: "Серэнада" на музыку П. Чайкоўскага, "Шэсць танцаў" (музыка В. А. Моцарта) і "Сагалабелі" на грузінскую народную музыку.

• XX пешая пілігрымка Мінск — Будслаў, прысвечаная Маці Божай Будслаўскай, апякунцы Беларусі, выправілася ў мінулую нядзелю з мінскага архікафедральнага сабора. У пяцідзённым падарожжы бяруць удзел каля 300 вернікаў, сярод якіх прадстаўнікі парафій Нясвіжа, Бабруйска, Гомеля, а таксама госці з Расіі.

• У малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва праходзіць выстава "Гарадскія замалёўкі" вядомага магілёўскага фотамастака Генадзя Карчэўскага. Ён майстар тэхнікі "змазанага кадра", а таксама "рэзкага кадра з размытымі аб'ектамі".

• Ансамбль "Песняры", аб'яднаны харэаграфічны калектыў, узвод ганаровай варты Гомельскага інжынернага інстытута МНС прадставілі Беларусь на міжнародным моладзевым фестывалі "Сяброўства-2010". Форум адбыўся ля манумента Дружбы на памежжы Гомельскай, Бранскай і Чарнігаўскай абласцей.

• Фільм "Ваўкі" рэжысёра Аляксандра Колбышава (Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм") атрымаў Гран-пры VII фестывалю беларускіх фільмаў у Брэсце. У конкурснай праграме быў прадстаўлены 51 ігравы, дакументальны і анімацыйны фільм. Прызамі фестывалю у розных намінацыях узнагароджаныя актрыса Ганна Палупанава, расійскі акцёр Сяргей Бязрукаў, рэжысёры Уладзімір Дашук, Ірына Кадзюкова і Зміцер Лось.

• На працягу двух з паловай месяцаў у Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі будзе працаваць выстава "Песняры. Раскрытае сэрца". Усе прыхільнікі легендарнага калектыву змогуць не толькі бліжэй пазнаёміцца з яго гісторыяй (сярод экспанатаў афішы, фотаздымкі, узнагароды, нотныя рукапісы, сцэнічныя касцюмы), але і сустрэцца з яго сённяшнімі ўдзельнікамі. Завяршыцца праект вялікім канцэртам "Песняроў" у верасні.

• Моладзевы беларуска-расійскі сімфанічны аркестр бярэ ўдзел у XII Міжнародным фестывалі моладзевых сімфанічных аркестраў у Фларэнцыі — адным з найбуйнейшых еўрапейскіх музычных форумаў. Канцэрты адбудуцца ў гарадах Перуджа, Монтэкаціні Тэрме і Фларэнцыя.

• У Гродне здымаецца расійскі чатырохсерыйны кінафільм пра вайну, заснаваны на рэальных падзеях 1944 года. У карціне занятыя расійскія акцёры Андрэй Мерзлікін, Сяргей Гразноў, Пётр Фёдараў, а таксама беларуская — Паліна Сыркіна і Аляксандр Яфрэмаў.

• Да 25 ліпеня ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны праца выстава "Помню. Катынь 1940", на якой прадстаўленыя копіі дакументальных пацверджанняў страшнага злачынства. У адкрыцці выставы ўдзельнічаў міністр культуры Беларусі Павел Латушка.

Падрыхтавала Саша ДОРСКАЯ

У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Курс на супрацоўніцтва

**У Інстытуце філасофіі НАН Беларусі адбыўся "круглы стол" "Філасофія і літаратура: праця дыялога". Мерапрыемства было скіравана на ўзнаўленне і працяг канструктыўнага і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва паміж навуковай і творчай інтэлігенцыяй. Адзінадушна падкрэслена ўзрастанне ролі філасофіі і літаратуры як фундаментальных каштоўнасна-сімвалічных сродкаў спасціжэння і засваення жыццёвых сэнсаў чалавека і грамадства.**

Ад Саюза пісьменнікаў Беларусі ў рабоце "круглага стала" прынялі ўдзел: сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, пісьменнік Г. Марчук, доктар філалагічных навук, прафесар А. Андрэеў, доктар філалагічных навук, прафесар Т. Шамякіна, доктар філалагічных навук, прафесар І. Чарота, загадчык аддзела паэзіі часопіса "Нёман" Ю. Сапажкоў. Інстытут філасофіі прадстаўлялі доктар філалагічных навук, в.а. намесніка дырэктара па навуковай рабоце В. Максімовіч, доктар філасофскіх навук У. Конан, доктар філасофскіх навук, прафесар, загадчык Цэнтра сацыяльна-філасофскіх і антрапалагічных даследаванняў Т. Адула, кандыдат філасофскіх навук С. Санько, малодшы навуковы супрацоўнік А. Дзерман.

У выступленнях удзельнікаў "круглага стала" адзначалася, што філосафы і літаратары павінны заставацца партнёрамі і аднадумцамі пры вызначэнні ўзважаных падыходаў і рашэнняў па забеспячэнні стабільнага і ўстойлівага развіцця сацыякультурных сфер грамадства, заснаванага на ведах, выхаванні рацыяналістычнага і гуманістычнага светапогляду чалавека.

Удзельнікі "круглага стала" выказалі гатоўнасць прыкласці свае намаганні для выпрацоўкі комплекснай сістэмы мер ідэйна-тэарэтычнага, асветніцкага і практыка-выхаваўчага характару па фарміраванні маральна-этычных асноў светапогляднай культуры чалавека XXI стагоддзя, па аб'ектыўным асвятленні сучаснага літаратурнага працэсу, што адпавядала б нацыянальна-дзяржаўным інтарэсам у сферы сацыякультурнага, ідэалагічнага і духоўнага развіцця.

Валерый АЛЯКСАНДРАЎ

# Здольнасць, артыстычнасць, патрыятызм

**У Гомельскай вобласці прайшоў абласны дзіцячы конкурс чытальнікаў "Захаваем мір разам!", прысвечаны 65-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і Дню беларускага пісьменства, які сёлета прымае горад Хойнікі. З ініцыятывай правядзення конкурсу выступіў старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Гаўрыловіч, якога падтрымалі прадстаўнікі ўпраўлення адукацыі аблвыканкама, абласнога аддзялення Беларускага фонду міру і абласной арганізацыі Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў.**

Конкурс меў на мэце стымуляванне чытацкіх інтарэсаў школьнікаў, павышэнне іх цікавасці да выразнага чытання мастацкіх твораў, якія адлюстроўваюць подзвіг беларускага народа. Таксама для чытання маглі быць абраныя творы, прысвечаныя роднаму кутку, мове, духоўнаму багаццю палескай старонкі. Юныя ўдзельнікі, а імі былі больш як 900 вучняў адукацыйных устаноў вобласці, самастойна выбіралі мастацкія творы са спадчыны класікаў беларускай літаратуры, сучасных аўтараў, што нарадзіліся, тварылі ці сёння жывуць на тэрыторыі Гомельскай вобласці.

Конкурс складаўся з дзвюх намінацый: "паэзія" і "проза" і праводзіўся ў некалькі этапаў — школьны, раённы і абласны. Першыя два ладзіліся ў раёнах вобласці. Заключны этап прайшоў у абласным цэнтры на базе сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 61. Выбар гэтай школы невыпадковы: некалькі гадоў таму яна мела тэатральна-мастацкі кірунак у сваёй дзейнасці, а ў мінулым годзе прызнана лепшай навучальнай установай горада.

Амаль тры гадзіны на розных сцэнічных пляцоўках працягвалася праслухоўванне 50 чытальнікаў у дзвюх намінацыях. Затым, пакуль працавала журы, для ўсіх удзельнікаў свята чытання быў арганізаваны паказ сцэнічнай пастаноўкі ўзорнага тэатральнага калектыву сярэдняй школы № 61 паводле матываў твора Л. Філатава "Пра Фядота-стральца, удалага малайца…".

Спачатку павіншавалі пераможцаў раённых этапаў конкурсу — усе яны былі ўзнагароджаныя граматамі аргкамітэта і апошнімі выданнямі Гомельскага абласнога аддзялення СПБ: альманахамі, энцыклапедычным выданнем і адным з выпускаў весніка абласнога аддзялення СПБ "Літаратурныя абсягі". Кожны з пераможцаў абласнога этапа конкурсу атрымаў спецыяльныя дыпломы заснавальнікаў конкурсу і бібліятэчку кніг гомельскіх аўтараў і класікаў беларускай літаратуры.

Улад ПРЫАЗЁРНЫ

Святыні

# Кветкі песняру

Шэсцьдзесят восем год мінула з таго дня, як не стала Янкі Купалы. 28 чэрвеня, у дзень жальбін, на Вайсковых могілках традыцыйна сабраліся дзеячы беларускай культуры, каб ускласці кветкі, зноў згадаць неўміручыя радкі і падзякаваць нашаму песняру і прароку.

Старшыня Міжнароднага фонду Янкі Купалы Вячаслаў Рагойша адзначыў, што словы "зваў з путаў да свабоды, зваў з цемры да святла" вызначылі творчае крэда песняра. Ён дадаў: "Адзначаючы дзень незалежнасці нашай краіны, мы павінны помніць, што яшчэ 90 гадоў таму Янка Купала апублікаваў канцэпцыю дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, дзе сцвярджаў, што толькі незалежнасць можа даць беларускаму народу і багатае існаванне, і добрую славу ва ўсім свеце". Пісьменнік Анатоль Бутэвіч прынёс з сабой адно з выданняў Купалы з уласнай бібліятэкі – томік 1946 года.

Пісьменнік Генадзь Пашкоў згадаў, як у сярэдзіне 1970-х брыгада Саюза пісьменнікаў спынілася ў гатэлі "Масква", і вечарам літаратары ў памяць пра песняра прайшлі па той самай лесвіцы, дзе ў 1942 годзе адбылася трагедыя: "Калі я глядзеў у чатырохвугольную прорву з высокага паверха, мне рабілася ніякавата. Я кажу гэта да таго, што сляды Янкі Купалы засталіся не толькі на зямлі — і ў Маскве, і на Пухавічыне, і ў Ляўках, і ў Вязынцы — яны засталіся ў сэрцах многіх людзей. І на гэты светлы пагорак на Вайсковых могілках, дзе ляжаць нашыя песняры Янка Купала і Якуб Колас, заўжды прыходзіш з сумам і з прасветленай душой, бо творчасць нашых класікаў будзе вечна ўзвышаць душы многіх беларусаў".

Словы пра Янку Купалу таксама сказалі Алесь Бадак, Віка Трэнас, Раіса Баравікова, Мікола Мятліцкі, Міхась Пазнякоў, Міхась Башлакоў. Вечарам у мінскім архікафедральным касцёле Найсвяцейшай Панны Марыі адбылася імша ў памяць пра вялікага песняра.

Саша ДОРСКАЯ

Памяць

# Светлыя імёны

Да мемарыяльнай дошкі, што ўстаноўлена ў Доме літаратара і на якой названы імёны дваццаці шасці беларускіх літаратараў, якія не вярнуліся з Вялікай Айчыннай вайны, прыйшлі пісьменнікі, супрацоўнікі музеяў, гарадская моладзь з кветкамі.

— Змітрок Астапенка! Алесь Жаўрук! Мікола Сурначоў!.. — урачыста гучалі прозвішчы пісьменнікаў, як на неўміручай паверцы. Урачыстую і жалобную імпрэзу распачаў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец словамі ўдзячнасці літаратарам, якія пісьменніцкае пяро прыраўнялі да штыка і аддалі самае дарагое — жыццё — у роскввіце сіл, на самым творчым узлёце дзеля таго, каб сёння мы жылі і захоўвалі мірнае неба. З прачулымі словамі пра пісьменнікаў-герояў выступілі член-карэспандэнт НАН Беларусі Сцяпан Лаўшук, супрацоўнікі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Васіль Жураўлёў, Ігар Шаладонаў, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч, паэт, ветэран вайны Мікалай Іваноў, паэты Міхась Башлакоў, Яўген Каршукоў ды іншыя.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец запрасіў прысутных наведаць таксама Мемарыяльную залу Дома літаратара, дзе аформлены стэнды з партрэтамі ўсіх беларускіх пісьменнікаў, якія прайшлі франтавымі дарогамі.

Людміла КАЛЕНДА

Дабрачыннасць

**Міхаіл Мігай, баец партызанскага атрада імя Чапаева брыгады № 37 імя Пархоменкі, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, усё сваё жыццё — з кнігай. Да вайны ён паспеў скончыць шэсць класаў. Толькі ў 1949 годзе, пасля дэмабілізацыі з Савецкай Арміі, змог прадоўжыць вучобу ў вячэрняй сярэдняй школе. Паспяхова вучыцца яму дапамагалі кнігі — чытаў іх штодзённа. Потым на "выдатна" скончыў Маскоўскую юрыдычную школу, вучыўся завочна ў Вышэйшай школе ВЦСПС.**



# Тысяча асобнікаў ад ветэрана

Год за годам хатняя бібліятэка Міхаіла Мігая разраслася да вялікіх памераў. Тут розныя энцыклапедыі, даведнікі амаль па ўсіх галінах ведаў, зборы твораў мастацкай літаратуры, мемуары. Збор кніг серыі "Жыццё знакамітых людзей" налічвае ажно 450 асобнікаў. Не памылюся, калі скажу, што такая багатая хатняя бібліятэка ў Магілёве наўрад ці ёсць яшчэ ў каго.

М. Мігай шмат гадоў з'яўляецца старшынёй камісіі па патрыятычным выхаванні Магілёўскага гарадскога савета ветэранаў. Адзін-два разы на тыдзень, а то і часцей, ён ходзіць у школы і гімназіі Магілёва на сустрэчы з вучнямі. На развітанне ветэран уручае ім кнігі са сваёй бібліятэкі, якая і сёння папаўняецца. Так, у сярэднюю школу № 40 ён прынёс 3 кнігі і камплект ксеракопій публікацый з газет і часопісаў, а бібліятэцы сярэдняй школы № 15 падарыў 45 кніг. Нярэдка вучні і настаўнікі школ горада прыходзяць да ветэрана, і кожны выходзіць з яго кватэры з падоранай ім кнігай.

Больш значныя дарункі — Краснабярэжской сярэдняй школе, у якой вучыўся. Туды ён перадаў 100 кніг, сярод якіх зборы твораў Льва Талстога. У Краснабярэжскую сельскую бібліятэку адвёз 150 экземпляраў мастацкай літаратуры. А краязнаўчаму музею "Подзвіг" Краснабярэжскага аграрнага каледжа падарыў 500 кніг пра Вялікую Айчынную вайну.

Сёння М. Мігай асабіста трымае шэфства над чатырма бібліятэкамі і сямю школамі Магілёва.

Віктар АРЦЕМ'ЕЎ

На здымку: Міхаіл Мігай.

Фота аўтара

Літ-абсягі

# Дарога на Манпарнас

Зусім нядаўна ў кнігарні "Кніжны салон" прайшла прэзентацыя кнігі Уладзіміра Шчаснага "Художники Парижской школы из Беларуси", што пабачыла свет у мінскім выдавецтве "Чатыры чвэрці". У кнізе, акрамя эсэ пра творчасць знакамітых мастакоў, змешчаны кароткія біяграфічныя звесткі творцаў, даведнік па месцах, звязаных з дзейнасцю гэтых асоб.



Уладзімір Шчасны адзначыў: "Ідэя напісання такой кнігі з'явілася даўно, год 30 назад. Неяк мне ў рукі трапіў каталог выстаўкі "Сучаснае французскае мастацтва", што праводзілася ў 1928 г. у Маскве. Так для сябе я высветліў, што амаль палова з так званых французскіх мастакоў — выхадцы з Расійскай імперыі, чатыры з іх былі з Беларусі: Марк Шагал, Оскар Мешчанінаў, Пінхус Крэмень і Міхаіл Кікоін. Я зацікавіўся гэтым каталогам і пазней высветліў, што па меншай меры 12 мастакоў з Беларусі былі прадстаўнікамі Парыжскай школы, якіх да гэтага часу добра ведаюць і цэняць у Еўропе і ва ўсім свеце".

Цікавасць да тэмы Парыжскай мастацкай школы ў далейшым падштурхнула Уладзіміра Рыгоравіча сабраць матэрыялы, кнігі пра жыццё і дзейнасць вядомых мастакоў, выхадцаў з Беларусі. У час падрыхтоўкі кнігі аўтар сустракаўся з рознымі людзьмі, з сынам і дачкой Міхаіла Кікоіна, якія, ужо знаходзячыся ў сталым веку, памятаюць у падрабязнасцях усё, што адбывалася ў тыя далёкія часы, а Хаіма Суціна называюць проста "дзядзька Хаім". Пашчасціла даследчыку пагутарыць і з пляменніцай Хаіма Суціна. У працэсе такіх гутарак збіралася шмат цікавых і да гэтага часу невядомых фактаў. Уладзімір Рыгоравіч адзначыў, што ў кнізе імкнуўся перадаць розныя погляды і на творчасць мастакоў, і на падзеі таго часу.

У кнізе "Художники Парижской школы из Беларуси" аўтар прадстаўляе інфармацыю не як мастацтвазнаўца, а як эсэіст. Такі "дылетанцкі" падыход дазваляе, не абмяжоўваючыся тэрміналогіяй, плынямі мастацтвазнаўства, не азіраючыся на думку аўтарытэтаў, выказваць свой погляд і сваё разуменне творчасці мастакоў.

Доктар філалагічных навук, пісьменнік Адам Мальдзіс, які прысутнічаў на прэзентацыі выдання, адзначыў, што кнігу ён пачынаў чытаць з асцярогай, бо было незразумела, якім чынам аўтар зможа абʼяднаць, звесці разам столькі герояў з розных гарадоў. Аказалася, што ў цэнтры ўвагі аўтара — мастацкі, творчы працэс, які і зʼяўляецца галоўным героем кнігі. Таму аповед пра мастакоў захапляе.

Гэта кніга можа стаць крыніцай для новых даследаванняў творчасці мастакоў, прадстаўнікоў Парыжскай школы, бо тут змешчаны і спіс літаратуры, якой можна карыстацца пры вывучэнні работ таго ці іншага творцы.

Марына ВЕСЯЛУХА

Фота аўтара

Арт-лінія

# Едуць музыкі ў Паставы

З 2 па 4 ліпеня тут, у маляўнічым кутку Паазер'я, пройдзе XIII Міжнародны фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік", заснаваны Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, упраўленнем культуры Віцебскага аблвыканкама, Пастаўскім райвыканкамам. Удзельнічаюць аматарскія ансамблі народнай музыкі, інструментальныя групы, фальклорныя калектывы, індывідуальныя выканаўцы на народных інструментах з усёй Беларусі, нашай сталіцы, замежных краін.



Сёння гэта свята з яскравым беларускім духам, са сталымі глыбокімі традыцыямі, 20-гадовая гісторыя якога, дарэчы, адлюстравалася і на старонках "ЛіМа": у сярэдзіне 1990-х калі фарміравалася непаўторнае аблічча фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік", рос яго творчы і арганізацыйны ўзровень, адбываўся імклівы працэсператварэння лакальнага свята народнай інструментальнай музыкі ў прэстыжны нацыянальны форум з міжнародным розгаласам, наш тыднёвік штолета прысвячаў пастаўскай падзеі 2 — 3 газетныя палосы. Мы пісалі пра сустрэчы з "апошнімі магіканамі" аўтэнтычнага грання — музыкамі гурта "Груздаўская дзяды" і пра іх спадкаемцу — ансамбль "Паазер'е"; пра візіт у Паставы прэзідэнта Сусветнай асацыяцыі цымбалістаў Вікторыі Херэнчар з дзівоснымі венгерскімі цымбаламі; пра лабараторыю творчасці рэдкаснага самародка на ніве народнаінструментальнага мастацтва, вялікага майстра — незабыўнага Уладзіміра Грома...

Здаецца, склалася ўстойлівая канцэпцыя свята, знойдзены аптымальныя формы яго правядзення. Але стэрэатыпы ніякім чынам не пагражаюць фестывалю, атмасфера якога жывіцца гучаннем галасоў музычных інструментаў ды людскімі спевамі, дзе напоўніцу раскрываецца разнабаковы народны талент і шчырая душа. Заўсёднікаў, а тым больш — новых гасцей фэсту зачаруюць сёлета ўрачыстасць яго адкрыцця і музычна-тэатралізаваны "Пастаўскі баль" пад зоркамі, са ззяннем якіх будзе спаборнічаць маляўнічая сімфонія феерверка; зацікавяць выстаўка "Фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік" 20 год" і экспазіцыя, прысвечаная Напалеону Орду; узрушаць "Музыка беларускіх палацаў і сядзіб" — імпрэза з удзелам ансамбля салістаў "Класік-Авангард" ля Палаца Тызенгаўза і канцэрт класікі ў мясцовым касцёле. Цэнтр мястэчка, як заўсёды, пераўтворыцца ў "Горад майстроў", Дом культуры прыме фанатаў традыцыйнага конкурсу выканаўцаў "Хто каго?", на галоўнай плошчы разгорнецца вечаровая праграма "Танцуй з намі!" пры ўдзеле знакамітага ансамбля "Свята" і заслужанага артыста Беларусі Якава Навуменкі. Многія вясковыя сцэны будуць прымаць выступленні творчых калектываў...

Заўтра, 3 ліпеня, у Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, у Паставах адбудуцца мітынг, прысвечаны 66-й гадавіне вызвалення нашага краю ад гітлераўскай навалы, і канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча. У гэты дзень выступіць і яшчэ адзін знакаміты калектыў — Нацыянальны акадэмічны народны хор імя Г. Цітовіча.

Свята ўрачыста завершыцца ў нядзелю, у амфітэатры маляўнічага пастаўскага парку.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: пастаўскі ансамбль "Паазер'е".

Фота з архіва рэдакцыі

Повязі

# Бунтоўны «друкграфік»

Георга Базеліца — нямецкага графіка, скульптара, жывапісца — лічаць адным з заснавальнікаў неаэкспрэсіянізму і класікам постмадэрнізму. Магчымасць пазнаёміцца з яго творчасцю мы атрымалі нядаўна дзякуючы арганізатарам выстаўкі "Георг Базеліц. Друкаваная графіка 1965 — 1992. Georg Bazelits, Druckgrafik 1965 — 1992": Інстытуту імя Гётэ ў Мінску, Інстытуту сувязей з замежнымі краінамі (Германія) ды сталічнаму Музею сучаснага выяўленчага мастацтва, якія наладзілі экспазіцыю 82-х аркушаў знанага майстра.



Сапраўднае імя мастака — Ганс Георг Керн. Нарадзіўся ён у 1938 годзе ў Саксоніі, у Дойчэбазеліцы, і назву роднага горада ўзяў сабе ў якасці псеўданіма, калі пераехаў у Берлін. Неўтаймоўны дух творчасці Г. Базеліца выявіўся ў шматстайнасці мастацкіх прыёмаў і метамарфоз. Невыпадкова даследчыкі пазіцыяніруюць яго як прадстаўніка аднаго з самых уплывовых напрамкаў у сучасным мастацтве, г.зв. "bad painting" (дрэнны жывапіс), і называюць ідэолагам "Новых дзікіх". Яго бунтоўна-крэатыўны настрой выявіўся і ў асуджэнні "выкрыцці" абстракцыянізму, і ў вобразах-"правакацыях" на традыцыйныя тэмы сацрэалізму, і ў стварэнні партрэтаў героя "новага кшталту" — партызана, мяцежніка, паўстанца. Улюбёным прыёмам дасціпнага Г. Базеліца ў яго ироніі з абстрактнага мастацтва зрабілася перакульванне сваіх карцін "з ног на галаву". А яшчэ — "кадзіраванне" палатна, набліжэнне выявы да беспрадметнасці. Пры гэтым ён, пакідаючы гледачу магчымасць разгадаць свой намер, даводзіць: "Рэальнасць — гэта не тое, што на карціне, гэта сама карціна".

Наведвальнікі выстаўкі адкрывалі для сябе не толькі дзівосны "друкграфік", але і свет адметных жыццёвых рэалій Г. Базеліца. З 1970-х ён робіцца адным з самых запатрабаваных мастакоў у выставачнай дзейнасці лепшых сусветных музеяў і галерэй. Яго работы экспанаваліся ў Гамбургу, Амстэрдаме, Сан-Паула, Нью-Йорку, Вашынгтоне, Лос-Анджэлесе. Заслугі Базеліца перад сучасным мастацтвам адзначаныя прэстыжнымі ўзнагародамі, у тым ліку — Імператарскай прэміяй Японіі (2006). Цікава, што чатыры гады таму ён быў галоўным мастаком чэмпіяната свету па футболе... А яшчэ гэты нямецкі творца — з ліку самых дарагіх сучасных мастакоў.

Глыбей спасцігнуць яго выбітную асобу дапамог кінасеанс, наладжаны ў музеі, — з паказам дакументальных стужак пра Георга Базеліца.

Лана ІВАНОВА

На здымку: падчас адкрыцця выстаўкі.

Фота Яўгена Колчава

З-пад пяра

"У згодзе з сумленнем" — пятая па ліку кніга паэта Уладзіміра Шпадарука. У гэтае выданне аўтар уключыў лепшыя творы, якія ўбачылі свет у папярэдніх зборніках, а таксама новыя вершы. Творы прысвечаны Радзіме, маці, каханню, роднай прыродзе, багатыя філасофскім роздумам. Зборнік выйшаў у выдавецтве "Кнігазбор", прадмову напісаў доктар філалагічных навук, прафесар Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны Іван Штэйнер.

Міхась КАВАЛЁЎ

Вось ужо дзесяць гадоў у Любанскім раёне праводзіцца конкурс "Залатая рыбка" на лепшы літаратурны твор сярод школьнікаў. У якасці журы традыцыйна выступаюць супрацоўнікі часопіса "Вясёлка". Вершы, казкі, апавяданні, малюнкі мясцовых юнакоў з тае пары пастаянна з'яўляюцца на старонках часопіса, а аўтары лепшых твораў заахвочваюцца ганаровымі дыпломамі і падарункамі рэдакцыі. А сёлета любанцы наладзілі свята для "Вясёлкі" — у раённым Доме культуры адбылася імпрэза з нагоды 70-годдзя галоўнага рэдактара Уладзіміра Ліпскага. Юбіляра віталі артысты дзіцячага тэатра "Летуценнікі" і жартоўны калектыў з вёскі Баянічы, пісьменнік з Любані Іван Муравейка і загадчык аддзела культуры Любанскага райвыканкама Васіль Каткавец. На чале з галоўным рэдактарам супрацоўнікі "Вясёлкі" Анатоль Зэкаў, Маргарыта Прохар і Анастасія Радзікевіч сустрэліся з вучнямі і настаўнікамі Урэцкай і Сароцкай школ.

Лізавета ШЫЛАЙ

Прэзентацыя новай кнігі Любові Уладыкоўскай "Як захаваць культурную самабытнасць?" перарасла ў сур'ёзны міжкультурны дыялог, які адбыўся ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. У ім узялі ўдзел кіраўнік прадстаўніцтва ААН у Беларусі Антоніус Брук, кіраўнікі і прадстаўнікі дыпламатычных місій іншых краін, а таксама прадпрымальнікі, банкіры, святары, навукоўцы, артысты, мастакі. Як сказала ва ўступным слове генеральны дырэктар Цэнтра міжкультурнага дыялога, ініцыятар мерапрыемства Любоў Уладыкоўская, "пры распрацоўцы стратэгіі культурнага развіцця Беларусі ва ўмовах глабалізму надзвычай важна не самазамыкацца, не абмяжоўвацца этнаграфізмам, правінцыялізмам. Дзяржаўная і грамадская падтрымка беларускай культуры мусіць абапірацца таксама на прынцып адкрытасці ў сферы сацыяльнакультурнага абмену".

Л. Н.

"Кватэрнік у дзядзькі Якуба" — пад такой назвай штомесяц ладзяцца літаратурна-музычныя імпрэзы ў музеі Якуба Коласа з удзелам як маладых, так і ўжо вядомых майстроў слова. Гэтым разам сваім "прэм'ерным" выступленнем парадавала Святлана Каменданчык. Унутрана дынамічная, глыбока лірычная плынь яе вершаў выклікала відавочныя сімпатыі ў цудоўных прадстаўніц чалавецтва, якіх на вечарыне была большасць. Рагнед Малахоўскі таксама атрымаў магчымасць скарыць аўдыторыю сваёй паэзіяй. А вось Вячка Красулін, адзін з лідэраў гурта "Кашлаты Вох", не прывык распавядаць шмат. Але калі зайграў на дудзе, то ажывіў аўдыторыю настолькі, што некаторыя кінуліся ў скокі, прадэманстраваўшы старадаўні танец "Ойра".

Анатоль ТРАФІМЧЫК

# Мы — з Бандароў



Фота з Інтэрнета

**Значэнне і сапраўдную веліч Дня Перамогі найбольш поўна могуць адчуць тыя, хто перажыў вайну, быў удзельнікам ці хаця б сведкам падзей, да якіх у кожным разе абыякава адносіцца не мог ніхто. З гэтым перш за ўсё звязана шырокае разгортванне партызанскай барацьбы ў сельскай мясцовасці, багатай лясамі. Як гэта парадаксальна ні гучыць, але фашысты сваімі зверствамі садзейнічалі зараджэнню і пашырэнню партызанскага руху. У адной мясцовасці сабралі камсамольцаў і "ўсходнікаў" — людзей, што пераехалі да нас з савецкай тэрыторыі. І расстралялі ўсіх. У недалёкім мястэчку расстралялі ўсіх яўрэяў. Гэтыя падзеі прымусілі людзей запасацца зброяй і аказваць партызанам усялякую магчымую дапамогу – забяспечваць іх харчамі і зброяй.**

У час акупацыі і мы з братам Аляксандрам падтрымлівалі кантакты з партызанамі, забяспечваючы іх харчамі і ў нейкай ступені зброяй, якую знаходзілі. Сабе пакінулі толькі на ўсялякі выпадак дзве вінтоўкі (на дваіх), пару скрынак патронаў і нейкую колькасць гранат. Усё гэта было закапана ў зямлі на ўскрайку нашага лесу, побач з надзелам суседа Васіля і яго сына Фёдара Казберука. Праўда, мой брат дня вызвалення ў сваёй вёсцы не дачакаўся. Яго немцы вывезлі ў Германію. Але адтуль ён уцёк, перабраўся праз лінію фронту і добраахвотнікам уступіў у Чырвоную Армію.

Вось адзін характэрны для таго часу эпізод. Летам 1942 г. па нейкай справе трапіў я ў Міхалова. Гэта было мястэчка, у якім знаходзілася гміна, адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка. Ішоў я па вуліцы, а насустрач мне рухаўся малады чалавек у нямецкай ваеннай форме. Раптам ён скамандаваў: "Стой!". Я спыніўся. Ён запытаўся па-руску: "Ты из Бондарей?" — "Из Бондарей" (наша вёска называлася Бандары). — "Узнаёшь меня?". Я адказаў: "Нет!". Ён зняў галаўны ўбор і паўтарыў тое ж самае пытанне. Я зноў адказаў "Нет", хоць твар яго падаўся нейкім знаёмым. "А как там Миша Мируть?" — "Его расстреляли". Тады ён яшчэ запытаўся: "А патрончики с чайником помнишь?". Тут я ўсё зразумеў.

Аднойчы мы з братам далі партызанам чайнік патронаў для аўтамата. Вось гэты самы колішні партызан, седзячы за сталом, чысціў патроны анучкай, спяваючы песню — здаецца, "Синенький скромный платочек...". Праз нейкі час пасля гэтага немцы яго злавілі, і ён ім паказваў тыя хаты, дзе партызанаў чымсьці забяспечвалі, і тых людзей, што ім памагалі. Не абмінуў ён і нашу хату — было гэта ў першую нядзелю красавіка 1942 г. Але мяне з братам папярэдзіла суседка, і мы паспелі схавацца. У гэты ж дзень яны схапілі майго равесніка Мішу Міруця, якога праз пару дзён расстралялі. А яшчэ раней фашысты расстралялі дзядзьку Мішы Васіля Міруця.

Усё гэта імгненна ўсплыло ў маёй памяці, але я паўтарыў сваё "нет". Зброі ў гэтага злачынца я не бачыў і вырашыў бараніцца, калі б ён скамандаваў мне ісці з ім. Я адчуваў сябе не слабейшым за яго. Ён азірнуўся навокал і сказаў: "Помалкивай и ступай". Да маёй вёскі было кіламетраў 15, але я пайшоў не простай дарогай, а дабіраўся рознымі сцяжынкамі, хаваючыся ад магчымай пагоні.

Была ў мяне небяспека паехаць у Германію на работы. Але я нейкім чынам папярэдне даведаўся пра гэта і на пару тыдняў знік з хаты.

Асцерагацца трэба было ўвесь час. Калі ўжо зусім набліжаўся фронт, я з сябрам Паўлам вырашыў схавацца ў лесе. Раніцай, калі ўжо стала відна, мы наблізіліся з ім да лесу. Раптам ён як быццам застыў каля куста. Не паспеў я запытацца, што здарылася, як пабачыў, што па дарозе ехаў конны нямецкі патруль. Калі б немцы пазіралі перад сабою, то яны нас заўважылі б абавязкова. Але іх галовы былі павернуты ўлева, у бок лесу. А толькі з левага боку ад нас раслі кусты, навокал жа было поле. Перад намі распасціраўся лес, які прыцягваў усю ўвагу коннікаў.

Больш фашыстаў мы не пабачылі. А чырвонаармейцаў доўга чакаць нам не давялося. Яны рухаліся на захад.

Праз непрацяглы час пасля вызвалення, у жніўні 1944 года, Свіслацкі райваенкамат мабілізаваў мужчын у армію. Адным з гэтых navабранцаў быў і я. Мяне прызначылі камандзірам узвода, бо я яшчэ да вайны паспеў закончыць сярэднюю школу ў Свіслачы. Праз кароткі час нам далі адказнае баявое заданне. Фашысты, адступаючы, зусім разбурылі чыгунку Баранавічы — Беласток, не пакінуўшы ніводнай рэйкі, ніводнага мосціка. І паступіў загад камандавання пабудаваць тую чыгунку за тры дні. Кіравалі намі, навабранцамі, кваліфікаваныя спецыялісты-сапёры. 20 гадзін мы працавалі, а 4 — адпачывалі. Нас забяспечвалі ўсім неабходным — і прыладамі працы, і будаўнічымі матэрыяламі. Харчы былі яшчэ свае. Нашаму ўзводу давялося будаваць невялікі чыгуначны мост (калі не памыляюся – каля вёскі Дзевяткі). Пачыналі з таго, што ачысцілі месца ад хламу і лому, які застаўся ад старога моста. Давялося спачатку разбіваць ломам бетонныя насцілы, на якіх трымаўся стары мост. Мы сваю задачу выканалі і пабудавалі мост за два з паловаю дні, а роўна праз тры дні пасля таго, як пачалася работа, па чыгунцы прайшоў пробны цягнік.

Завяршыўшы будаўніцтва, адпачывалі некалькі дзён, не разумеючы, чаму нас нікуды не адпраўляюць. І толькі праз 11 дзён пасля мабілізацыі наш лёс вырашыўся. Зрабілі пераклічку і ўсіх навабранцаў падзялілі на дзве групы. Нашай групе скамандавалі адпраўляцца дадому. "А дэзерцірамі нас не палічаць?" — "Не палічаць". — "А што здарылася?" — "Дома даведаецеся". Але ў нашых вёсках нікто нічога не ведаў. І толькі праз пару тыдняў выпадкова даведаліся, што мы ўжо сталі грамадзянамі Польшчы. У канцы 1944 года я з маці пераехаў у Савецкую Беларусь. Дзень Перамогі сустракаў, з'яўляючыся студэнтам філфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Уладзімір КАЗБЯРУК

# Пачастунак ад генерала

Мая цётка Паўліна да вайны ездзіла правадніцай у цягніку Мінск — Днепрапятроўск. Улетку начальства перавяло яе ў спецвагон камандуючага войскамі Заходняй асобай ваеннай акругі Дзмітрыя Паўлава. Вагон стаяў за чыгуначным мостам, што пралягаў ад Прывакзальнай плошчы да Вакзальнай вуліцы.

Было лета 1940 года. Мне захацелася паглядзець, што гэта за спецыяльны вагон. Калі я знайшла вагон, прыўзнялася на дыбачкі, пастукала у акно, цётка Паўліна спусцілася ўніз. "А я думала, ты пусціш мяне ў вагон", — мовіла я. "Гэта няпросты вагон. У ім ездзіць вялікі военачальнік. Куды мы выпраўляемся — гэта сакрэт". — Паўліна Мітрафанаўна прыклала палец да вуснаў.

Мы сталі, перамаўляючыся між сабою, і нечакана ўбачылі купку вайскоўцаў, што накіроўваліся ў наш бок. Падышлі, павіталіся. Убачыўшы мяне, адзін з іх, гэта быў Дзмітрый Рыгоравіч Паўлаў, запытаўся: "Полина Митрофановна, кто эта беляночка? Ваша дочь?" Цётка сумелася і таксама паруску адказала: "Нет, это моя племянница. Она мне как дочь. Своих у меня нет. А у сестры Анны четыре девочки".

Сарамліва апусціўшы вочы, я стаяла, хаваючы ў кішэні абшарпаныя рукавы палітончыка, які дастаўся мне ад сястры Жэні. Уранні было халаднавата, і я апранула яго. Адзенне пераходзіла ад адной сястры да другой. У свае трынаццаць гадоў я не звяртала на гэта ўвагі. А тут засаромелася.

"Полина Митрофановна, — пачула я, — угостите племянницу чем-нибудь вкусненьким". — Дзмітрый Рыгоравіч падсадзіў мяне на прыступкі, і я апынулася ў тамбуры.

Вайскоўцы, знімаючы фуражкі, пачалі ўладкоўвацца вакол вялікага стала, што стаяў пасярэдзіне вагона.

Трымаючы ў руках пачак пячэння і шакаладку, я хацела падзякаваць Дзмітрыю Рыгоравічу, але без фуражкі сярод усіх вайскоўцаў не магла знайсці яго. Ён сам паклікаў мяне, паклаў руку на плячук і запытаўся: "Как ты учишься?" — "Хорошо", — адказала я. Дзмітрый Рыгоравіч пажадаў мне "расти хорошей девочкой, уважать старших, учиться только на пятёрки". Ірыемная ўсмешка падкрэслівала яго мужны твар, вочы свяціліся ласкай і дабрынёй. Я падзякавала яму за пачастунак, і цётка Паўліна вывела мяне з вагона. Запомніўся Дзмітрый Паўлаў з генеральскімі пятліцамі і Залатой Зоркай Героя, якой быў узнагароджаны ў 1937 годзе.

Намнога пазней цётка Паўліна выдала свой сакрэт: яны ездзілі ў Заходнюю Беларусь на святкаванне І-й гадавіны ўз'яднання з БССР. Год таму была ліквідавана гістарычная несправядлівасць, навязаная



Фота з Інтэрнета

савецкай краіне імперыялістамі Захаду і польскімі панамі ў 1920 годзе. Усюды гучала музыка, праводзіліся мітынгі, сходы. Людзі радаваліся: нарэшце яны вызваліліся ад старога буржуазна-памешчыцкага панавання і былі выратаваныя ад нашэсця гітлераўскіх агрэсараў.

Мінулі доўгія гады. Мне захацелася як мага больш даведацца пра Дзмітрыя Паўлава. Прачытала шмат літаратуры, вывучыла амаль усю гісторыю Вялікай Айчыннай вайны, пазнаёмілася з дакументальнымі матэрыяламі розных аўтараў, супольнікаў Дзмітрыя Рыгоравіча.

Радзіма яго — вёска Ванюх Калагрыўскага раёна Кастрамской вобласці. Пазней у гонар Паўлава яна перайменавана ў вёску Паўлава. Скончыў Омскую вышэйшую кавалерыйскую школу, Ваенную акадэмію імя Фрунзе, акадэмічныя курсы пры Ваенна-тэхнічнай акадэміі. У Чырвонай Арміі з 1919 года. Браў удзел у Першай сусветнай і Грамадзянскай войнах. Удзельнік вайны ў Іспаніі, савецка-фінляндскай вайны. Служыў у Гомелі, Бабруйску. З чэрвеня 1940 года — камандуючы войскамі Заходняй асобай ваеннай акругі. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны камандуючы войскамі Заходняга фронту.

Што ж адбывалася ў тыя дні на далёкіх подступах да Мінска? Жорсткія баі вяліся ў раёне Брэста. Па ўказанні Стаўкі Галоўнага камандавання генерал арміі Паўлаў загадаў 3-й і 10-й арміям адыходзіць на ўсход і заняць абарону на лініі Ліда — Слонім — Мінск. Гэта нельга было выканаць, бо 3-я і 10-я арміі, напаўакружаныя і знясіленыя, з цяжкасцю прабіваліся пад безупыннымі ўдарамі немцаў.

Не ведаючы дакладнага становішча ў 3-й, 4-й і 10-й арміях, не маючы поўнага ўяўлення пра фашысцкія бронетанкавых групоўкі, Паўлаў часта прымаў рашэнні, якія не адпавядалі сапраўднаму становішчу, і былі адхілены ад пасады.

Каб апраўдаць страты і няўдачы на пачатку вайны, Сталін вырашыў ўскласці віну на камандаванне Заходнім фронтам. Дзмітрый Рыгоравіч Паўлаў быў абвінавачаны і ў канцы ліпеня 1941 года расстраляны. Быццам бы ён адзін быў вінаваты ў паражэнні савецкіх войск. Праз шаснаццаць гадоў ён рэабілітаваны.

Вайна перапыніла нашы гульні, наша шчаслівае жыццё. Увесь савецкі народ узняўся супраць фашысцкіх захопнікаў. Цяжкія няўдачы не аслабілі, а яшчэ больш умацавалі дружбу народаў СССР. Чырвоная Армія вяла справядлівую, вызваленчую, айчынную вайну. Гэта натхняла савецкіх воінаў на геройчныя подзвігі.

Алена МІМРЫК

# На шляху да Кёнігсберга

**У суровым 1941 годзе Эсфір Гурэвіч закончыла філфак Маскоўскага педагагічнага інстытута ім. У. І. Леніна. Добраахвотна пайшла медыцынскай сястрой у хірургічнае аддзяленне аднаго з ваенных шпіталяў. Дэмабілізаваўшыся з арміі, вучылася ў аспірантуры Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР. Доктар філалагічных навук. Цяпер жыве ў Кліўлендзе. Чытачам "ЛіМа" прапануем урывак з успамінаў Эсфір Саламонаўны, якія будуць друкавацца ў часопісе "Нёман".**

У халодным студзені 1945 года разам з рухам фронту наперад і мы рушылі з Каўнаса далей, у напрамку да Усходняй Прусіі, і першым прыпынкам на гэтым шляху стаў Кібертай. Невялікім мастком ён быў аддзелены ад нямецкага горада Эйдткунен. Каля мастка – памежны слуп з гербам Савецкага Саюза, на другім баку – злавесны для нас чорны надпіс "Германія". Падзел, як нам сказалі, захаваўся з 1939 года. За слупом – чужая і ненавісная нам тады зямля. Якая яна? Я памятаю гэты знакавы для нас момант перасячэння мяжы: ён застаўся ўедлівай стрэмкай у памяці.

Падзеі на фронце сталі развівацца імкліва. 22 студзеня адзначаю: "Сёння за дзень было некалькі важных паведамленняў: узяты горад Гумбінен і шэраг іншых нямецкіх гарадоў. Не сёння-заўтра мы зноў рушым наперад, наўпрост да Берліна… Сэрца радасна і балюча б'ецца ад думкі, што канец вайны зусім блізкі". Праўда, у наступленні на Берлін наш фронт непасрэдна не ўдзельнічаў, але рух яго па Усходняй Прусіі ішоў паспяхова.

Тым не менш, пераможная дарога таксама не была прастай і лёгкай, як можа падацца, і фізічна, і псіхалагічна: частыя перадыслакацыі ў суровых зімовых умовах патрабавалі вялікага напружання сіл. І мы адчулі гэта адразу, ужо ў Кібертаі, дзе нечакана затрымаліся, паколькі іншыя шпіталі пайшлі наперад, а на нас, як на адзіную ў той момант базу фронту, якая засталася, абрынулася ўся хваля параненых.

29 студзеня адзначаю: "Пішу пасінелымі скалелымі рукамі, пазычанымі чарніламі. Мае чарнілы чамусьці замёрзлі. Стамілася да апошняй мяжы. Здаецца, што калі б прысела, ужо не паднялася б. А працуючы і рухаючыся па інерцыі, гэтай мёртвай стомы нібы не заўважаеш. Наадварот, настрой заўсёды бадзёры, добры…

Стаяць моцныя студзеньскія маразы. Параненых процьма. Каб іх крыху абагрэць, стварыць ім цяпло (у прамым сэнсе) і прытульнасць, мала і 24-х гадзін у суткі. Даводзіцца ўсё рабіць за кошт сну. Паспаць пяць гадзін – проста раскоша. Сёння я працавала больш за паўтара сутак без перапынку. Да гэтага спала не больш за тры гадзіны. І сёння пасля працы пайшла разам з іншымі нарыхтоўваць дровы. Не магу ж я пайсці спаць, калі ў палатках халодна".

На шчасце, затрымка ў Кібертаі была не вельмі працяглай, і ўжо 4 лютага запісваю: "Сёння, мабыць, апошняя ноч у Кібертаі. Зноў згортваемся. Арыенціроўка на Тапіау. Вельмі можа быць, што пакуль дабярэмся туды, трэба будзе выпраўляцца проста ў Кёнігсберг. …Я надта не люблю апошнія дні перад перадыслакацыяй. Параненыя застаюцца неяк на другім плане, усё падпарадкоўваецца інтарэсам і тэмпу эвакуацыі: хутчэй! хутчэй! У палатках перастаюць прыбіраць, становіцца непрытульна, непрывабна. Не люблю!"

Вядома, частыя перадыслакацыі не ішлі на карысць параненым: тэрмін іх знаходжання ў лагеры скарачаўся праз неабходнасць адсылкі ў іншыя шпіталі, якія не ўдзельнічалі ў наступленні. І ад таго, што даводзілася часцей развітвацца з імі, яшчэ не акрэплымі, нашае спачуванне да іх абвастралася.

Між тым, па меры руху наперад нашае чаканне канца вайны рабілася ўсё больш нецярплівым. "Яшчэ адзін-два пераезды – і ўсё: канец людскому гору, пакутам, канец майго франтавога жыцця", — запісваю я 5 красавіка 1945 года ў Бартэнштэйне, перад дыслакацыяй у Тапіау, на больш блізкім набліжэнні да мэты, — 28 красавіка: "Радасныя падзеі на фронце. Нашы ўжо ў Берліне! А сёння ваенныя паведамленні пра тое, што нашыя войскі злучыліся з войскамі саюзнікаў!"

Пры гэтым паступленне параненых не зніжаецца, напружанне не спадае, Берлін яшчэ не ўзяты. Нарэшце, 2 мая: "Войскі 1-га Украінскага і 1-га Беларускага франтоў занялі Берлін. Радасць неапісальная. Увесь наш шпіталь дрыжаў ад салютаў. У паветры ўздымаліся асвятляльныя ракеты. Зусім блізкі доўгачаканы канец!"



Фота з Інтэрнета

І надышло 8 мая. Мой запіс ад 9 мая (3 гадзіны ночы) перадае, відаць, падзеі мінулага дня, дня капітуляцыі Германіі: "Цяжка адразу ўявіць, што вайна скончылася. Няма больш крывавых баёў, не гінуць болей людзі… Скончылася вайна!!! О, Божа! …Учора цэлы дзень у чаканні гэтай радасці. Нехта сказаў — а трэцяй гадзіне дня павінны перадаваць выступленне т. Сталіна, але яно не адбылося. Мы працягвалі чакаць. Хаця я была пасля начной змены, але спаць не хацелася. І вось ужо ноччу, у маё дзяжурства, загаварыла радыё якраз у час падпісання акта аб капітуляцыі, і да талеркі імгненна збегліся з розных бакоў усе, хто толькі мог. Сэнс акта быў адразу зразумелы, і ва ўсіх загарэліся вочы, пасвятлелі твары. …Я адразу пабегла ў палаты, каб паведаміць параненым гэтую ашаламляльную навіну. Дзеля гэтага дазволіла сабе нават пабудзіць іх. Дала ім выпіць у гонар Перамогі па шклянцы… квасу. Пасля пабегла наверх, дзе дзяжурыла Наташа, каб абняць яе. Неўзабаве мы з ёй выправімся ў шлях да сваёй роднай зямлі".

Па наіўнасці мы думалі, што калі вайна скончылася, нас адразу ж распусцяць "па дамах". Аднак дэмабілізацыя яўна зацягвалася, на наша вялікае засмучэнне, і мы стараліся суцешыць сябе: засталося патрываць зусім крыху, і гэта згладжвала цяжкасці, якія ўвесь час узнікалі. 27 мая 1945 года, у Тапіау, запісваю: "Дзяжуру ноччу. Параненыя нарэшце супакоіліся. Укласці іх спаць (нібы маленькіх! – Э. Г.), выканаць медыцынскія прадпісанні і ўсе справы, што ўзнікаюць перад сном, не так ужо і проста. Мой пост самы цяжкі, але я ўжо прызвычаілася да яго і не хацелда б мяняць на больш лёгкі". Так, цяжкасці ўспрымаліся цяпер як кароткачасовыя, і пачуццё абавязку ў дачыненні да параненых заставалася ранейшым.

І пры ўсім гэтым, як толькі вайна скончылася, мы пачалі лічыць "страчаныя дні" — такой вялікай была прага новага, мірнага жыцця. Літаральна праз 10 дзён пасля перамогі, 18 мая, запісваю: "Нецярплівае чаканне, падлік страчаных дзён усё павялічваюцца. …Напружанне расце". І роўна праз месяц, 18 чэрвеня, — амаль паўтор: "Працуючы забываешся, але калі згадваеш, што вайна скончылася, а ты працягваеш займацца не сваёй справай і выкрэсліваеш з жыцця дні і тыдні, становіцца цяжка. Чатыры страчаныя гады, самыя лепшыя! Колькі ж яшчэ можна страчваць?" — і далей: "Ужо колькі часу ходзяць чуткі, што 23 чэрвеня чакаюцца нейкія змены: або наш шпіталь пераедзе на новае месца, бліжэй да Радзімы, або з'явіцца ўказ урада аб дэмабілізацыі… Хутчэй бы што-небудзь вызначылася!"

Чуткі пацвердзіліся толькі часткова, пра што сведчыць запіс ад 24 чэрвеня: "22 вечарам перадалі па радыё праект закона, прапанаваны на XII сесіі Вярхоўнага Савета аб дэмабілізацыі асабовага складу дзеючай Чырвонай Арміі старэйшага ўзросту. Мне і маім сябрам ён нічога не дасць". Затое пасля пацвердзіліся чуткі пра тое, што сэшаўцаў (маецца на ўвазе Сарціровачны эвакашпіталь-290 Заходняга, пазней — 3-га Беларускага фронту, пра які вядзецца гаворка ва ўспамінах) накіруюць на Далёкаусходні фронт. Нейкую частку шпітальных супрацоўнікаў, каля 125 чалавек, галоўным чынам прафесійных медыкаў, на самай справе адправілі на Далёкі Усход. Ім давялося лекаваць палонных японцаў, якія выконвалі цяжкую працу ў тайзе…

Здавалася, што ў практычным нашым жыцці мала што змянілася: "Па-ранейшаму, сваім парадкам — праца, страявыя заняткі, загады і нават дадалася яшчэ зарадка… У інтэрнаце ўсе размовы круцяцца вакол дома і блізкіх". Было прадчуванне, што гадавіну пачатку вайны давядзецца сустракаць у шпіталі.

Аднак новае ў нашым жыцці ўсё ж з'явілася: пад Кёнігсбергам пачалася гаворка пра выхадныя дні! Якімі незвычайнымі і таму бясцэннымі падарункамі яны былі для нас! Вось тут мы і адчулі фізічна — вайна скончылася!!! Нават сам выхад за шпітальную агароджу прыносіў асалоду: мы ж, па сутнасці, былі замкнутыя ў сценах шпіталя, выхад у горад без звальняльнай катэгарычна забараняўся, дзе б мы ні стаялі.

Калі з'явіліся выхадныя, Саша, самая актыўная ў нашай неразлучнай тройцы, вырашыла абавязкова імі скарыстацца і адным чэрвеньскім днём наладзіла паездку да мора, да заліва Фрыш Гаф, а пасля прапанавала наведаць выставы 1-га Прыбалтыйскага фронту ў Лабіау. Да заліва мы ехалі на адкрытай машыне, і гэта ўжо было адпачынкам, асалодай ад даўно забытага адчування прасторы і прадчування сустрэчы з морам. 12 чэрвеня, на наступны дзень, я ў захапленні запісала: "Пылу не было, вецер ласкава варушыў валасы, паветра было такое чыстае і свежае, што захацелася дыхаць глыбей, падстаўляць пад яго ўсю сябе. Хацелася так ехаць доўга-доўга. Некуды на край далёкага дзівоснага свету".

Паездка да заліва была маёй першай, значна запозненай сустрэчай з морам, і я, адштурхоўваючыся ад літаратурных асацыяцый, усхвалявана чакала нечага асаблівага, велічнага, незвычайнага. Як ні дзіўна, спачатку нічога такога не адбылося. І, думаю, таму, што бераг быў знявечаны бруднымі слядамі вайны: вельмі засмечаны, захламлены, вада зблізку была зеленавата-мутная. Акрамя таго, мы заспелі заліў у момант, калі ён быў надта ляніва-спакойны. Але варта было позірку адарвацца ад берага і скіравацца ўдалечыню, да лініі гарызонта, дзе мора зліваецца з небам, як карціна змянялася, рассоўвалася, шырылася, узнікала адчуванне прасторы, неабдымнай, бязмежнай шырыні, раздолля, асабліва вострае ў нас пасля доўгага знаходжання ў агароджанай шпітальнай прасторы. І тады мне прыгадалася даўняе, дзіцячае адчуванне гарызонта. Мне сказалі аднойчы: "Глядзі, вось гарызонт", — указаўшы далёка на рысу, якая нібы аддзяляла неба ад зямлі, і я ўбачыла тады за рысай бязмежны блакіт неба; мяне, дзяўчынку, ахапіла незразумелае мне адчуванне бязмежнасці, бясконцасці, вечнасці, адчуванне недаступнай майму разуменню загадкі быцця…

Другая паездка ў Кёнігсберг, выкліканая цікавасцю да яго і яго гістарычных помнікаў, не абышлася без прыгод: па дарозе назад на КПП нас забралі ў камендатуру, бо мы вярталіся намнога пазней за час, указаны ў звальняльнай. Праўду кажучы, нам з самага пачатку было ясна, што ў вызначаны шпітальным начальствам тэрмін мы не ўкладземся (сама дарога не такая ўжо блізкая), але, адчуўшы свабоду, мы вырашылі: нас зразумеюць і строга не пакараюць, вайна ж скончылася! І насамрэч — пранесла! Нашыя маладыя вясёлыя твары і вялізныя букеты кветак, якія мы назбіралі недалёка ад берага, пазбавілі нас магчымых непрыемнасцей.

У Кёнігсбергу напачатку нам пашчасціла. Мы трапілі на вуліцу, дзе ўзвышаліся ажно тры помнікі: "жалезнаму канцлеру" Бісмарку, каралю Прусіі Вільгельму Першаму і герцагу Брандэнбургскаму, апошняму герцагу Усходняй Прусіі…

…Нам хацелася адшукаць у Кёнігсбергу і помнікі (пра якія мы чулі) вялікім немцам — Гётэ і Шылеру. У пошуках першага ў мяне адбылася цікавая гутарка з мясцовай жыхаркай, якая стаяла непадалёк з веласіпедам. На сваёй надзвычай слабай, са школьнай парты, нямецкай я звярнулася да яе з пытаннем: "Дзе знаходзіцца помнік Гётэ?" "Гётэ?" — перапытала яна і, падумаўшы, махнула рукой уздоўж вуліцы. Мы ўзрадавана рушылі наперад і прыйшлі да помніка… героям усіх войнаў.

…Натуральна, Перамога нас акрыліла. Але каб адчуць яе напоўніцу, пачаць новае жыццё, трэба было перш за ўсё развітацца са шпіталем, дзе ўсё нагадвала пра вайну з яе гнятлівымі рэаліямі. А пакуль мы заставаліся на службу, усё ў той жа шпітальнай прасторы, між тым, як вострай патрэбы ў гэтым ужо не было (так мы думалі), для нас працягвалася выкрэсліванне з жыцця дзён і тыдняў, і гэта было асабліва крыўдна ў нашыя юныя гады, калі ўвесь свет, здавалася, належыць табе і не цярпіцца пасля ўсяго перажытага аказацца ў новай для цябе жыццёвай ролі, якая захапляе і аднachасова палохае, бо гэтая роля таксама нялёгкая і з многімі "невядомымі". Усякае прамаруджванне ўспрымалася як прыкрае і крыўднае, кожная адтэрміноўка выклікала нязменнае пытанне: калі нарэшце пачнуцца перамены ў жыцці?

"Кожны пражыты тут дзень пакідае новую метку на сэрцы і ў агульным ліку страчаных гадоў", — запісваю я 7 ліпеня 1945 года ў Тапіау.

І сапраўды, час, калі мы перастанем быць людзьмі ваеннымі, "медленно, но верно" набліжаўся. 20 ліпеня, перад апошняй перадыслакацыяй, фіксую: "Амаль усё згарнулі, чакаем эшалона. З'язджаем у Бабруйск (месца фарміравання шпіталя ў 1941 годзе — Э. Г.). З ім звязана надзея на практычнае вырашэнне нашага пытання. Цяпер першая гадзіна ночы. На нашым гарышчы горача і задушна… Стомленае цела просіць адпачынку, а думкі не даюць заснуць".

Хаця ў Бабруйску нас сапраўды адпусцілі ў "вольнае плаванне", дэмабілізацыя мне і Наташы мелася быць у Маскве (у Фрунзенскім ваенкамаце), адкуль пачалася ў 1941 годзе наша ваенная дарога. Адбылося гэта толькі 22 жніўня 1945 года, больш як праз тры месяцы пасля заканчэння вайны, і было напраўду выпакутаванай падзеяй. Адсюль такі радасны запіс пра гэта, зроблены, праўда, праз тыдзень, ужо ў Мінску, куды я прыехала пасля дэмабілізацыі і дзе на той час ужо ўладкаваўся мой брат: "Ногі неслі мяне з ваенкамата нязвычна лёгка, хаця на іх былі ўсё тыя ж цяжкія армейскія боты. На твары свяцілася шчаслівая і, мабыць, недарэчная ўсмешка. Мне адразу ж захацелася зняць з плячэй пагоны, нібы яны прыціскалі невыносным цяжарам".

Гнятлівы цяжар пагонаў у гэтым выпадку – перш за ўсё непад'ёмны цяжар вайны…

У Маскве, такім чынам, была перагорнутая апошняя старонка жыцця на вайне, маёй і маіх сяброў. У Мінску пачыналася новая, мірная глава майго ўласнага жыцця, на якім непазбежна адбіваўся водсвет толькі што скончанай бітвы – жорсткай і нябачанай людзьмі дагэтуль. Зродненныя вайной, мы яшчэ нейкі час працягвалі жыць у адной цеснай, непарыўнай звязцы.

Але ўсё тое, што мае пачатак, нязменна асуджана на канец. Толькі чалавечая памяць, якая перадаецца з пакалення ў пакаленне, жыве і канца не мае. І вайна 1941 — 1945 гадоў, якую мы перажылі, — Вялікая Айчынная, якая знесла незлічоную колькасць людскіх Кніг жыцця, заслугоўвае навечна застацца ў гэтай памяці.

Таму я ўзгадваю і пішу, пакуль ручка-пяро яшчэ падуладна маёй руцэ.

Эсфір ГУРЭВІЧ

# Светла ад тваіх герояў

## Ліст да пісьменніка Міколы Леўчанкі

**Шаноўны сябра, дзякуй за кнігу "Урокі мужнасці", якую ты даслаў на мой хатні адрас. Кніга — пра Быхаўшчыну, за рамкі гэтага прыгожага куточка Беларусі ты не выходзіш, таму атрымаўся своеасаблівы яму, адрасны, калі можна так сказаць, помнік.**

Дарагая Быхаўшчына і мне, ты ж ведаеш, там я скончыў васьмігодку ў Іскані, на могілках якой знайшлі вечны спакой і бацькі мае — Вольга Якаўлеўна і Юрый Трафімавіч, мясцовыя настаўнікі. Не толькі на радаўніцу, а і пры кожным выпадку, які толькі надарыцца, я бываю ў Іскані, сустракаюся з землякамі, якіх, на жаль, застаецца ўсё менш і менш. Пайшоў з жыцця нядаўна і герой твайго нарыса "Фарсіраваў Дунай і Эльбу" Васіль Давыдавіч Шурмялёў. Тое, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны ён быў танкістам, я, зразумела, ведаў. І ўсе вяскоўцы ведалі. А пасля, зняўшы пагоны з гімнасцёркі, ён адразу ж сеў на трактар і сапраўды ўсё жыццё працаваў на ім, і амаль увесь час — на гусенічным… Я і цяпер бачу яго ў кабіне — з толькі яму ўласцівай светлай, пяшчотнай усмешкай на твары… І тое бачу, што пры сустрэчы ён кожнаму стараўся кіўнуць галавой: вітаўся. Гады тры таму я наведаў Васіля Давыдавіча, трымаўся ён яшчэ бадзёра, нейк з непрыхаваным гонарам паведаміў, што яму ўжо восемдзесят шэсць… Маўляў, што нам вайна, што нам шматгадовы лязгат-грукат да болю ў вушах гусенічнага!.. А мы, салдаты Перамогі, — жывём!..

Ты ж, Мікола, не ведаеш, чаму я пры выпадку наведваў гэтага чалавека і чаму з такой павагай і сімпатыяй заўсёды адносіўся да героя твайго нарыса? Прызнаюся табе цяпер. Пасля сёмага класа на летніх вакацыях я запісаўся ў плугары і трапіў, такім чынам, да дзядзькі Васіля. Уяўляеш? Сяджу на плугах, кручу руль туды-сюды — глыбей-мялей — а сам паглядаю ў бок кабіны, з якой сочыць за кожным, здавалася б, маім рухам дзядзька Васіль. Бывае, кіўне галавой, маўляў, малайчына, а здаралася, і спыняў трактар, асабліва на першым часе, ды яшчэ калі ворыва было цяжкае, вылазіў тады з кабіны і моўчкі, не кідаючы папрокаў у мой адрас, падкручваў руль… "Вось так трэба, цёзка!"

Адзін раз я і сапраўды даў маху. Была ў нас начная змена, а пад раніцу асабліва так моцна спаць хацелася, што я не вытрымаў і прывязаўся нейкім дротам да сядла — каб, заснуўшы, не зваліцца пад лемяхі… Трактар арэ, а я клюю носам… Васіль Давыдавіч, вядома ж, гэта ўбачыў, адвязаў мяне ад сядла і паказаў на стог саломы: "Ідзі, паспі. Разумею: цяжка ў такім узросце сон пабораць… А я яшчэ трошкі папрацую, ды таксама з гадзінку адпачну".

Не помню, адпачываў ён тую "гадзінку" ці не, але добра памятаю, як бралі мы свае торбы і сядалі побач на мурагу каля ўзаранага поля, каб падсілкавацца. Я вельмі ганарыўся тады, што мама мне клала ладны скрыль сала, некалькі гуркоў, хлеб і паўлітэрка малака. Як даросламу. Я ўмінаў усё гэта, гледзячы на дзядзьку Васіля, і слухаў іншым разам яго аповеды пра вайну… Пра што ён гаварыў мне — сцёрлася ў памяці.

Дзякуй, Мікола, што ты нагадаў мне пра тое.




З сынам героя нарыса "Вёрсты вайны і працы" Івана Рыгоравіча Чутнікава Мішам мы вучыліся ў адным класе восем год. Цяпер ён жыве ў Калузе, служыў да выхаду на адпачынак прапаршчыкам у расійскай арміі. Не бачыліся больш як сорак гадоў, а тут звяла нас бяда: Іван Рыгоравіч памёр на два дні пазней, чым мой бацька. Быў ужо ён пэўны час нямоглы, таму Міша жыў у Трысціўцы, дагледжаў старога. Пахаваныя нашы бацькі на адных могілках.

Ведаеш, з Мішам Чутнікавым наогул цікавая гісторыя атрымалася. Павезлі нейк нас у Магілёўскі драматычны тэатр. Паглядзелі спектакль. Падсілкаваліся ў сталоўцы. І павяла нас настаўніца горад паглядзець. Як цяпер помню: крочым па Першамайскай, і тут жа праходзіць паўзбоч нас узвод салдат. Не кожны ж дзень вясковая дзятва бачыць столькі салдат! Адным словам, калі настаўніца пачала нас лічыць, аднаго вучня не аказалася… Тым адным быў Міша Чутнікаў. Ён пайшоў услед за салдатамі… Заглядзеўся. Залюбаваўся імі. Праз пэўны час вярнуўся, а пярэпалах быў вялікі.

Ці не тады сын героя твайго нарыса, а мой аднакласнік, вырашыў стаць вайскоўцам?

З асаблівым пачуццём прачытаў я нарыс "Такімі засталіся ў памяці", у якім ты пішаш пра свае першыя крокі ў журналістыцы і пра тых людзей, што цябе акружалі. Добра ведаў гэтых людзей і я. Справа ў тым, што сваю першую малюпасенькую заметку я надрукаваў якраз у быхаўскай раённай газеце "Маяк Прыдняпроўя". Называлася яна "Дапамагаюць калгасу". Пахвалілі хлопцаў, з якімі разам акучвалі бульбу. А потым пайшло-паехала, і я стаў у рэдакцыі сваім чалавекам. Таму, калі з'яўляўся там, мне, адчуваў, былі рады, і па-мужчынску моцна ціснулі маю далонь і рэдактар газеты Георгій Барысаў, і яго намеснік Іосіф Арсеневіч Варановіч, і адказны сакратар Ілья Хонанавіч Дрыгант, пра якіх ты, мой шчыры сябра, вельмі цёпла згадваеш у сваім нарысе. То сапраўды была цудоўная старая гвардыя раённых газетчыкаў, якія прайшлі ўсе цяжкасці Вялікай Айчыннай вайны, загартавалі там сваё пяро.

Дарэчы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, слынны магілёўскі паэт Аляксей Пысін раіў Георгію Ерамеевічу пісаць прозу і надрукаваў з цёплым словам у абласной газеце вялікае ягонае апавяданне. Але, я так думаю, Барысаў разумеў, што прозай сур'ёзна займацца яму ўжо было пазнавата…

Пры сустрэчы, Мікола, перадавай прывітанне і герою свайго нарыса "Праз гады выпрабаванняў" Фёдару Іванавічу Крываногаву. Так-так, яму. Адкуль, кажаш, ведаю гэтага чалавека? Ён жа не іскане́ц? Правільна, раней жыў і працаваў старшынёй сельскага Савета ў Абідавічах і намеснікам старшыні калгаса, а я амаль кожны раз праз гэтую вёску ездзіў на сваю малую радзіму. І абавязкова спыняўся перад белым мураваным будынкам, у якім жыў Фёдар Іванавіч з маёй былой настаўніцай Вольгай Лявонцьеўнай Хадзьковай, пасля смерці якой, я ведаю, Крываногаў паехаў спярша ў Жлобін, а потым у Магілёў да дзяцей.

З цікаўнасцю прачытаў я нарыс "Час іх сыноў" — пра бацькоў і чатырох братоў міністра адукацыі нашай краіны Аляксандра Радзькова.

Не пакінуў раўнадушным і той раздзел кнігі, дзе ты апавядаеш пра Герояў Савецкага Саюза, ураджэнцаў Быхаўшчыны. Дзякуючы тваім нарысам, я зноў узгадаў біяграфіі снайпера Фёдара Смалячкова, маршала авіяцыі Сцяпана Красоўскага, камбата Канстанціна Арлоўскага, ротных Цярэнція Сычкова і Фёдара Раўчакова і многіх іншых слаўных сыноў Прыдняпроўя.

Добрую кнігу ты напісаў, Мікола. Дзякуй. Я зноў пабываў на любай сэрцу Быхаўшчыне, сустрэўся з тымі людзьмі, якіх, на вялікі жаль, ужо няма сярод нас.

Сустрэўся дзякуючы табе. І мне было светла ад тваіх герояў.

Васіль ТКАЧОЎ

На здымку: Мікола Леўчанка.




# Жыць, «пакуль куля ляціць»...

**Даўно я не чакала, ды яшчэ з такім нецярпеннем, працягаў публікацый літаратурнага твора. Але аповесць Генадзя Пацыенкі "Пакуль куля ляціць", надрукаваную ў чатырох нумарах "Маладосці", чакала. Чаму?**

Быццам бы, апавяданне не складанае, сюжэт не мудрагелісты, героі — простыя дзеці. Вясковыя хлапчукі: Ягор, ад імя якога вядзецца аповед, і яго малодшы брат Фёдар. І дзяўчынка-масквічка з рэдкім, дзіўным імем Інга, якое чамусьці асацыіруецца ў мяне з птушкай. Сапраўды, можна ўбачыць падабенства лёсу гэтага дзіцяці з жыццём якой-небудзь пералётнай птушачкі, ластаўкі. Прынеслі яе крылы на летнія канікулы да бабулі з дзядулем, ды і патрапіла Інга пад раптоўныя халады, снягі і злыя віхуры жорсткай і доўгай вайны...

Напэўна, я не задумвалася б пра тое, чым так усхвалявала мяне аповесць "Пакуль куля ляціць", калі б не заўвага Ціхана Чарнякевіча ў літаратурным аглядзе сакавіцкіх часопісаў (газета "ЛіМ" № 17 ад 30 красавіка гэтага года): "Што да апошняга твора, то дзеяне даволі нечакана марудзіць і не выходзіць на уласна "ваенны" сюжэтны пласт, у выніку чаго ціхае вясковае жыццё падлеткаў пад акупацыяй амаль не змяняецца якасна. Адразу становіцца ясна, што па звыклай сцяжыне "маратказеяў" персанажы не пойдуць — аўтару важней паказаць будні вайны, чым уласна перастрэлкі і выбухі".

Я цалкам пагадзілася з высновай пра прыярытэты аўтарскай задумкі, але словы "марудзіць" і "ціхае" выклікалі пратэст.

У дадзенай аповесці, магчыма, упершыню ў літаратуры, аўтарам паказана, што вайна — гэта не толькі кроў, смерць, грукат гармат, душагубкі канцлагераў, гераічныя подзвігі. Чым, дарэчы, не здзівіш сучасных малодых людзей, якія звыкліся да галівудскіх баявікоў і забіваюць сваіх сапернікаў у камп'ютэрных гульнях.

Вайна — гэта яшчэ і штодзённы хранічны страх, трывога, чаканне, трагічная невядомасць і зусім незаўважны, але не менеш дзіўны подзвіг —жыць і выжыць побач з ворагам. Паказана гэта пісьменнікам праз вочы безабаронных дзяцей, у выніку чаго напруга, якая ахоплівае літаральна з першых радкоў твора, здаецца такой эмацыйна моцнай і адначасова хваравітай.

Чым больш часу праходзіць, тым больш таемнымі, нерэальнымі становяцца падзеі, перажытыя нашымі дзядамі і прадзедамі. Ужо бацькі нашы — гэта толькі дзеці той вялікай кровапралітнай вайны. Памятаю, як мне самой ніяк не верылася ў тое, што мая мама і бацька, бабуля бачылі "тых" немцаў. Немцаў, якіх завуць фашыстамі. Немагчыма было ўявіць, што мая мама пяцігадовым дзіцем бегла па вуліцы, якая з двух бакоў была абвешана зусім не кіношнымі трупамі. Што недалёка ад дзівосна прыгожага берага возера было месца пакутлівага пакарання смерцю яўрэяў. Што там, дзе цяпер наша царква, была шыбеніца, а паліцаі прымушалі людзей глядзець на пакаранне смерцю.

Гэта страшна... Але трэба было жыць. Уставаць раніцай, гатаваць ежу, мыць бялізну, палоць грады і сеяць хлеб... не маючы ні найменшай упэўненасці ў тым, што гэтую капусту, звараную ў печы, будзеш есці ты, а не фрыц, што надзенеш гэтую чыстую бялізну, што збярэш гэты хлеб, што ўвечары ляжаш спаць, а раніцай абавязкова прачнешся, і цябе не спаляць разам з тваёй хатай...

Генадзь Пацыенка з вялікім майстэрствам перадаў адчуванне ваеннага, штодзённага, напружанага быцця. Жыццё вёскі, дзіцячыя гульні, прырода, нават куры і адзіны на ўсё сяло конь Віцязь — усё поўнае трывожнага чакання. У кожным руху, слове, подыху ветра штосьці палохае сваёй таямнічасцю.

Выява велізарнага вяза, які быў наглядальным пунктам для дапытлівага і спрытнага Ягора, выпісаны аўтарам так падрабязна, што "бачыш" кожны сучок, кожны лісток магутнага дрэва, якое захавалася і да нашых дзён, як захаваўся, нягледзячы на пакуты, наш мужны народ з яго верай і любоўю да роднай зямлі.

Возера з чаротамі і лозамі па берагах, поўнае рыбы, якую няма каму, ды і страшна лавіць, бо могуць наляцець нямецкія самалёты, а куды схаваешся на вадзе? Гэта возера ў буру зарабацiла, задрыжала, і вецер пагнаў па ім ад берага "лодку-даўбёнку" з трыма разгубленымі дзяўчынкамі. Як падобна гэта выява на трывожнае і небяспечнае, а зусім не "ціхае" жыццё ў акупацыі.

…Закінутыя пабудовы на іншым беразе возера, у якіх хаваліся невядомыя людзі, аддаленыя гукі выбухаў на чыгунцы, загадкавы Снегірыны лес, надзейна абараняе партызан. Якія яны, гэтыя партызаны? Разам з Ягорам чытач здагадваецца, што бацька хлопчыка невыпадкова так часта знікае ў Снегірыным лесе, што нямы пастух — не пастух зусім, а партызанскі сувязіст з радыёперадатчыкам і пісталетам у кішэні фуфайкі, што перакладчык немцаў — падпольшчык, які выратаваў не адно жыццё землякоў...

Праз вобразныя намёкі, цікавыя штрыхі пісьменнік-мастак неўзаметку малюе вайну "дарослую". Таму і галоўнаму герою, і мне, чытачу, становіцца спакойней: яны, дарослыя, мужыкі, партызаны, не дадуць у крыўду дзяцей і баб, вёску сваю, гэта возера, каня Віцязя і гарадскую дзяўчынку Інгу.

У аповесці Генадзя Пацыенкі "Пакуль куля ляціць" няма гісторыі кахання ў тым выглядзе, у якім мы звыкліся сустракаць яе ў апошнія гады, калі выраз "займацца любошчамі" стаў звыклым нават для маленькіх дзяцей.

Але вельмі кранальна выглядае гісторыя зараджэння дзіцячага чыстага сяброўства з іскрынкамі сапраўднага пачуцця паміж Інгай і Ягорам, які так асцярожна клапаціўся і ахоўваў сваю сяброўку. Праз шматлікія гады, ужо студэнтам, і нават цяпер, на схіле гадоў, ён увесь час шукаў і шукае Інгу, якой, на шчасце, атрымалася санітарным цягніком вярнуцца ў Маскву, да бацькоў: "У сваіх марах я мацней за ўсё любіў наша з ёй сяброўства, святлей за якое нічога не сустрэў. І дагэтуль я пільна ўзіраюся ў твары жанчын, гляджу ў вагонах метро і іншых месцах, шукаю аддалена падобныя рысы, спрабуючы адгадаць даўно сталую Інгу..."

Вядома, аўтар мог бы напісаць замест аповесці цэлы раман, які распавядае пра жахі вайны і пра гераічнасць абаронцаў Радзімы, але ён шчыра прызнаецца, што "распавёў гісторыю не да канца. Зрабіў гэта наўмысна, каб далячынь яе дадумалі самі чытачы". Генадзь Пацыенка не крыўдзіць чытача, не пакідае яго ў роспачнай недасведчанасці пра лёсы персанажаў, а ў сваёй "сталай споведзі" ўсё-ткі завяршае кароткае апавяданне пра кожнага. І нечакана з'яўляецца пачуццё падзякі да аўтара за такое асцярожнае і цёплае (як да маленькай Інгі) стаўленне да далёкага і прывіднага для яго чытача.

Нельга не адзначыць і сімвалічную, вельмі ўдалую і прыгожую назву аповесці "Пакуль куля ляціць". Пакуль куля ляціць, апошняя куля для кожнага чалавека, трэба ўмець і паспець жыць. Чыста, светла, высакародна....

Наталля САВЕТНАЯ

# Першая Прыгажуня і іншыя

У РВУ "Літаратура і Мастацтва" пабачыла свет новая кніга казак Алены Масла "Першая Прыгажуня". Кніга яскрава сведчыць, што калі за пяро бярэцца таленавіты пісьменнік, то ён у самым, здавалася б, архаічным жанры можа сказаць сваё слова, узняць праблемы, якія ва ўсе часы не страчваюць свайго значэння, актуальнасці. Зразумела, калі пры гэтым увесці ў сюжэтную канву пэўныя элементы сучаснасці, што акурат удала і зроблена ў казцы "Першая Прыгажуня".

Згодна з казачным канонам, падзеі, пра якія расказвае А. Масла ў творы, адбываліся вельмі даўно. Але паколькі яна напісала казку сучасную, то, калі ласка... — "... прапрапрапрадзед таго караля, які і сёння правіць краінай, выдаў загад штогод праводзіць тур Прыгажосці. Турнір гэты нагадваў рыцарскі, толькі змагаліся на ім дзяўчаты, і не пры дапамозе зброі, а выключна хараством". Няжкая заўважыць падабенства з сучаснымі конкурсамі, на якіх выбіраюцца розныя міс. У казцы "Першая Прыгажуня", пра што сведчыць і назва твора, таксама вызначаюць самую вабную дзяўчыну. Ды не для таго, каб яе тытулаваць. Яна павінна стаць жонкай каралеўскага сына, які дасягнуў паўналецця.

Простую, гаспадарлівую, але разам з тым і вельмі прыгожую дзяўчыну, і мусіць вызначыць турнір. Каб адшукаць такую прэтэндэнтку, каралеўскія ганцы адправіліся ва ўсе куткі краіны. Нарэшце, "ля пахілай лесніччоўкі, што стаяла ў глухой пушчы" яны і напаткалі прыгажуню Зараніцу, якая жыла са сваёй маці. Здавалася б, калі ёсць прыгажосць, ды да ўсяго каралеўская воля, то і стаць Зараніцы жонкай каралевіча. Дакладней, нават каралевай, таму што бацька згодзен пасля жаніцьбы сына перадаць яму ўладу ў каралеўстве.

Толькі не так усё проста, як падаецца на першы погляд. Гэта ў добрых старых казках дзяўчаткі, кшталту Папялушкі, лёгка знаходзілі сваё шчасце. У Зараніцы ўсё куды складаней. Ёсць ахвочыя ісці супраць каралеўскай волі, абы не трапіла на трон прэтэндэнтка з простай сям'і.

На турніры вакол выбару пераможцы страсці настолькі накаляюцца, што пачынаюць выходзіць за межы казкі. Паўстае самае што ні ёсць паўсядзённае жыццё, калі нярэдка плятуцца інтрыгі, сутыкаюцца думкі розных груповак, нараджаюцца чорныя задумы. Праўда, А. Масла ні на хвіліну не забывае пра тых, каму адрасуе сваю кнігу (у першую чаргу гэта дзеці сярэдняга школьнага ўзросту). Таму, узнімаючы сур'ёзныя праблемы, не пераходзіць, калі можна так сказаць, узроставую планку.

Пра тое, што адбываецца падчас гэтага турніра-спаборніцтва, расказваецца проста, хоць і з самым сур'ёзным падыходам, псіхалагічнай дакладнай вымалёўкай персанажаў. Міжволі ловіш сябе на думцы, што паводле гэтага твора можна напісаць неблагі сцэнарый для будучага фільма-казкі. У наяўнасці займальны сюжэт, відавочны дынамізм дзеяння, адметныя, запамінальныя героі.

Адзін "пан Павучыдла з роду Павуковічаў", які ўзначальвае гэты турнір прыгажосці, чаго варты. Поруч персанажы не менш каларытныя. Яны хоць і казачныя, ды быццам з самога жыцця ўзятыя. Пана Павучыдлу, безумоўна, да




тых, хто ўвасабляе сабой сумленнасць, не аднясеш. Як і зласліўку Шчэпку, якая дапамагае яму праводзіць гэтае "справядлівае" спаборніцтва для вызначэння самай прыгожай дзяўчыны. Недалёка ад іх адышлі пані Пудра, пан Пэндзаль і пан Чорны Аловак, якія гатовы на ўсё што заўгодна пайсці, каб толькі Зараніца не стала пераможцай. Ды казка не была б казкай, калі б у ёй злу не супрацьстаяла дабро.

Увогуле, сама казка ў пэўнай ступені завяршаецца па сутнасці шматкроп'ем. У канцы твора, як кажуць, кропка над "і" так і не пастаўлена. Хоць, калі дождж змыў фарбу з твару пляменніцы Шчэпкі, усе адразу ўбачылі, што ніякая яна і не першая Прыгажуня, але і Зараніца ёю не стала. Гром, абураны той несправядлівасцю, што адбывалася ў час турніру, забраў Зараніцу з сабой. Праўда, дадаецца, што "ў Зараніцы ўсё было, як Гром напрарочыў. І маці на ногі паднялася, і прынца свайго дачакалася".

Такое завяршэнне твора падаецца найбольш удалым. А. Масла тым самым запрашае юнага чытача, па сутнасці, у сааўтары, даючы яму магчымасць самому прасачыць у думках далейшае разгортванне сюжэта. Тое, што хаваецца за словамі: "І па гэты дзень жывуць яны (Зараніца з тым прынцам, дый, мабыць, старэнькая маці, якую дзяўчына так любіць — А. М.) шчасліва ці то недзе ў яго заморскім палацы, ці то ў сціплай лесніччоўцы: калі ёсць каханне, месца жыхарства не такая ўжо істотная рэч", дазваляе суаднесці казку з актуальнымі праблемамі сённяшняга дня.

Такі падыход, безумоўна, актывізуе чытацкае мысленне, што, пагадзіцеся, сёння, калі школьнікам ці не ўвесь белы свет засланіў камп'ютэр, важна. Значыць, казка "Першая Прыгажуня" пісалася не марна. Урэшце, як і ўсе астатнія творы, што ўвайшлі ў гэтую цікавую кнігу.

Адметнасць жа казак А. Масла яшчэ і ў тым, што яны (магчыма, каму-небудзь у дачыненні да гэтага жанру падобнае сцвярджэнне і падасца дзіўным) жыццёвыя. Хоць дзеянне ў іх шмат у чым і далёкае ад рэальнасці, тым не менш часцей за ўсё, як і ў той жа казцы "Першая Прыгажуня", відавочна набліжанасць да паўсядзённасці. Цалкам апраўдана тое, што вызначана ў якасці падзагалоўка да кнігі — "Мудрыя казкі — малым і вялікім падказкі". Якую з іх ні возьмеш, гэтае сцвярджэнне бачыцца справядлівым. Як, напрыклад, "Гісторыя адной Канапы".

Усё пад гэтым небам старэе. Чалавек дажывае адведзены яму Усявышнім век, а рэчы ... Лёс рэчаў залежыць ад волі тых, каму яны не адзін год служылі верай і праўдай:

"— Ламаччына! — вынес аднойчы Канапе прысуд Гаспадар. Пасля яе пагрузілі ў машыну і адвезлі на лецішча, куды зазвычай адпраўляюць старыя рэчы".

Як і кожны на яе месцы, Канапа нудзілася. Аднак неўзабаве яна знайшла хаўрусніказ сярод гэткіх жа старых рэчаў, што таксама пыліліся на гарышчы — Шафу з ляшчыны, Калаўрот, на якім калісь ніткі пралі, старую швейную машыну Зінгер, Патэфон... Новыя сябры танцавалі, спявалі і... Як жа ў казцы... без казкі? Канапа нават пачала расказваць іх.

У творы гучыць думка пра тое, што ў жыцці многае залежыць ад таго, як да ўсяго ставіцца. Ніколі, нідзе не трэба пасаваць — вось галоўная выснова. Старая ж Канапа сёння... Дзе б вы думалі? Разам з іншымі старымі рэчамі, са сваімі новымі сябрамі, яна трапіла ў музей. Ды яшчэ ўзятая... на пасаду галоўнага экскурсавода: "Са спружынамі дамовілася, што на людзях рыпець не будуць, пацёртую абіўку прыкрыла саламяным капялюшыкам у кветкі, чаравічкі на абцасіках абула — выглядае лепш не толькі за сваіх аднагодак, але і за навейшыя канапкі. Адбою няма ад ахвотных прайсціся з ёю па экспазіцыі — такая Канапа прывабная і столькі цікавага ведае".

Абыякава ставіцца да таго, пра што расказвае А. Масла, сапраўды, нават дарослы не зможа. Што ж у такім разе пра дзяцей казаць. Яны, несумненна, з цікавасцю пазнаёмяцца з "Кітайскімі ліхтарыкамі", іх прывабіць "Самы лепшы грыб", не пакіне іх абыякавым "Сок з альясу". Захочацца зазірнуць у "Балотную кансерваторыю", даведацца пра "Крыўды старога Вадзяніка", убачыць "Саву на царстве". Усё гэта назвы асобных казак. Іх жа ў зборнік трапіла яшчэ некалькі. У тым ліку і "Казка пра нябачныя крылы і нячутную песню". Казкі гэтыя без "сюсюкання" і без голага маралізатарства. Пісьменніца размаўляе з юным чытачом на роўных і пры гэтым дае яму ўрокі самога жыцця.

Кнігай "Першая Прыгажуня" А. Масла засведчыла, што яна сапраўды першая. Бадай, немагчыма знайсці сёння ў беларускай літаратуры прадстаўніц малодшага пакалення, якія б гэтак упэўнена абжывалі стары, але разам з тым вечна малады жанр казкі. Істотна і тое, што яна працуе ў ім надзвычай упэўнена. Інакш і быць не можа, бо менавіта казка дазваляе ёй лепш раскрыць свой талент. А. Масла не "перабягае" з жанру ў жанр, як гэта робяць некаторыя аўтары, якія таксама пішуць казкі, а спакваля абжывае сваю творчую дзялянку, шчодра засяваючы яе, дбайна аздабляючы, а таму і збіраючы такі плённы ўраджай.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# Вачыма маладых

Бярэзінская раённая бібліятэка правяла акцыю "Раскажы, сучаснік, пра вайну!" і выдала літаратурны альманах "Пра вайну — вачыма новых пакаленняў". Выданне змяшчае 32 літаратурныя допісы. Пераважна гэта прысвячэнні, адрасаваныя бацькам, дзядам і прадзедам, якія прайшлі вогненнымі дарогамі.

Творчасць "дзяцей вайны" прадстаўлена допісамі Уладзіміра Гайдука з аграгарадка Паплавы і Дзіны Трапянок з Беразіно. Успаміны У. Гайдука (1935 г.н.) заснаваныя на ўражаннях 7-гадовага хлопчыка, які рыхтаваўся да школы — і раптам усё спыніла вайна. Свайму дзядзьку, ураджэнцу вёскі Паложына Андрэю Мігелю, аўтар прысвяціў допіс "Мужны абаронца Ленінграда". Уражанні ад вайны, убачанай дзіцячымі вачыма, тонка перададзены ў вершах Д. Трапянок, ураджэнкі Арлоўскай вобласці, якую 10-гадовай дзяўчынкай вайна застала з сям'ёй пад Бабруйскам. Цёплым лірызмам і гонарам вее кожнае слова допісу настаўніцы з Любушан Галіны Яблонскай, прысвечанага дзядулю Іосіфу Лявіцкаму.

У раздзеле "Проза" варта адзначыць апавяданне "Горкі пах недаспелых яблыкаў" жыхара вёскі Якшыцы, дэбютанта часопіса "Маладосць" Сержука Каліты. Аўтар малюе трагедыю ваеннага дзяцінства, калі з прыходам карнікаў парушылася мяжа паміж дабром і злом. Выпускніца Бярэзінскай гімназіі студэнтка Магілёўскага універсітэта харчавання Наталля Нікалаева прадставіла апавяданні "Бабуліна гімнасцёрка", "Адключаны тэлефон", "Сэрца ветэрана". Тонкім псіхалагізмам праскнута апавяданне "Сустрэча" прысвечанае прадзеду Івану Фёдаравічу.

Шырока прадстаўлена паэтычная творчасць бярэзінцаў. Педагог-арганізатар Каменаборскай СШ Алена Кудзіна ў вершы "Шлях да Перамогі" асэнсоўвае цану Перамогі, на алтар якой пакладзена жыццё кожнага трэцяга беларуса. Паэма "Апошні бой" настаўніка СШ № 3 Уладзіміра Сакава мае пралогам тэкст знойдзенай у гільзе юнымі следапытамі запіскі — пасмяротнага паслання сялянскага хлопца з вёскі Заўруткі з просьбай адпомсціць ворагу за ўсіх, хто загінуў у абарончым баі за рубеж каля ракі Бярэзіны. Дарэчы, паэтычны твор У. Сакава стаў пераможцам абласнога конкурсу, праведзенага ў 2009 г. да 65-годдзя вызвалення Беларусі.

Прэзентацыя літаратурнага альманаха адбылася ў школах Беразіно.

Тамара КРУТАЛЕВІЧ,
аўтар літаратурна-творчага праекта
"Раскажы, сучаснік, пра вайну!"

**Жаночая паэзія з'яўляецца своеасаблівым дыскурсам дыхання жаночай сутнасці. Кожны радок — гэта дыялектыка разумення кахання. Выяўленне лірычнай гераіні часта з'яўляецца дваістым: яна або свабодная жанчына, або пакутніца. Самае цікавае, калі гэты ўяўны (і адначасова рэалістычны) свет будуецца на несупадзеннях жаночай суб'ектыўнай прасторы: тады з'яўляецца ўражанне вектарнай градацыйнасці ў стварэнні паэтычнага тэксту.**

# Дыханне сутнасціжаночай

Так і ў вершах Вольгі Норынай адчуваецца душа паэткі, становіцца зразумелай яе пазіцыя — лабільная (зменлівая) і дыскрэтная (перапынная). Як амаль усе сённяшнія жанчыны-паэткі, Норына трывала замацавала за сабою свой хаатычны свет, які не ўяўляе стану "норма" і "антынорма". "Жаночая гісторыя" гэтай паэткі праяўляецца ў падзейнасці, насычанай афектнасцю, якая ў сваю чаргу характарызуецца перажываннямі і рэфлексіяй.

Кнігу паэзіі і прозы Вольгі Норынай "Пока на свете есть сирень"(2009 г.) я ахарактарызавала б яе ж словамі: "Я не плачу! Дождь заплакал стёкла, // Просто я глядела сквозь стекло". Яе вершы пранізваюць і боль, і слёзы, і ціхі сум, але ў выніку атрымоўваецца звычайнае назіранне праз "шкло". Гэта шчыра? Я б сказала, што так. Субстанцыяльны вобраз лірычнай гераіні ацэньваецца праз кантрастнае выяўленне пэўных сітуацый. Паэтка стварае сабе аб'ект — мужчына, "безалаберный", "звезда в пустоте Вселенной", з якім ствараецца новая эмацыянальная гісторыя: каханне, разрыву, чакання. Яе ірэальнае "я" становіцца своеасаблівай псіхасацыяльнай формай, якая выяўляе станоўчыя ці негатыўныя адносіны да свайго аб'екта.

Вольга Норына — паэтка старэйшага пакалення, яе не закранула філасофія постмадэрнізму суб'екта. Яе гераіня — моцная, паўнапраўная жанчына, якая жадае кахаць, якая расчароўваецца, якая знаходзіць сваё, часам падманваецца, але не страчвае надзеі. Традыцыйную нацягненую формулу верша маланкава разрываюць глыбока асабістыя маналогі: "Посвятить тебе книгу? Солгать и признаться, // Что ты был в моей жизни важнее, чем снег?".

Маючы пэўны вопыт за сваімі плячыма, паэтка не рызыкуе эксперыментаваць. Яе вершы "класічнай" будовы не адзначаюцца смеласцю формы і рыфмы (праскоквае "бедная рыфма": клеймо-дано; бури-дури; вино-дано; кровь-любовь), але маюць перавагу ў зместавым плане. Часта ў дадзеных паэтычных і празаічных тэкстах можна знайсці спробы да афарызацыі (трэба адзначыць, што даволі ўдалыя): "Иду к врагу — встречаю друга, // а в друге нахожу врага", "Жизнь исключительный подарок. // Прекрасен мир — такой уж есть" і г.д. Традыцыйнае разуменне жаночай функцыі (быць аддана, каханкай, сяброўкай, гаспадыняй, па статусе мець падпарадкаваную ролю) застаецца ў шматліках вершах Вольгі Норынай (вершы "Зимний парк", "По знобкой сырости спасались", "Душа по-девичьи легка" і празаічных нататках "Падарункі для караля", "Прости нас всех, Илона", "Креветки на завтрак" і г.д.) Існуе таксама спроба стварэння рэалістычнага зместу (асабліва ў прозе), але творы па сваёй мастацкай вартасці, хутчэй, нагадваюць дзённікавыя запісы, нататкі ў жаночых папулярных часопісах, чаго не скажаш пра ўзровень вершаў. Хаця трэба заўважыць, што між напісаннем вершаў і празаічных замалёвак у дадзенай кнізе — перапынак у дзесяцігоддзі, што само па сабе сведчыць пра развіццё пісьменніцкіх здольнасцей.

Марыя ПАЎЛОЎСКАЯ



Казімір КАМЕЙША

## Дзень і ноч

Краёк фіранкі, адхініся, —
І ўбачу я здалёку зноў:
Сядзяць, нібы з акном зрасліся,
Дзве сіраты — і Дзень, і Ноч.

Здранцвелі дужкі акуляраў,
Схапілі слых у кіпцюры.
Яна — з такім балючым тварам
І ў марсіянскім каптуры.

І ён з цыгаркай засмактанай
Ды з кульбай чуйнаю ля ног.
Адным акенцам паяднаны,
Як шыбы дзве, — і Дзень, і Ноч.

Два ціхія радкі жалобы
Што лівень нават не размыў.
Пасля працяглае хваробы,
Пасля працяглае зімы.
У коміне рагочуць чэрці,
Ажно трасецца саганок.
Не разарваць іх нават смерці,
Яны зрасліся — Дзень і Ноч.

А вочы быццам ашклянелі —
Ні парушынкі, ні слязы, —
Як ля самотнае пасцелі
Два для малітвы абразы.

Зіма разгорне ліст паперы.
Ён белы летам і вясной.
Даўно забыліся на дзверы,
Ёсць толькі вечнае акно.

Адчайна стогне бор настылы,
І праяўляюцца знарок
Два белых твары
негатывам
На плёнцы шэрае старой.

Праз свет увесь,
праз успаміны,
Як здані, услед ідуць за мной
Дзве кропкі,
дзве мае слязіны,
Дзве далячыні — Дзень і Ноч.

* * *

Спорна лісце клён стары трасе,
Нават ценям боязна хадзіць.
І гарбаты месяц на страсе
Усю ноч задумліва сядзіць.

Я шчыльней фіранку захіну,
Пахісну задумлівы вазон.
Мне б хаця пад раніцу заснуць,
А гадзіннік недзе гоніць сон.

Ён хістае цёмную сцяну
І глядзіць з-пад
хітрых броў крадком.
І хвіліну мне яшчэ адну
Адбівае медным малатком.

Час мой хоць каваль і не скупы,
Асыпае шчодра медзяком.
Толькі на апошні свой іспыт
Я прыйду ўсё роўна жабраком.

* * *

Ядраніста выспявае лета,
Ветразь ночы недзе ў сон плыве.
У калодзеж падаюць ранеты,
Прарастаюць зорамі ў траве.

Заўтра трэба
прачынацца рана,
Ну а я муштрую час,
Не сплю
І хлусню стамлёных цераблю.

Конікі стрыгуць на ўсе нажніцы,
Падразаюць крылы цішыні.
Ёсць свае ў ночы таямніцы,
Не трывож іх, Божа барані.

Хай рыпяць спалоханыя дзверы,
Уздыхаюць клямкі цішынёй,
І чыесьці грэшныя намеры
Лечацца даўнейшаю хлуснёй.



Валерый МАКСІМОВІЧ

## Услед за марай

З гадамі пражытымі верыш радзей
У добрую казку,
з дзяцінства чаканую,
І чэзне агонь летуценняў-надзей,
І вера скупее ў зямлю абяцаную.

Звыкаешся з ладам
жыццёвым няўзнак
І дням дараваным
ужо не здзіўляешся,
Хоць сам па натуры,
здаецца, дзівак, —
Так рэдка да цуду
душой дакранаешся.

А недзе пад ветразямі караблі
Штурмуюць упарта
прасторы бязмежныя,
А там, на чароўнай далёкай зямлі,
Жывуць дружна людзі,
душою няўлежныя.

Напорыста мкнуць яны за небакрай,
Адвагай адчайнай і рупнасцю гнаныя,
Удзячныя шчыра — каго ні спытай —
За выпрабаванні,
ім небам спасланыя.

Адзінаю праўдай з'яднаны яны,
Адзінаю верай —
нярушнай, глыбокаю:
Асуджана сэрца быць век ледзяным
Адно у звыроднага, хіжага лёкая.

Хай доля яго нас усіх абміне…
Ды, кінуўшы погляд
на хеўру драпежную,
Прашу: залічыце, сябры, і мяне
У вашу дывізію сэрцамяцежную.

## Майму сыну

Мой сын, маё зярнятка залатое,
Мой спеў, мой боль, надзея і любоў,
Найсветлае маё і дарагое,
Што мне падараваў ласкава Бог.
За ўсе мае блуканні і трывогі,
За веру, што ў душы сваёй насіў…
Напорыста вяла мяне дарога,
Гукаў вясны чаромхавы разліў.

Я песціў мары і спяліў каханне
Сярод высокіх белых аблачын —
На свет з'явіўся ты, доўгачаканы
Адзінакрэўны мой любімы сын.

На сэрцы радасць птушкай трапятала,
І свет перамяніўся на вачах, —
Лягчэй, дальбог,
з табой мне дыхаць стала
І думаць пра жыцця свайго працяг.

Мінаюць дні чародкай несупыннай,
І часам цяжка мне сябе стрымаць,
Каб не сказаць:
"Сынок, ты — малайчына!
Смялей кіруй наперад!
Так трымаць!"

На ўсіх шляхах
і ростанях жыццёвых
Хай век цябе засцерагае Бог
І будуць мной прамоўленыя словы
Як самы твой надзейны абярог.

## Белы мой будзень

Белы мой будзень — ад яркага сонца,
Чыстага неба, высокай званіцы,
Ад неабсяжнае далі бясконцай
І жыватворнага паху зямліцы.

Белы мой будзень —
ад вабячых гоняў,
Ад аксамітавых красак у лузе,
Што маё сэрца заўсёдна палоняць,
Мроі-жаданні нязбытныя будзяць.

Белы мой будзень — ад шчырага слова,
Позірку яснага, светлай спагады,
Ад задушэўнай і цёплай размовы
І ад сяброўскай прыязнай парады.

Белы мой будзень — як згадка аб лецe,
Аб непаўторна-хвалюючым цудзе…
Ды, падаецца, найлепшы у свеце
Белы мой будзень —
вы, добрыя людзі.

І паміж сонца заходам, усходам
Невыпадкова часам падасца:
Маючы столькі даброт і выгодаў,
Чорнага будня мне не дачакацца.



Фота Алеся Высоцкага



Вольга ЛЮБАШЫНА

**Дэбют**

Вольга Любашына (Вольга Фёдараўна Талярoнак) нарадзілася ў 1960 годзе. Жыве ў Мінску. Вядомая як руская дзіцячая пісьменніца. Сёння ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" — яе першая публікацыя вершаў на беларускай мове.

## У садзе

У садзе квітнеючым,
быццам бы ў казцы
Цудоўная птушка прыгожа спявае.
Дзіцятка малое сядзіць у калясцы,
З цікавасцю слухае і назірае.

І вабіць той шчэбет,
што льецца навокал.
І з вуснаў усмешка яго не сыходзіць.
Зрабіць бы наперад
хоць некалькі крокаў.
Маленькі яшчэ
і хадзіць ён не ходзіць.

Трасе сваёй новай бразготкай, смяецца
І часам далоў гэту цацку кідае.
А маці на сына зусім не злуецца
І кожны раз цацку з зямлі падымае.

І коціць каляску далей па дарожцы,
З любоўю на сына глядзяць яе вочы,
І марыць, што хутка ён стане на ножкі,
І бачыць шчаслівым дзіця сваё хоча.

## Як знайсці выйсце?

Сыпле восень стракатае лісце,
Над зямлёю згусціліся хмары,
Колкі дождж моцна хвошча па твары.
Як знайсці са становішча выйсце?

Вось учора, і трэба ж такое,
Пасварыўся з каханай жанчынай
Без ніякай на тое прычыны.
Проста я быў у дрэнным настроі.

А затым павучаў свайго сына:
Прапусціў шмат урокаў у школе.
Абяцаў, што не будзе ніколі.
Разумею: сустрэчы, дзяўчына.

А яшчэ на рабоце начальнік
Мне заўвагу зрабіў, што спазніўся.
Я праспаў, а пасля закруціўся,
Нават зранку не выключыў чайнік.

Калі ехаў дадому з канторы,
Не прабіў у трамваі талончык,
Не паспеў, пераняў мяне хлопчык.
Нечакана зайшлі кантралёры.

Сыпле восень стракатае лісце.
Ну за што на мяне ўсё адразу?
Паўтараю завучана фразу:
Я знайду са становішча выйсце.

## Зорка

Бачу: зорка гарыць над зямлёй.
І так хочацца з неба дастаць,
Да яе дакрануцца рукой,
На далонях сваіх патрымаць.

Лье святло на зямлю па начах,
На світанні знікае яна.
І тады бачу зорачку ў снах
І шапчу ёй: "Мая ты, мая".

І праз цемру, дажджы і туман
Я рашуча за марай лячу.
Не баюся ні жаху, ні ран.
Разам з ёй быць заўсёды хачу.

Сярод тысячы зорак адну
Я шукаю наяве, не ў сне,
Каб сказаць, як я моцна люблю
І як жыць не магу без яе.

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

КНІЖНЫ СВЕТ

2 ліпеня 2010 г.

Выпуск 3

# Новаму праекту — доўгага жыцця



Алена КУЛІНКОВІЧ, загадчык аддзела прыёму абавязковага экземпляра Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі:

— Калісьці, пры канцы 90-х гадоў мінулага тысячагоддзя і пачатку новага, я непасрэдна прымала ўдзел у праекце газеты "Книжный мир", дзе таксама публікавалася інфармацыя пра навінкі кніжнага друку. Звесткі падаваліся тры разы на месяц, але ж тады ў іх не знаходзілі адлюстраванне кніжныя выданні, тыраж якіх быў меней за 1000 асобнікаў, а таксама школьныя падручнікі і некаторыя іншыя выданні.

Цяпер сітуацыя ў кнігавыданні змянілася. Асноўная тэндэнцыя — зніжэнне тыражоў і рост колькасці назваў. Кнігі тыражом да 500 экземпляраў складаюць амаль што 40 працэнтаў ад усіх кніжных выданняў. Таму вельмі добра, што, паводле задумак новага праекта, у раздзел "Навінкі кнігавыдання" ўключаюцца і малатыражныя выданні, сярод якіх шмат цікавых кніг навуковага, гістарычнага, краязнаўчага характару.

Любы кніжны праект, нават аднаўлены — гэта вялікі плюс. З аднаго боку, яго з натхненнем і цікавасцю рыхтуюць улюбёныя ў сваю справу прафесіяналы, з іншага — гэта добры падмурак для кнігавыдаўцоў, кнігараспаўсюджвальнікаў, бібліятэк і іншых інфармацыйных цэнтраў. Праекты ствараюць людзі, таму хочацца сказаць шмат добрых слоў на адрас нашых супрацоўнікаў. Менавіта праз іх рукі штогод праходзіць каля 80 тысяч адзінак друкаваных выданняў. Практычна кожны дзень з'яўляюцца нейкія навінкі. Цікавай для чытачоў, на мой погляд, была б аператыўная кніжная статыстыка і рэйтынгі выдаўцоў. У цэлым — планаў шмат. Жадаем новаму "Кніжнаму свету" доўгага жыцця і арыгінальнай падачы матэрыялаў.



Валянціна ЖУК, галоўны бібліёграф аддзела стандартызацыі Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі:

— Хочацца прыгадаць, што на памежжы XX і XXI стагоддзяў у Беларусі выходзілі такія газеты, як "Кнігарня", "Книга и мы", "Книжный мир", з якімі супрацоўнічала Нацыянальная кніжная палата Беларусі. Тады былі зроблены першыя крокі па прадстаўленні афіцыйнай бібліяграфічнай інфармацыі пра кнігавыданне на старонках газет.

Найбольш плённым было супрацоўніцтва з газетай "Книжный мир", якая змяшчала бібліяграфічную інфармацыю пад рубрыкай "Сігнальныя экземпляры". Інфармацыя друкавалася амаль у кожным нумары. Нягледзячы на тое, што ў Беларусі з 1924 г. выдаецца штомесячны дзяржаўны бібліяграфічны паказальнік "Кніжны летапіс", які традыцыйна з'яўляецца больш запатрабаваным у бібліятэчна-інфармацыйнай сферы, з'яўленне дадатку да "ЛіМа" і размяшчэнне ў ім бібліяграфічнай інфармацыі пад рубрыкай "Навінкі кнігавыдання" — вельмі адметная з'ява.

Праект супрацоўніцтва "ЛіМ" — Нацыянальная кніжная палата, на мой погляд, цікавы і дае падставу думаць, што жыццё яго будзе доўгім, ён знойдзе свайго чытача і з дадатку стане "газетай у газеце". Віншую "ЛіМ" і творчую інтэлігенцыю з цікавым набыткам.

# Наилучшая дипломатия

Современные белорусские книги будут представлены в крупнейших библиотеках мира. Передача наших фолиантов в мировые сокровищницы будет осуществляться в рамках нового международного проекта «Беларусь сегодня».

Первая подобная акция уже состоялась в библиотеке Конгресса США (Вашингтон). Директор Национальной библиотеки Беларуси Роман Мотульский присутствовал на заседаниях участников Мировой цифровой библиотеки и представил новый белорусский проект, подарив несколько книг представителям библиотеки Конгресса. Остальные фолианты (около ста экземпляров) будут доставлены в Вашингтон по дипломатическим каналам. Бесспорно, это самые лучшие книги, изданные в Беларуси в последние годы, которые достойно могут представить нашу страну зарубежному читателю. В их числе — литературно-художественная, научная, научно-популярная, историческая и краеведческая литература, справочники, энциклопедии, а также художественные издания и фотоальбомы. В комплект изданий входят также книги-лауреаты международных и национальных книжных конкурсов. Читатели, взяв такую книгу, смогут оценить высокохудожественное слово, узнавая о нашей стране из уст литераторов и учёных, краеведов и исследователей. Блестящие иллюстрации в фотоальбомах и максимум фактического материала в энциклопедиях помогут людям больше узнать о нашей стране и белорусах, о многовековой истории и культуре, о живописных и памятных местах нашей страны.

Такая форма культурного сотрудничества широко представлена в международной практике. Похожие проекты у нас в Беларуси представляют Германия, Франция (которая, кстати, в этом году была Почетным гостем на Минской международной книжной выставке-ярмарке), Швеция, Китай. Знакомясь с литературой, которую предлагают в наших библиотеках представительства зарубежных стран, белорусы получили уникальную возможность не только ознакомиться с их странами, но и читать художественные произведения (классические и современные) в оригинале, на родном языке автора.

Сегодня белорусская книга занимает достойное место в отечественном информационном пространстве. Комплекты изданий, переданные в разные страны мира, расширят горизонты нашего книжного мира и смогут положить начало созданию за рубежом коллекций белорусистики.

Инициаторами проекта выступили Министерство культуры Республики Беларусь и Министерство информации Республики Беларусь, при активном участии Министерства иностранных дел Республики Беларусь и Национальной библиотеки Беларуси.

Планируется, что передача книг в крупнейшие мировые библиотеки будет осуществляться ежегодно.

Рина НОВАК

SOS!

# Ушел конкурент — книга из Беларуси




**В связи с введением уплаты НДС (налога на добавленную стоимость) по стране назначения, с 1 января 2005 г. в отношениях государств Россия — Беларусь в книгоиздательских и книготорговых партнёрских отношениях мы имеем полный паралич. Российские партнёры из-за сложностей в оформлении сделок отказываются поставлять книжную продукцию в Беларусь. Также отказываются и от белорусских поставок в Россию.**

Причин этому несколько: сложность оформления документации НДС, жёсткие сроки. В России экспорт в Беларусь поставлен в худшие условия, чем в другие страны. У нас в стране факт экспорта продукции надо подтвердить в течение 90 дней, в то время как в других государствах — в течение 180 дней со дня оформления торгового договора. За просрочку не во время предоставленных документов предусматривается оплата большой пени. Вот и получается, что российским издательствам проще прекратить отгрузки в Беларусь, чем выплачивать «штрафы». Тем более, что объём книжной продукции, поставляемой в Беларусь, в различных издательствах незначителен, он колеблется от 3 до 8 процентов.

С другой стороны, в России в настоящее время наблюдается переизбыток своей литературы, по данным российской прессы до прилавка доходит только 15 процентов изданных книг. Исходя из этого, белорусская книга в России не нужна, это лишний конкурент для российского книжного рынка. Раньше мы могли конкурировать на российском рынке благодаря качеству продукции, цене, книгообмену и тем, что поставляли товар на чистую консигнацию, т.е. налоги платились по мере реализации продукции и было право возврата нереализованной книжной продукции. Сегодня белорусские книгоиздатели и книготорговцы лишены российского рынка, рвутся налаженные партнёрские отношения.

За белорусскую книгу российский книготорговец обязан до 20 числа месяца, следующего за отчётным, заплатить НДС в полном объёме, это также касается и белорусских книготорговцев. При этом не учитывается, продан товар или нет, а если реализатор эту книгу не продаст, ему НДС (уже уплаченный) никто не вернёт. При этом происходит потеря денежных средств. Понятно, что в такой ситуации книга из Беларуси не нужна ни в каком виде, от неё лучше отказаться.

На сегодняшний момент практически во всех случаях получается двойное налогообложение, фактически не работает механизм возврата НДС экспортёрам. Торговые Дома (ТД), или так называемые представительства, не спасают ситуацию. Механизм работы открытого представительства крайне затруднён.

До 1 января 2005 года крупными ввозчиками книжной продукции в Беларусь были индивидуальные предприниматели (ИП). Теперь, при обязательной уплате НДС, они берут только гарантированно продаваемые книги или же новинки книжного рынка, т.е. ассортимент и количество поставляемой ими на белорусский рынок книжной продукции сузился в десятки раз. А так как наши индивидуальные предприниматели берут книжную продукцию у своих коллег, российских предпринимателей, а те освобождены от уплаты НДС, то книги автоматически дорожают на 20 процентов.

Крупными покупателями белорусских книг в России были российские предприниматели, но в связи с тем, что они освобождены от уплаты НДС, в отличие от наших ИП, они не могут предоставить документы, подтверждающие уплату НДС, для дальнейшего зачёта нашим белорусским издателям и книгораспространителям. Канал сбыта белорусской книжной продукции российскими предпринимателями без объявления юридического лица также закрыт.

Из этого можно сделать вывод: из-за введения уплаты НДС по стране назначения из всех отраслей больше всего пострадала книжная отрасль Беларуси, отрасль, у которой импорт составлял 90 процентов и экспорт также составлял 90 процентов. В России всё это проходит безболезненно, им даже стало легче работать на книжном рынке, ушёл лишний конкурент — книга из Беларуси.

Исходя из реалий, происходящих на книготорговом рынке Республики Беларусь, можно предположить, что если ничего не будет изменено в законодательной базе, мы и дальше будем наблюдать ситуацию абсурда. Мы не увидим на нашем рынке российских издательств и книготорговых предприятий, кроме единичных представителей, а наши белорусские издательства и книготорговые предприятия также не будут представлены в полном объёме в Российской Федерации (кроме книжной продукции АСТ — Харвест).

Изменить ситуацию на книжном рынке можно только одним из двух путей: 1) возврат на старый принцип уплаты НДС по стране происхождения при торговле с Российской Федерацией; 2) скорейшее принятие Соглашения о создании благоприятных условий для взаимного обмена печатной продукцией в рамках СНГ (проектом документа предусмотрено освобождение книжной отрасли от НДС в рамках СНГ).

Дмитрий МАКАРОВ,
генеральный директор ПК ООО «Макбел», руководитель ярмарки «Мир книг», вице-председатель Минского столичного союза предпринимателей и работодателей

## Унікальныя выданні



Обложка издания, 2010 год


Одна из иллюстраций к книге.


Оформление заголовков Полины Чех.

По большому счёту искусство книги — это её способность быть достойно представленной читателю. Одинаково важно и здесь и содержание, и оформление, и исполнение. Всё — во имя того, чтобы новорождённое "дитя" радовало и ум, и сердце, и глаз. Для этого вдохновенно работают и авторы, и издатели, и полиграфисты. У белорусов наработан достаточный опыт, который, тем не менее, из года в год совершенствуется. Свидетельством тому — итоги ежегодного конкурса «Искусство книги», учредителем которого является Министерство информации Республики Беларусь. Из первоначальных нескольких номинаций конкурс вырос в масштабный проект. У него теперь есть Гран-при, 12 основных, 8 специальных и 3 персональные номинации. "Кніжны свет" будет знакомить читателей с лауреатами конкурса. И одновременно говорить о тех находках, которые позволили книге стать победительницей в своей номинации.
А сегодня — всё о книге, удостоенной высшей оценки — "Гран-при".

# Новое прочтение легендарной книги

В этом году самым важным событием для издательства "Мастацкая літаратура" и всей книгоиздательской сферы нашей страны можно назвать выход книги «Никогда не забудем» (Рассказы белорусских детей о днях Великой Отечественной войны), приуроченный к 65-летию Победы. Именно этой книге было присуждено Гран-при 50-го Национального конкурса «Искусство книги». После того, как в 2002-м произошло объединение издательств "Юнацтва" и "Мастацкая літаратура", книги этого издательства уже в третий раз получают высшую награду национального конкурса. Ранее Гран-при получили издания: "Мама, маці, матуля", которое вышло в Год матери, и двухтомник "Победа", изданный к 60-летию Победы. А книга Леонида Нестерчука "Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны" получила высшую награду VI Международного конкурса стран-участниц СНГ "Искусство книги".

"Никогда не забудем" — книга, написанная детьми для детей, и сегодня является значимым историко-литературным памятником о днях Великой Отечественной войны. От неё идёт дорога к таким документальным произведениям о войне, как "Я из огненной деревни" Алеся Адамовича, Янки Брыля и Владимира Колесника, "Последние свидетели" и "У войны не женское лицо" Светланы Алексиевич. Прав оказался Янка Мавр, когда писал: "Пройдут годы, и книга станет волнующим документом для каждого".

— Изучая читательский опыт, мы видели, что и сегодня на "Никогда не забудем" собирается достаточно большое количество заказов, — рассказывает главный редактор издательства "Мастацкая літаратура" Виктор Шнип. — Но в этот раз было решено не делать очередное издание книги, а создать "книгу о книге", так как история этой книги действительно богатая. Новое издание "Никогда не забудем" состоит их 2-х частей: подробного экскурса в историю книг, и самих рассказов детей, которые были свидетелями действий фашистов на белорусской земле.



Обложка издания 1959 год.

Это уже 14-е издание книги. Впервые она вышла в 1948 году под редакцией Янки Мавра, ответственным за выпуск был Николай Гамолка, а предисловие написал сам Якуб Колас. В последний раз книга была издана в издательстве "Юнацтва" 21 год назад. В разные годы "Никогда не забудем" выходила на русском и белорусском языках, имела и разное художественное оформление. Новое издание книги прекрасно оформлено художниками Валерием Рогалевичем и Алексеем Петровым, в нём использованы и рисунки И. Давидовича и С. Романова.

— При оформлении документальной части издания архивными материалами нам помогали Национальная библиотека Беларуси, Белорусский государственный музей истории Великой Отечественной войны, Государственный архив Минской области, Средняя школа № 37 г. Минска, — подчёркивает Виктор Шнип. — Кстати, школа № 37 имеет музей этой книги, где собраны все предыдущие издания "Никогда не забудем", газетные публикации, связанные с его историей. А при оформлении последнего издания книги использованы рисунки Полины Чех, ученицы этой школы.



Так выглядело первое издание книги.

Ученики именно школы № 37 г. Минска 3 апреля 1946 года обратились в газету "Піонер Беларусі", к известным писателям и учёным, к белорусским детям: "Давайце, рабяты, пісаць кнігу…" Уже после этого в газетах "Піянер Беларусі" і "Літаратура і мастацтва" под рубрикой "Парада пісьменніка" начали появляться статьи-советы Янки Мавра "Аб чым і як пісаць у кнігу беларускіх рабят", "Юным аўтарам". Позже началась активная работа по сбору и обработке рассказов детей о войне, некоторые из них печатались в газетах "Зорька" и "Піянер Беларусі", журналах "Полымя" и "Бярозка", тем самым служили примером для детей, ещё не рассказавших свои истории.

Книга, ставшая результатом долгой и кропотливой работы писателей, студентов и журналистов, оказалась не только популярной, но и полезной. В первых изданиях книги после каждого рассказа были помещены сведения об авторах. Благодаря им, ученикам и учителям школы № 37 г. Минска удалось узнать о судьбе некоторых авторов книги, в том числе и двух учеников этой же школы Александра Козлова и Виктора Васенкова.

И сегодня про книгу "Никогда не забудем" знают многие, многие читали её в детстве, отдельные рассказы изучали на уроках белорусской литературы. Общий тираж ее предыдущих изданий равен почти миллиону, но для книги такой степени значимости этого вряд ли достаточно. Она и сегодня должна быть в каждом доме, в каждой библиотеке, люди должны знать о том, как наши родители, бабушки и дедушки, которые во время войны были ещё детьми, боролись с фашистами.

Чеслава ПОЛУЯН

## Пад вокладкай
















1. Памяць сэрца = Память сердца: апавяданні беларускіх і расійскіх пісьменнікаў / Склад. А. В. Варанцоў, А. К. Кажадуб, Г. М. Малей. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2010. — 784 с.

У зборнік "Памяць сэрца" ўвайшлі празаічныя творы, прысвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Пісьменнікі расказваюць пра вайну, пра тых, хто загінуў на палях бітваў, пра лёсы сваіх бацькоў і дзядоў. Сярод аўтараў зборніка класікі беларускай літаратуры: Васіль Быкаў, Янка Брыль, Іван Навуменка, Іван Пташнікаў, Міхась Стральцоў, Кузьма Чорны; і нашы сучаснікі: Уладзімір Саламаха, Алег Ждан, Віктар Гардзей, Міхась Пазнякоў.

2. Суслов, А. А. Творцы Победы: документальные очерки / Александр Суслов. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 160 с.

Ветэран Вялікай Айчыннай вайны, пісьменнік і публіцыст, лаўрэат прэміі "Залатое пяро" Беларускага саюза журналістаў Аляксандр Суслаў піша пра баявыя падзеі, пра мужнасць савецкіх воінаў — сапраўдных творцаў Перамогі над фашысцкай Германіяй. Сярод герояў публіцыстычных нарысаў — франтавікі і партызаны, армейскія разведчыкі і падпольшчыкі, радавыя і афіцэры. Аўтар змог стварыць яркую кнігу пра людзей, што ўнеслі свой уклад у гісторыю вайны. У выданні змешчаны фотаздымкі з архіва Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і з фотакалекцыі аўтара.

3. 1418 дней Великой Отечественной войны: Хронология событий / сост. Е. В. Малашевич. — Ростов-на-Дону: Феникс, 2010. — 422 с.

1418 дзён вайны… За гэтымі на першы погляд сухімі лічбамі — лёсы народаў свету, мільёны і мільёны жыццяў… У кнізе апісваюцца падзеі, што адбываліся ў кожны дзень вайны на тэрыторыі СССР і сумежных краін, акупіраваных гітлераўскай Германіяй. У выданні змешчана вялікая колькасць картаграфічнага матэрыялу, фотаздымкаў, выяў плакатаў гадоў Вялікай Айчыннай. Кніга з'яўляецца перавыданнем адной з частак двухтомніка "Победа", што выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура" да 60-годдзя Перамогі.

4. Леўчанка, М.У. Непраходзячы боль / Мікола Леўчанка. — Мінск: Выд. В. Хурсік, 2010. — 248 с.

У прадмове да выдання аўтар падкрэслівае, што пасля таго, як у 2009 годзе выйшла яго кніга "Уроки мужества", ён і не думаў пісаць далей пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Але аднойчы яму ў рукі трапіў спіс людзей, якія праходзілі як інваліды з дзяцінства ў сувязі з вайной… Шчымлівыя ўспаміны ўраджэнцаў Быхаўшчыны — малалетніх вязняў канцэнтрацыйных лагераў, падлеткаў, якія былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію ці сталі інвалідамі ў час Другой Сусветнай вайны склалі кнігу Міколы Леўчанкі.

5. Коваленя, А. А. С верой в Победу: Беларусь в Великой Отечественной войне: 100 вопросов и ответов / А. А. Коваленя, Б. Д. Долготович, Д. Н. Хромченко. — Минск: Беларуская навука, 2010. — 199 с.

Кніга напісана на аснове дакументальных матэрыялаў і архіўных крыніц. У ёй у форме пытанняў і адказаў на фактычным і лічбавым матэрыяле адлюстраваны важнейшыя падзеі, што адбываліся напярэдадні і ў час Вялікай Айчыннай вайны. Выданне змяшчае вялікую колькасць ілюстрацый. Кніга можа быць карыснай студэнтам, выкладчыкам, людзям, якія цікавяцца падзеямі Вялікай Айчыннай вайны.

З кнігамі знаёміла
Марына ВЕСЯЛУХА

Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара himarina@tut.by

# Ён прыйшоў!

## Нататкі рэдактара з дрэнным характарам



Алег ЖДАН

### Жоўты партфель

Чалавек, які ўвайшоў у пакой аддзела прозы "Нёмана", на мяне ледзь зірнуў. А я ўбачыў далёка не маладога чалавека, як кажуць, моцна пабітага жыццём, з жоўтым партфелем, які набыў хутчэй за ўсё па спадчыне ад дзеда-прадзеда — дзіравы, з ручкай, неахайна аблепленай скотчам. Моўчкі паклаў перада мной тоўсты рукапіс – другі ці трэці асобнік пажоўклага машынапіснага тэксту.

— Пачытаеце?

Вядома, пачытаю. У рэдакцыях не гавораць — не.

Быў аўтар нягалены, нячэсаны, вусы меў рознага колеру, адзін руды, пракураны, другі пабіты сівізной. Зразумела: цыгарэту прывык трымаць з аднаго боку вуснаў.

Што ж, гэта нічога пакуль не гаворыць. Незайздросна выглядаў, да прыкладу, Мікалай Рубцоў якраз падчас свайго паэтычнага росквіту, або ў нейкі перыяд жыцця наш Міхась Стральцоў, пакуль не сустрэў сваю Алену Прыўкрасную — сапраўды прыгожую і разумную Лену... Ну, а Мікола Лупсякоў, што жыў у сярэдзіне мінулага веку?.. "Ён начаваў на вакзалах, у кацельнях, у грамадскіх прыбіральнях, — успамінае адзін з пісьменнікаў, — на гарышчах, у пад'ездах, хадзіў у страшэнных лахманах, непаголены, нямыты, смярдзючы..." І разам з тым пісаў добрыя апавяданні. Так што не варта спяшацца з высновамі, гледзячы на рознакаляровыя вусы і старыя партфелі.

— Зайдзіце праз месяц.

Ля парога ён прыпыніўся, нібыта хацеў сказаць нешта яшчэ. Але перадумаў. Сышоў.

А рукапіс аказаўся дзіўным. Меліся фразы, абзацы, старонкі і нават раздзелы, што выкрывалі таленавітага чалавека, а былі зусім бездапаможныя. Не было ясна выяўленага сюжэта. Не было мэты апавядання. Вобразы супярэчылі самі сабе і адзін аднаму. Шмат было абяцана і нічога не выканана. І гэтак далей, і да таго падобнае.

Ён доўга не з'яўляўся, але нарэшце патэлефанаваў.

— Прыходзьце, — сказаў я. — Ёсць размова.

І ён прыйшоў.

Я гаварыў, а ён сумна слухаў, гледзячы на падлогу. Нарэшце сказаў:

— Гэты раман калісьці чыталі Уладзімір Кудзінаў і Уладзімір Жыжэнка і ўхвалілі яго. Але рукапіс патрапіў да Бубнава і ён зламаў мне ўвесь мой літаратурны лёс. А цяпер — вы, як Брэсцкая крэпасць... Што вы за людзі, рэдактары? Сумленне ў вас ёсць?

Бясконцая туга стаяла ў ягоных вачах. І так захацелася сказаць: "Добра, пакіньце рукапіс, пачытаю яшчэ раз, можа, прыдумаю, як яго дапрацаваць..."

— Што ж мне рабіць? Можа, не пісаць наогул?

Вось яно, простае і разумнае выйсце!

— Канечне, не пішыце. Грошай не заробіце, славы гэты занятак не прынясе...

— Я ўжо шмат разоў спрабаваў кінуць. Нават, як Гогаль, спальваў уначы рукапісы — так хораша стане, лёгка... А прачнуся — і да стала. Падсеў на літаратуру. Закадзіравацца, ці што? Кадзіруюць такую хваробу ці не?.. Але цяпер — усё. Кіну!

У твары засвяцілася жыццё, ажывіліся вочы, паружавелі шчокі. Ён моцна пацісную мне руку і лёгка пакіраваў да дзвярэй. А ў мяне з'явілася адчуванне, што не дарма пражыў сённяшні дзень: пазбавіў добрага чалавека ад згубнай жарсці.

Раніцай, ледзь я прыйшоў на працу, пачуўся тэлефонны званок.

— Аповед я сёння ўначы напісаў, — знаёмы голас гучаў, як з-пад зямлі. — Можна прынесці вам?..

Што ж гэта за шалёная жарсць — пісанне раманаў, аповедаў? Што за гора-бяда?

Гэта — графаман-аматар. Але ёсць як бы прафесійныя графаманы, што ўжо "прабіліся"... Не туга ў іхніх вачах, калі забіраюць рукапіс, а нянавісць. Меркавання рэдактара ім мала. Яны жадаюць пачуць галоўнага рэдактара, а то і дырэктара нашага "холдынга". Мараць не толькі пра ўхваленне сваёй працы, але і помсту. "Нічога. Пачакаем! Ён (рэдактар) не вечны!" А і сапраўды: графамана не перажывеш, бо гэта не чалавек, а з'ява. Згінуць часопісы з рэдактарамі, а ён будзе жыць!

### Усмешлівы

Яго ведаюць ва ўсіх рэдакцыях. Густая рудая шавелюра, якую ён час ад часу падбівае рукой, прыемны голас, добрая дыкцыя, усмешка на твары. Прыгажун. І пачуццё гумару якое-ніякае ёсць, — любіць распавядаць анекдоты. Праўда, нецікава піша, але гэта не так важна.

Уважліва зазірае ў вочы, трымаючы ў руцэ рукапіс. "Я толькі што быў у Аляксандра Мікалаевіча!" Рэдактар акругляе вочы: "Няўжо?" — "Так, зазірнуў па старой памяці". — "Ну і як?" — "Нармалёва! Пагаварылі". Але ж і на самай справе быў. Нават пакінуў у прыёмнай паліто. Зазірнуў, прывітаўся, зрабіў камплімент: "Як вы цягнеце такі воз?" Наогул чакаў, што Аляксандр Мікалаевіч возьме рукапіс для асабістага азнаямлення, але не дачакаўся. Мне таксама пакуль рукапіс не ўручае. Відаць, яму шкада расстацца з ім. Відаць, пакуль яшчэ разважае, сумняваецца: аддаваць або не аддаваць? Ці годны я? Нарэшце, рашыўся. Так таму і быць! "Вы ўжо, калі ласка, хутчэй! У наступны нумар паспяваю? Не? Шкада". Гэта значыць, сумненняў ніякіх: напісалася штосьці значнае. І трэба, каб літаратурная грамадскасць хутчэй і па годнасці ацаніла гэта. Чытачы атрымаюць задавальненне, а крытыкам будзе кердык!

Перад тым, як развітацца, затрымліваецца ў пакоі рэдакцыйных жанчын. Жанчыны любяць усмешлівых мужчын. А на самай справе! Загадаеце любіць маркотных ды змрочных? Выбачайце!

Праўда, піша нецікава. Але гэта не так ужо і важна.

### Салодкая жанчына

Яна ніколі не прыходзіць з пустымі рукамі. Першы раз — з рукапісам. Потым — з цукеркамі. Як вядома, рукапісаў (аўтараў), якія чакаюць чаргі на чытанне — воз, і цукеркі — мяркуецца — паскораць чаргу. Як загадаеце наступіць рэдактару? Прагнаць нельга: жанчына. Адкласці іншыя рукапісы — несумленна. А жанчына — асоба свецкая. Умее і гаварыць, і паводзіць сябе. Бярэш рукапіс дамоў на суботу і нядзелю. Два дні чухаеш патыліцу: ухваліць немагчыма. Што рабіць? Даводзіцца адкінуць правілы гжэчнасці і сказаць, чаго рукапіс заслугоўвае насамрэч. Жанчына шчыра здзіўляецца: як так? А цукеркі? З'еў?

### "І" з кропкай

— Гэта рэдакцыя? Хачу паказаць вам мае аповеды. Які ў вас адрас?

— Купіце часопіс і паглядзіце.

— А на якой мове працуеце?

— Збіраецеся паказаць аповеды і не ведаеце?

— Дык я магу хоць на рускай, хоць на беларускай. Адна мова. Толькі "і" з кропкай.

— Жадаю вам поспеху.

— А ганарары вы плаціце?

— Плацім.

— Колькі?

— Залежыць ад аўтара.

— Як гэта?

— Дурням больш, разумным менш.

— Як так?

— Разумныя не прападуць, а дурні таксама людзі, ім дапамагаць трэба. Вы які?

— Я? Гм... А колькі плаціце дурням?

— Сакрэт.

— Калі як след заплаціце — падзелімся.

— Ага, зразумела... Або вы — надта разумныя?

— А мне ўсё адно. Гаварыце, колькі. А то дадуць тры рублі — і жыві дурань дурнем...

### Невінаваты

Аўтараў крыўдзіць нельга, тым больш немаладых, добрасумленных. Яны, як правіла, людзі ўдзячныя. Уважліва выслухаюць самую строгую крытыку. Імкнуцца рэдактара зразумець. Ён, аўтар, не вінаваты, што не атрымалася, што так нелітаратурна склаўся лёс, што пацягнула да стала на старасці гадоў. Ён хавае рукапіс у торбу і на развітанне працягвае самаробную візітоўку. Падаецца, ён ніколькі не засмучаны, наадварот — шчаслівы. А чаму — зразумела. Працуючы над раманам свайго жыцця, ён, вядома, спадзяваўся на аднадушную ўхвалу, на публікацыю ў часопісе, але і дапускаў, што крытыка будзе яшчэ больш суровай. Што яго пакрыўдзяць, што з яго пасмяюцца і з ганьбай выставяць прэч. І раптам — спакойная гутарка.

Ёсць у рамане эпізоды жыцця аўтара, дзеля якіх ён і пачаў гэтую амаль бясконцую працу. Ёсць людзі, якіх любіў ён і якія любілі яго. Ёсць — якімі пагарджаў і якіх ненавідзеў. Ёсць думкі блізкія ўсім людзям. І усё гэта рэдактары заўважылі, ацанілі.

Развіталіся добра. Дрэнна толькі, што немагчыма апублікаваць раман. Сядзіш, згадваеш аўтара — самотна робіцца на душы. Жыццё ў яго было складанае, цяжкае, каб апісаць яго, ён працаваў некалькі гадоў, а ты "разабраўся" з ім за дзесяць хвілін. Спінаю ён адыходзіць да дзвярэй і ўсім гаворыць — дзякуй... Прабач, стары, ты ненашмат старэйшы (або маладзейшы) за мяне, і мне насамрэч шкада, што немагчыма табе дапамагчы.

### Нос набок

Сярод жанчын адмысловую папулярнасць набыў жанр фэнтэзі. Выбіраюць эпоху — часцей за ўсё Сярэднявечча, вывучаюць дэталі побыту, штудзіруюць слоўнікі... Месцам дзеяння абіраюць часцей за ўсё нейкую краіну без пэўных геаграфічных прыкмет. Падыходзіць і Расія — ёсць, дзе разгуляцца. Запалу — мора. Але лядачы човен у большасці выпадкаў ідзе да дна... Мужчыны аддаюць перавагу дэтэктывам. Мужчыны па духу — падарожнікі. Вось і выпраўляюць сваіх герояў у Штаты, у Японію, у Антарктыду. Ёсць аўтары, якія ўпрыгожваюць свой рукапіс малюнкамі, дасылаюць уласны партрэт, а то і два — на выбар. Сустракаюцца вельмі мужныя твары. Такім бы служыць у войску, камандаваць батальёнамі, а яны — раманы, аповесці, вершы...

...Калісьці я адхіліў ягоныя апавяданні. Даўно гэта было, але пры сустрэчы ў яго дагэтуль псуецца настрой, так што прыгожы нос заварочваецца набок. Шкада. Прыгожы мужчына. І апавяданні ў яго сустракаюцца неблагія. Але не ўсе, як і ў большасці з нас, грэшных. Ды вось з гэтым ён пагадзіцца не можа. Усе выдатныя!

Цікава, што творцы іншых напрамкаў — рэжысёры, акцёры, мастакі не-не ды і спрабуюць сябе ў прыгожым пісьменстве. Відаць, здаецца ім, што нічога цяжкага ў гэтым рамястве няма. А што тут цяжкага? Сядай ды пішы.

На жаль, так не бывае. Не бывае так, каб прыйшоў, убачыў і адразу перамог. Альбо няма Цэзара. І пасля першай спробы, яны часцей за ўсё ў рэдакцыі не з'яўляюцца...

Ёсць знаныя аўтары, якія аддзелу (прозы, паэзіі) рукапісы свае не давяраюць. Яны нясуць іх галоўнаму рэдактару. Відаць, не так крыўдна і сорамна, калі галоўны скажа — лухта, чым нейкі там... Зноў жа, просты рэдактар можа і не ведаць, што аўтар — знаны і ўліць, як не-знанаму...

### Прыгажуня

Ёсцека сярод нашых аўтараў і прыгажуня. На жаль, мы яе ніколі не бачылі, адно — чулі. Кажуць, што і постаць у яе, і хада, і святло вачэй... Усё адметнае.

Яна таксама рукапісы свае нясе галоўнаму. Дый сапраўды, чаго ісці ў аддзел, калі такая постаць? Каму аддаваць тамака свой твор?! Хто стары, хто малады... А вось галоўны — у самы раз. Эх, добра быць галоўным! Усе прыгожыя аўтаркі — твае. Вось толькі чытае рукапісы галоўны, быццам не ад прыгажуні. Быццам і не бачыў яе, не захапляўся. Прачытае, пасміхнецца ды і занясе ў аддзел. Так што можа і мы пабачым яе...

Эх, каб я нарадзіўся прыгажуняй! Ці ж я пісаў бы артыкулы ды апавяданні? Госпа-дзі! Сядзі ў падраным крэсле, слухай гэтых як быццам разумных дзядзькоў... Не, не ў рэдакцыі пад сярдзітым вокам рэдактара было б маё месца, а там, дзе разумеюць, што такое жаночая прыгажосць. Апавяданне, калі напружыцца ды засяродзіцца, кожны можа напісаць, а вось паспрабуйце прайсці па калідоры, як я! Ніцма, спадары рэдактары, ніцма!

### Геній

Ёсць у нас і свой геній. Так ён на кожнай трэцяй старонцы і аб'яўляе: геній і ўсё тут, хоць засільцеся. Ну а ўсе астатнія, за выключэнем аднаго-двух творцаў, нікчэмнасці. Што ж, геній дык геній, хто б спрачаўся. Вось толькі хочацца запытацца: навошта пасылаеш рукапіс тым, хто ацаніць як след яго не можа?

Але ж і сапраўды, ёсць нядрэнныя думкі і назіранні ў рукапісах гэтага чалавека. І каб не геніяльнасць, можа б і атрымаўся добры пісьменнік... Што ж, чалавек яшчэ не стары, а медыцына цяпер магутная, вылечваюць самыя розныя хваробы, таксама і геніяльнасць.

### Ён прыйшоў!

Дзякуй Богу, ёсць іншыя: яны прыносяць або дасылаюць рукапіс, і з першых радкоў у рэдактараў святлеюць твары... Здараецца — незнаёмыя аўтары. Тады рэдактары пытаюць адзін аднаго: ты такога не ведаеш? Хто ён, адкуль, колькі яму гадоў, дзе працуе? Хочацца хутчэй паведаміць яму, што апавяданне атрымалася, хочацца такога аўтара пабачыць.

Часам гэта дзяўчына няпэўных гадоў. Часам сталы і нямала перажыўшы мужчына. Часам... Ды хто заўгодна: мужчына, жанчына, юнак або стары чалавек. Няма ні родавых, ні ўзроставых прыкмет у таленту. Адно — нейкае асаблівае святло ў твары. І гэта, вядома, святло дару — маці, бацькі альбо Бога, каму як падабаецца.

Ідучы ў рэдакцыю, аўтар спрабуе ўявіць, хто і як яго сустрэне. Спадзяецца на рэдактара ўважлівага, дасведчанага. А на якога аўтара спадзяецца рэдактар? Здагадацца проста. На сціплага, разумнага, памяркоўнага... Можна і карацей: таленавітага. Яны — такія рэдактары і аўтары — ёсць. Дай Бог ім сустрэцца ды паразумецца.

Рэдактар нічога новага ў літаратуры зрабіць не можа. Задача рэдактараў — падтрымліваць нейкі сярэдні ўзровень твораў, творчасці. Мара рэдактара: знайсці рукапіс невядомага аўтара і абвясціць ва ўвесь голас: вось! Ён прыйшоў!

# Развагі, увасобленыя фарбамі

Леанід Шчамялёў — асоба выбітная і знакамітая ў мастацкім свеце не толькі нашай краіны, але і далёка за яе межамі. "ЛіМ" неаднаразова знаёміў сваіх чытачоў з творчымі набыткамі і персанальнымі выстаўкамі Леаніда Дзмітрыевіча, пісаў пра яго вялікі ўнёсак у развіццё нацыянальнай культуры.





Нядаўна Леанід Шчамялёў стаў лаўрэатам прэстыжнай прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2009 — 2010 гады за серыю жывапісных работ "Палітра майго часу", якая аб'яднала два цыклы: "Дзеля жыцця на зямлі" і "Гісторыі злучальная ніціна". Сюды ўвайшлі карціны, створаныя ў розныя гады адзначаным шырокім грамадскім ды дзяржаўным прызнаннем, прыкладам, "Маё нараджэнне" (1967), "Генерал Даватар" (1975), "Развітанне з Радзімай" (1981), "Музычны Віцебск" (2005)... Частка работ прысвечана памяці Вялікай Айчыннай вайны, удзельнікам якой Леанід Дзмітрыевіч быў з першага па апошні дзень.

Сталічная галерэя "Мастацтва" наладзіла персанальную выстаўку жывапісу Леаніда Шчамялёва. Гэта экспазіцыя папярэднічала цырымоніі ўручэння прэміі Саюзнай дзяржавы, якая традыцыйна адбудзецца на чарговым, дзевятнаццатым па ліку, Міжнародным фестывалі мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Да арганізацыі вернісажу спрычыніўся прэс-цэнтр прэміі Саюзнай дзяржавы на тэрыторыі Беларусі — выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі".

Як зазначыў мастацтвазнаўца Барыс Крэпак, мабыць, Леаніда Дзмітрыевіча сам Бог аберагаў спецыяльна для таго, каб ён выжыў у той жудаснай вайне і праклаў свой шлях на мастацкі Алімп. Ён — наш гонар, сумленне і слава.



Ад Беларускага саюза мастакоў свайго старэйшага калегу павіншаваў з пашанотнай узнагародай яго старшыня Уладзімір Савіч. Уладзімір Пятровіч падкрэсліў, што гэта вялікі гонар не толькі для віноўцы ўрачыстасці, але і для ўсёй мастакоўскай суполкі і беларускага мастацтва. Што ўяўляе сабою асоба Леаніда Шчамялёва? Гэта годнасць нацыі, соль зямлі, наша жывая легенда. А чым больш легенд мае краіна, родная зямля, тым яна багацейшая. Леанід Дзмітрыевіч — прыклад усім мастакам, ён вечна малады, бо ўвесь час працуе, а яго мастацтва — шчырае, сапраўднае, яно кранае, застаецца ў сэрцы.

Таксама Леаніда Шчамялёва віталі намеснік кіраўніка прадстаўніцтва Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы ў Мінску Павел Куземчак, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Сербія ў нашай краіне Срэчка Джукіч, жывапісец, член Экспертнага савета па прэміях Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва Уладзімір Тоўсцік, мастак Уладзімір Басалыга, дырэктар галерэі "Мастацтва" Алена Лагоўская і іншыя.

Галоўны спецыяліст упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Беларусі Аляксандр Зіменка адзначыў, што ўзнагароды Леаніда Дзмітрыевіча натуральным чынам сведчаць пра прызнанне яго таленту ды работ, якія занялі пачэснае месца ў айчыннай культуры, сталі набыткам многіх музеяў свету.

Нядаўна Міністэрства культуры Беларусі праводзіла нараду сумесна з упраўленнем культуры Мінгарвыканкама, на якой абмяркоўваўся план перспектыўнага развіцця Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва і ператварэння яе ў міжнародны культурны цэнтр яго імя. Гэта будзе не проста музей, а месца, дзе вучні Леаніда Шчамялёва і айчынныя мастакі змогуць абменьвацца вопытам, прымаць выстаўкі замежных калег і дамаўляцца пра свае экспазіцыі ў замежжах.

За ўсю сваю творчую дзейнасць мастака цікавілі і натхнялі самыя розныя тэмы, сюжэты, вобразы. Мінулае, гісторыя і сучаснасць, родная зямля і чалавек на гэтай зямлі, гераізм і боль Вялікай Айчыннай вайны... Так, увазе наведвальнікаў былі прадстаўленыя такія карціны, як "Снежная зіма", "Нацюрморт у інтэр'еры", "Лагойск", "Зімовы дзень у Светлагорску", "Нясвіж", "Успамін пра Віцебск", "Восеньскі букет", "Масленіца", "Мінчанка", "Партрэт Якуба Коласа"... У яго работах — не простае адлюстраванне фактаў, з'яў, а развагі пра ўбачанае і перажытае.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: Леанід Шчамялёў ля сваёй карціны "Развітанне з Радзімай"; "Успамін пра Віцебск"; "Зіма ў вёсцы Ячнева".

Фота аўтара

# Рэнесанс па-нясвіжску

Пра старажытны еўрапейскі радавод маладой суверэннай Беларусі, пра яе гістарычную самабытнасць і годнасць сведчыць непаўторны архітэктурна-ландшафтны ансамбль нашай "некаранаванай сталіцы" — Нясвіжа. Менавіта гэты горад, які зрабіўся яскравым сімвалам незалежнасці беларускай дзяржавы задоўга да стварэння Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж", уключанага ў Спіс сусветнай прыроднай і культурнай спадчыны ЮНЕСКА, — менавіта Нясвіж стаў калыскай унікальнага музычна-асветніцкага руху.

Як вядома нашым чытачам, 15 гадоў таму ў Нясвіжы адбыўся першы фестываль, запачаткаваны па ініцыятыве Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра Міхаіла Фінберга. Той першы праект, скіраваны на адраджэнне айчыннай музычнай спадчыны даўніх часоў у кантэксце спаконвечных культурных традыцый, якімі калісьці славіліся старасвецкія беларускія гарады і гістарычныя мястэчкі, скептыкі называлі утопіяй. Але фестываль, які неўзабаве набыў прыгожае ўласнае імя "Музы Нясвіжа", даказаў сваю жыццяздольнасць і перспектыўнасць, ды стымуляваў аналагічныя працэсы ў шэрагу іншых г. зв. малых гарадоў. А ў рэчышчы сённяшняй дзяржаўнай палітыкі, скіраванай на падтрымку іх развіцця і культурнага росту, жыватворная мадэль "нясвіжскага рэнесансу" аказалася вельмі актуальнай.

Ланцужок асветніцкіх фестывальных праектаў аркестра ўяўляе сабой спалучэнне канцэптуальных, распрацаваных з улікам традыцый і асаблівасцей канкрэтнага рэгіёна, музычных праграм (падтрыманых захапляльным папулярызатарскім каментарыем іх нязменнай вядучай Вольгі Дадзіёмавай), навукова-практычных канферэнцый, выставак выяўленчага мастацтва, фотавернісажаў, майстар-класаў і пазнавальных гутарак, тэатральных паказаў, прэзентацый творчасці мясцовых талентаў.

Беспрэцэдэнтнай адметнасцю кожнай фестывальнай навуковай канферэнцыі з'яўляецца выданне яе матэрыялаў не пасля, а напярэдадні падзеі. Сёлета ж да свята "Музы Нясвіжа" серыя такіх штогадовых навуковых выданняў папоўнілася кнігай "Музычныя скарбы беларускай зямлі: да 15-годдзя музычна-гістарычнага праекта Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі". Уводзінамі ў кожную з дзвюх яе частак сталі кароткія публіцыстычныя прадмовы мастацкага кіраўніка праекта Міхаіла Фінберга, у якіх акрэсліваюцца творчыя мэты аркестра: служыць беларускай музычнай культуры ва ўсіх яе праявах ды іпастасях, спрычыняцца да высокай місіі Асветніцтва, падтрымліваць працэс, скіраваны на ўзнаўленне і пашырэнне ведаў пра беларускую музыку — своеасаблівую гісторыю ў гуках, што склалася здавён і ствараецца сёння, праз якую мы пазнаём сябе, колішніх і сучасных... Складальнік новага выдання Вольга Дадзіёмава ў раздзеле "Шляхамі ўзнаўлення айчыннай музычнай спадчыны" змясціла свой артыкул "Ад рэтраспекцыі да перспектывы: асветніцкі рух у гістарычным разгорце". З майстэрствам апавядальніка яна прыгадала час, калі выспявала і ажыццяўлялася ідэя нясвіжскага фэсту, стварыла абагульнены малюнак 15-гадовага развіцця гэтай ідэі ў практыцы Нацыянальнага канцэртнага аркестра, прадставіла яго камерныя калектывы, праз творчасць якіх складаны гістарычны ландшафт 600-гадовай прафесійнай музычнай культуры на беларускіх землях узнаўляецца ў еўрапейскім кантэксце. Раздзел "Мастацкія фэсты вачыма журналістаў" — гэта фрагменты з публікацый трох выданняў: творчасць незабыўнай Тамары Абакумоўскай (наша старэйшая калега, знаны і рэдкасны прафесіянал у сферы мастацка-культурнай журналістыкі, прапагандыст фестывальнай дзейнасці аркестра на старонках газеты "Рэспубліка", Тамара Аляксееўна пакінула зямны свет за дзень да ўрачыстага адкрыцця "Муз Нясвіжа-2010", і ў атмасферы сёлетняга свята рэфрэнам гучаў матыў смутку па гэтым цудоўным чалавеку, доўгі час нязменным арганізатары фестывальнага прэс-цэнтра, шчырай спадарожніцы аркестра), Лідзіі Перасыпкінай ("Народная газета") і аўтара гэтых радкоў, карэспандэнта "ЛіМа"... Другая частка кнігі — "Далягляды беларускага музыказнаўства" — уключае матэрыялы сёлетняй навуковай канферэнцыі.



Прэзентацыя новага выдання ў Нясвіжы выклікала вялікую цікавасць у мясцовых работнікаў культуры, педагогаў і аматараў мастацтва, якіх нямала ў гэтым слынным горадзе.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: старшыня Нясвіжскага райвыканкама Ігар Макар і доктар мастацтвазнаўства прафесар Вольга Дадзіёмава з новай кнігай на юбілейным свяце "Музы Нясвіжа-2010".

Фота Віктара Кавалёва

# Выстаўкі распавядаюць...

"Вайна ў мініяцюры" — такую назву атрымаў выставачны праект сталічнага Мемарыяльнага музея-майстэрні З. Азгура, прымеркаваны да сёлетняй знамянальнай даты: 65-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай. Экспазіцыя, здавалася б, нязвыклая для мастацкага асяроддзя, зусім арганічна ўвайшла ў прастору музея знакамітага беларускага майстра, дзе знаходзіцца 56 скульптурных выяў герояў той незабыўнай вайны — розных па вайсковых званнях прадстаўнікоў розных родаў войскаў. Заір Азгур працаваў над імі з 1942 па 1980-я гады. І галерэю гэтых гістарычных партрэтаў дапоўніла, можна сказаць, "баявое асяроддзе" мужных змагароў: мадэлі вайсковай тэхнікі перыяду Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай войн. Гэта ўзоры савецкай зброі 1940-х і гітлераўскай "ваеннай машыны" — мадэлі танкаў і самалётаў, а таксама тыя мініяцюрныя фігуркі, у якіх адлюстраваліся тэндэнцыі пасляваеннага развіцця армейскай тэхнікі. На думку супрацоўнікаў музея, кожная такая мадэль, па сутнасці, уяўляе сабою зменшаную копію ваеннай тэхнікі і ўспрымаецца як мініяцюрны помнік яе стваральнікам — інжынерам-канструктарам, праектавальшчыкам, рабочым, аўтарам



баяздольнага прататыпа, а таксама арміі, на ўзбраенне якой гэтая тэхніка паступала... Убачыць усё гэта наведвальнікі музея змаглі дзякуючы экспанентам: палкоўніку авіяцыі, інжынеру-мадэлісту Цэнтральнага аэраклуба (Баравая) Генадзю Сердзюку, капітану-лейтэнанту, кіраўніку судамадэльнага гуртка ў Цэнтры дашкольнай работы Аляксандру Жыгальскаму, беларускім мадэлістам Аляксею Груздзеву, Сяргею Муляру, Ігару Мінгазаву.

Стваральнікі выстаўкі (куратары Лілія Даўжэнка, Яраслаў Дзмітрыеў) уключылі ў яе і асабістыя рэчы рэальных палкаводцаў: баявыя мундзіры, дакументы, фотаздымкі — са збору Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Дарэчы, рэалізаваны праект "Вайна ў мініяцюры" супольна з гэтай установай, а таксама з аддзелам культуры Адміністрацыі Партызанскага раёна сталіцы, Цэнтральным аэраклубам (Баравая), пры падтрымцы Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь і калекцыянера Аляксандра Радаева.

Дваццаць пяць плакатаў, створаных савецкімі мастакамі і датаваных 1941 — 45 гадамі, прадстаўляе выстаўка, якая без малога два месяцы працуе ў філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь "Дом-музей I з'езда РСДРП". Гэтыя унікальныя графічныя творы агітацыйнага і сатырычнага зместу, якія нараджаліся ў часы ваеннага ліхалецця, не толькі аператыўна і даходліва адлюстроўвалі масавы патрыятычны настрой, але і, як сведчаць гісторыкі ды самі ветэраны Вялікай Айчыннай, сілкавалі надзею, веру ў перамогу, гартавалі баявы дух, служылі моцнай ідэйнай зброяй. Выстаўка "Плакат Перамогі" са збору Нацыянальнага гістарычнага музея экспануецца да 5 ліпеня.

Лана ІВАНОВА

На здымку: будынак Мемарыяльнага музея-майстэрні З. Азгура.

Фота аўтара



**Знаны беларускі жывапісец і педагог Віктар Грамыка стаў лаўрэатам Міжнароднай прэміі імя Міхаіла Шолахава за 2010 год. Цырымонія ўзнагароджвання Віктара Аляксандравіча прайшла ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Уручэнне медаля лаўрэата і ганаровага дыплома, усхваляваныя прамовы і віншаванні, — усё гэта адбывалася побач з узнёслым і метафарычным, сёння ўжо хрэстаматыйным палатном "Ільны беларускія", якое майстар стварыў у 1970-м, роўна сорак гадоў таму.**

# Жывапіс — Жыццяпіс...

Цяпер Віктару Аляксандравічу 87. Пра яго, чалавека-легенду, удзельнікі ўрачыстай імпрэзы гаварылі са шчырым піетэтам, звярталіся да майстра з трапяткою павагай і цеплынёй. Дзівіліся на яго шчодры шматгранны талент: жывапісец, чые палотны прылічаныя да класікі нашага часу; літаратар, аўтар кніг успамінаў пра мінулую вайну; педагог, які шмат зрабіў для падрыхтоўкі творчых кадраў і многія вучні якога сталі знакамітымі мастакамі... Як падкрэсліў дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў, пачэснай узнагародай адзначаны важкі ўнёсак патрыярха беларускага жывапісу, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, у выяўленчае мастацтва XX стагоддзя, і знамянальна, што адбылося гэта менавіта сёлета, калі святкуецца 65-годдзе Перамогі. А ўзнагарода, якая носіць імя выдатнага пісьменніка, нобелеўскага лаўрэата, — не толькі радасць для самога Віктара Грамыкі, але і значная падзея ў культурным жыцці нашай краіны.

Міністр культуры Беларусі Павел Латушка ўбачыў сімвалічнасць гэтай узнагароды: "Прэмія носіць імя вялікага чалавека, які стварыў эпоху ў літаратуры. Вы, Віктар Аляксандравіч, таксама стварылі эпоху — у жывапісе". Старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч павіншаваў "мэтра, майстра, знаўцу гісторыі сваёй краіны, які думае, разважае моваю нашай зямлі і спявае песню нашай зямлі ў сваіх творах". Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі дэкан мастацкага факультэта БДАМ Уладзімір Уродніч ад імя творчага аб'яднання "Традыцыя" і ўсіх жывапісцаў, якія лічаць сябе вучнямі, паслядоўнікамі В. Грамыкі, падзякаваў Настаўніку за галоўны ўрок: цвёрда стаяць на сваёй зямлі і адстойваць, ахоўваць, а калі трэба — і абараняць каштоўнасці роднага краю. Народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі, які ведае героя ўрачыстай падзеі з часоў навучання ў знакамітай "Глебаўцы", парадаваўся за калегу і сябра: камітэт на чале з вельмі паважаным пісьменнікам Юрыем Бондаравым зрабіў слушны выбар, міжнародная ўзнагарода знайшла годнага чалавека, мастака, вартага высокай пашаны не толькі за зробленае, але і за тое, што В. Грамыка знаходзіць у сабе сілы працаваць кожны дзень.

Міжнародная прэмія імя Міхаіла Шолахава ў галіне літаратуры і мастацтва заснаваная ў 1992 годзе Міжнароднай супольнасцю пісьменніцкіх саюзаў (МСПС), Саюзам мастакоў Расіі і выдавецтвам "Советский писатель", Маскоўскім дзяржаўным адкрытым педагагічным універсітэтам імя М. А. Шолахава. Прэмія прысуджаецца штогод расійскім і замежным пісьменнікам, паэтам, дзяржаўным і грамадскім дзеячам. У свой час лаўрэатамі прэміі імя Міхаіла Шолахава сталі Валянцін Пікуль, Расул Гамзатаў, Сяргей Міхалкоў, Міхаіл Савіцкі, Пётр Асоўскі, Фідэль Кастра, Уга Чавес ды многія іншыя вядомыя асобы.



Для ўручэння прэміі свайму калегу і сябру ў Мінск прыехаў Пётр Асоўскі (дарэчы, яго персанальная выстаўка з поспехам прайшла летась у сценах НММ Беларусі). Пётр Паўлавіч прыгадаў далёкія 1970-я гады, калі абодвух мастакоў захапіла і паяднала ідэя напісаць вобразы славян. Рускі жывапісец скарыстоўваў магчымасці ездзіць у славянскія краіны за межы СССР, адкладваючы "на потым" візіты да сваіх бліжэйшых суседзяў — у Беларусь і Украіну. Ды адклад не йдзе ў лад, як у нас кажуць. І прыгожая мара Пятра Паўлавіча прыехаць на Беларускае Палессе, павандраваць там разам з В. Грамыкам і напісаць партрэт маладой паляшучкі ці каларытнага хлопца ў нацыянальным строі, ва ўлонні самабытнай прыроды, — засталася марай. Але 85-гадовы П. Асоўскі быў узрадаваны магчымасцю пабачыцца з сябрам у Мінску, выканаць сваю прыемную місію і звярнуцца да прысутных: "Лепшыя мастакі Расіі і Беларусі заўжды былі моцныя тым, што стваралі вобраз чалавека, працуючы ў рэчышчы рэалізму, напаўнялі палотны жывым пачуццём. З гэтым непаўторным жывым пачуццём В. Грамыка піша нацыянальны пейзаж. Быццам бы тое ж неба, што і ў нас, тыя ж аблокі ды поле — і ўсё-ткі гэта менавіта беларускі пейзаж".

Расчулены і ўдзячны Віктар Аляксандравіч прызнаўся, што не зможа, стоячы ля мікрафона, сказаць так, як хацеў бы, і пачаў распавядаць: "Я нарадзіўся ў сям'і, якая ўвесь час існавала на памежжы Беларусі і Расіі, бо бацька працаваў на будаўніцтве чыгункі між Оршай і Унечай. Рэйкавая дарога звязвала Беларусь з Расіяй. І мяне лёс звязаў з рускім народам. З маленства ў мяне былі матэматычныя здольнасці, я марыў пра авіябудаўніцтва, ды ўрэшце абраў прафесіяй выяўленчае мастацтва. Маё ваеннае асяроддзе ў войску асаблівага прызначэння, дзе, дарэчы, поруч служылі і рускія, і беларусы, паспрыяла захапленню творчасцю. Падчас вайны я ўзначальваў палкавую газету, выпускаў улёткі... Жыццё зводзіла мяне з мноствам розных людзей: з героямі-франтавікамі, з прадстаўнікамі творчага свету... Дзесяць гадоў таму я выдаў сваю першую кнігу задуманай трылогіі "Свет и тени уходящего века", цяпер дапрацоўваю заключную частку. З гадамі ўсё цяжэй працаваць і за пісьмовым сталом, і за мальбертам, але пакуль удаецца нават сумяшчаць адно з другім..."

Народны мастак Беларусі, прафесар, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Віктар Грамыка нарадзіўся ў 1923 годзе ў вёсцы Сенькава, што пад Магілёвам. Скончыў у 1958-м Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў) і тады ж стаў там выкладчыкам. У 1960-80-х гадах двойчы абіраўся старшынёй праўлення Саюза мастакоў БССР. Удзельнічае ў выстаўках з 1947 года. Многія з яго рамантычных жывапісных кампазіцый, партрэтаў, твораў батальнага жанру ўвайшлі ў "залаты фонд" беларускага выяўленчага мастацтва. Сярод іх — "Балада пра апошнюю кулю", "Балада пра ваенную маладосць", "Жанчынам Вялікай Айчыннай прысвячаецца", "Партрэт Янкі Брыля", "Ільны беларускія", "Чырвоныя землі Полаччыны", "Халодны дзень. Браслаўшчына", "На радзіме Янкі Купалы", "Сімфонія восені"...

У тым, што і на пачатку новага стагоддзя майстар цвёрда трымае ў руцэ пэндзаль і па-ранейшаму адданы сваёй мажорнай рамантычнай палітры, прыхільнікі яго творчасці пераканаліся яшчэ падчас майскай выстаўкі мастакоў-ветэранаў, якая ладзілася ў сталічным Палацы мастацтва да Дня Перамогі. Адмысловы куток вялікай калектыўнай экспазіцыі прыцягваў увагу непаўторнай светлай вобразнасцю: адразу можна было пазнаць почырк Віктара Грамыкі. Уражвалі лірыка-эпічныя абагульненні жывапісца на карцінах "Месцамі дажджы" (1998 — 2002), "Мая дарагая Полаччына. Лён цвіце" (2005)... І зусім новае палатно, датаванае ўжо сёлетнім годам: "Слаўным разведчыкам майго палка прысвячаецца" — яшчэ адна старонка жывапісу і жыццяпісу шчырага беларускага творцы, чыё імя — ужо эпоха...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: народны мастак СССР і Расіі, акадэмік Пётр Асоўскі ўручае ганаровы дыплом лаўрэату міжнароднай прэміі імя Міхаіла Шолахава за 2010 год — народнаму мастаку Беларусі Віктару Грамыку; новае жывапіснае палатно Віктара Грамыкі "Слаўным разведчыкам майго палка прысвячаецца" (2010).

Фота Віктара Кавалёва і аўтара

# Вяртанне ў май

Дзве памятныя для нас даты — 9 мая і 3 ліпеня — паяднала вялікая экспазіцыя, разгорнутая на галоўнай галерэі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Складаецца яна з работ, якія знаходзяцца ў фондах музея. Арганізатары выстаўкі ўключылі ў яе творы класікаў беларускага мастацтва, зрабіўшы акцэнт на імёнах удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, перадусім — тых ветэранаў, што жывуць сярод нас. А яшчэ тут прадстаўлены карціны і скульптуры майстроў выяўленчага мастацтва былых саюзных рэспублік — як напамін пра тое, што наша слаўная Перамога — непадзельная з'ява агульнай савецкай гісторыі, адна на ўсіх...

Называецца выстаўка "Вялікай Перамозе — 65". Чалавека, спрычыненага да мастацтва, ды з чулаю душой, яна ўражвае, кранае, "чапляе". Гэта маляўнічы і вобразны адбітак супярэчлівага векапомнага часу, напоўненага трагічнымі і гераічнымі франтавымі падзеямі, трывожнымі і гнятлівымі тылавымі буднямі, думкамі пра сэнс і цану чалавечага жыцця, пра лёс Радзімы і новых пакаленняў суайчыннікаў, пра шчасце мірнага жыцця і вечную каштоўнасць хараства прыроды... Гэта і сімвалічнае вяртанне ў пераможныя майскія дні 45-га... Гэта і красамоўнае сведчанне нялёгкіх для самога музея першых пасляваенных дзесяцігоддзяў, калі практычна наноў фарміравалася яго фондавая калекцыя...

Такія выстаўкі распавядаюць самі за сябе. Трэба толькі прыйсці, пастаяць ля работ М. Савіцкага, Б. Аракчэева, М. Данцыга, Л. Гумілеўскага, Г. Асмалоўскага, М. Залознага, І. Дмухайлы, М. Селяшчука, А. Какорына, П. Канчалоўскага, В. Бялыніцкага-Бірулі, С. Лебедзевай, Я. Вучэціча, В. Мухінай. І ўслухацца ў музейную цішыню...

С. Б.









На здымках: Іван Стасевіч "Салдат", замалёўка 1945 года; Павел Гаўрыленка "Пераправа. 1945"; Заір Азгур "Партрэт Героя Савецкага Саюза Міхаіла Сільніцкага"; Віталь Цвірка "Мінск, будынак, дзе друкавалася падпольная газета "Звязда" (1944).

Фота Віктара Кавалёва

Шмат каму з беларускіх паэтаў давялося вынесці мноства выпрабаванняў на дарогах вайны. Некаторыя навечна зніклі, спяць у брацкіх магілах, і сёння нават невядома, дзе яны, гэтыя магілы — пад Брэстам, у данскім стэпе, над Волгай, за Дунаем ці Одэрам… У трагічным спісе загінулых — паэты з Віцебшчыны Аркадзь Гейнэ, Алесь Дуровіч, Алесь Жаўрук, Рыгор Жалязняк, Мікола Сямашка, Андрэй Ушакоў.

# За Радзіму — у смертны бой

У паэта Аркадзя Гейнэ ёсць верш "Шчаслівая зорка". Твор пра маладосць, пра каханне, пра шчасце жыць на зямлі. Матывы гэтыя — будучыні, новых вёснаў, спраўджаных надзей і мараў — у творчасці яго невыпадковыя, бо жыццё паэта супала з першымі крокамі маладой Беларусі.

Нарадзіўся ён у Бешанковічах 10 студзеня 1919 года ў сям'і служачага. Пісаць А. Гейнэ пачаў яшчэ ў школе.

Многія вершы А. Гейнэ былі змешчаны ў 1939 годзе ў калектыўным зборніку "Камсамол на граніцы". У гэтым жа годзе выходзіць яго кніжка "Шчаслівая зорка", якой, на жаль, наканавана было стаць адзінай. Паэт пражыў усяго дваццаць тры гады. Яго жыццё абарвалася ў акопах Сталінграда 16 снежня 1942 года.

А вось абставіны жыцця Алеся Дубровіча, аднаго з паэтаў Заходняй Беларусі, склаліся так, што сучаснік мала яго ведае. Аляксей Рыгоравіч Рэдзька, сапраўднае імя Алеся Дубровіча, нарадзіўся ў вёсцы Галубічы (цяпер вёска Каралевічы Глыбоцкага раёна).

У 1936 — 1939 гадах на старонках заходнебеларускіх газет з'яўляюцца вершы Рэдзькі пад псеўданімам "Алесь Дубровіч". Шырокавядомы ў народзе быў яго верш "Крапіва", у якім гаварылася пра пакутную долю беларуса.

Калі пачалася вайна, разам са сваімі братамі, бацькам і суседзямі ён стварыў падпольную групу і наладзіў сувязь з партызанамі. У 1942 годзе па даносе старасты гестапаўцы забралі Аляксея, двух братоў і бацьку. Пасля допытаў і жорсткіх катаванняў, раніцай 7 лістапада 1942 года іх расстралялі на вачах сястры і жонкі паэта.

Рыгор Жалязняк нарадзіўся ў 1914 годзе ў Віцебску. У 1932 — 1933 гадах паэт вучыцца ў Віцебскім кінатэхнікуме на сцэнарным аддзяленні. Пасля — у Ленінградскім інстытуце гісторыі, філасофіі і лінгвістыкі, затым у аспірантуры. У Віцебску выйшлі дзве кнігі яго вершаў "Першы вытап" (1933 г.) у сааўтарстве з Б. Люгоўскім) і "Веснавыя будні" (1934 г.). У 1940-м паэт абараніў кандыдацкую дысертацыю "Паэзія М. А. Багдановіча".

Нягледзячы на тое, што па стане здароўя ён меў права на адтэрміноўку, Жалязняк пайшоў у армію. Ваяваў на Ленінградскім фронце. Загінуў у 1942 годзе пры абароне Ленінграда.

Вядомы паэт Алесь Жаўрук (сапраўднае прозвішча — Аляксандр Сінічкін) нарадзіўся 19 жніўня 1910 года ў мястэчку Сянно. Падчас вучобы на літаратурным факультэце Маскоўскага інстытута ён быў ужо вядомым паэтам у Беларусі: у Мінску выйшаў яго першы зборнік "Ручаіны", высокую ацэнку атрымала паэма пра грамадзянскую вайну ў Іспаніі "Крывёю сэрца".

Паэт пісаў і перакладаў вершы для дзяцей. Разам з Андрэем Ушаковым напісаў лібрэта першай беларускай аперэты "Зарэчны бор". Малодшы палітрук Аляксандр Сінічкін абараняў Маскву, супрацоўнічаў у газеце "В бой за Родину" легендарнай 62-й арміі, якая абараняла Сталінград. Загінуў Алесь Жаўрук, якому споўнілася толькі 32 гады, 23 жніўня 1942 года.

Першы паэтычны зборнік "Шчырасць" Міколы Сямашкі выйшаў у 1939 годзе і стаў апошнім. Нарадзіўся Мікола Сямашка ў 1914-м у вёсцы Барылы Полацкага раёна. У дванаццацігадовым узросце выступіў у друку са сваім першым вершам на старонках газеты "Чырвоная Полаччына". Пасля заканчэння школы працаваў у Ветрынскай раённай газеце.

У вершы "Чырвоная зорка" (1937 г.) паэт пісаў: "Радзіму бачу, за якую ў смертны бой ісці гатоў". Словы гэтыя не засталіся дэкларацыяй. Прызваны ў 1939 годзе ў Чырвоную Армію, Мікалай Сямашка ўдзельнічаў у вызваленні Заходняй Беларусі, а з першых дзён Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся на фронце. Свой апошні світанак ён убачыў у 1941-м, калі абараняў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Оршу.

Дзе ты, чарнавокая,
Блізкая, далёкая,
Светлая, падобная вясне?
Можа, ў гэты вечар
Ты чакаеш стрэчы
І таксама марыш пра мяне?

Гэтыя пяшчотныя, простыя радкі знаёмы амаль кожнаму. Але мала каму вядома, што напісаў словы гэтай песні Андрэй Ушакоў, жыццё якога было звязана з Віцебскам. Тут, у газеце "Віцебскі рабочы", надрукаваў свае першыя вершы ў 1929 годзе. У 1932 — 1933 гадах Ушакоў вучыцца на сцэнарным аддзяленні Віцебскага кінатэхнікума. У гэты ж час выходзяць яго першыя зборнікі вершаў "Рабочы пульс" (1932 г.), "Зарыва вагранак" (1933-м), выдадзеныя ў Мінску, і "Праца пра маладосць", які быў выпушчаны ў Віцебску ў 1933 г. Тры кнігі, выдадзеныя за два гады, — сапраўды імклівы старт маладога паэта. Загінуў пад Гомелем у 1941 (па іншых звестках — 1942) годзе.

Жорсткая барацьба з ворагам ішла на вялізным фронце ад Баранцава да Чорнага мора, ішла ў нямецкім тыле, у кожнай вёсцы, дзе гаспадарылі захопнікі. І ў гэтую ўсенародную барацьбу, поўную невераготнага напружання, зрабілі свой ахвярны ўклад і нашы віцебскія паэты, чые радкі былі абарваныя кулямі смерці.

Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА,
старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі

# Слухаем…спектакль

У дні святкавання 65-годдзя Перамогі над нямецкім фашызмам на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё пастаўлены спектакль паводле вершаванай драмы Уладзіслава Сыракомлі "Магнаты і сірата" (Св. Соф'я Слуцкая) у эталонным перакладзе з польскай мовы Ірыны Багдановіч (рэжысёр Алег Вінярскі, рэдактар Галіна Шаблінская, гукарэжысёр Валерый Беляеў. Роль Соф'і Слуцкай выканала Кацярына Яворская).

У спектаклі ўдзельнічалі артысты чатырох тэатраў Беларусі: А. Гарцуеў, А. Душачкін, А. Захарэвіч, А. Кашпераў, В. Краўчанка, А. Кавальчук, С. Кавальскі, Г. Маляўскі, Т. Нікалаева-Апіёк, Г. Аўсяннікаў, А. Памазан, У. Рагацоў, Л. Улашчанка, А. Чарнігін, В. Шушкевіч.

Невыпадкова, а глыбока абгрунтавана пастаўлены спектакль у дапаўненне да тых дакументальных твораў пра вайну, якія дэманстраваліся на экранах.

Сапраўднай прычынай памяжусобнай вайны магнатаў Хадкевічаў і Радзівілаў быў не канфлікт за руку 15-гадовай княжны Соф'і з роду Алелькавічаў, а больш глыбокі канфесіянальны меркантылізм.

Соф'я дае згоду на шлюб з нялюбым Янушам Радзівілам "…каб толькі без вайны!", "…каб не пагіблі нявінныя галовы!", "…каб тая куля мае сэрца прабіла!".

Учынак Соф'і — прыклад высокай маралі, ахвярнасці ў знак згоды паміж князямі, супраць братазабойства, цаной адрачэння ад асабістага шчасця, паколькі кахала Караля Хадкевіча. У жорсткіх умовах барацьбы паміж магнатамі яна паказвае вышэйшую ступень духоўнасці. Прасочваецца падабенства яе грамадзянскага ўчынка з самаахвярнымі подзвігамі герояў часоў Вялікай Айчыннай вайны 1941 — 1945 гадоў.

З глыбіні стагоддзяў паказаны прыклад сапраўднага патрыятызму, выхаванага ў праваслаўных традыцыях. Соф'я кінула выклік паміжусобным, карыслівым намерам дзеля дабрабыту на роднай зямлі. Яна прадухіліла ганебнае братазабойства, выратавала нацыянальную годнасць. І, магчыма, сімвалічна, што ў 26 год Соф'я пайшла з жыцця, як бы ў знак кампенсацыі, па хрысціянскай веры, за вымушанае рэнегацтва ў чыстым каханні — пачуцці, дадзеным людзям звыш.

Перад рэжысёрам А. Вінярскім сталі складаныя задачы: аб'яднаць у адзіны творчы калектыў розных па прафесіянальным статусе артыстаў-выканаўцаў і, у адсутнасці тэатральнага аналага для імітавання, стварыць жывую драму перад мікрафонам як узор камернага ансамбля; авалодаць драматычным мысленнем.

Двухгадзінны спектакль успрымаецца на слых пераканаўча і відовішчна, кранае сэрца, душу слухача. Мудра-проста, моцна-пераканаўча, мужна-дастойна, патрыятычна-гуманна пражывалі артысты свае ролі, каб дасягнуць падзейнага праўдападабенства, важкасці вершаванага твора слаўнага гуманіста Уладзіслава Сыракомлі.

Думаецца, што правамерна стваральнікі радыёспектакля выкарысталі твор мінулых стагоддзяў па дзвюх прычынах: не паўтарацца ў мастацкіх прыёмах; звярнуцца да буйных характараў, грандыёзных праблем дзяржаўнага маштабу, якія лёсава сугучныя, паколькі запаветы мінулага ўзбагачаюць наступныя пакаленні мудрасцю. Артысты даказалі, што здольныя спасцігаць рознафіласофскі ўзровень твора і толькі галасамі стварыць лінію светаразумення.

Таццяна ІГНАТОВІЧ

# Палон варожы не перашкодзіў

Жыхар Гродна Ігар Міхайлаў у лісце расказаў пра свайго бацьку — цыркавога артыста, партызанскага паэта і пісьменніка Аляксандра Міхайлава. Сын ужо значны час дамагаецца таго, каб творчасць бацькі не была забытай, а стала вядомай, як і калісьці раней, у цяжкія часы вайны.

Карэспандэнт "ЛіМа" ўзяў камандзіроўку ў Гродна…



На часопісным століку Ігар Аляксандравіч расклаў свой сямейны скарб: фотаздымкі, выразкі з газет, кнігі, арыгіналы вершаў, энцыклапедыі. Ён падрабязна расказваў мне пра жыццё і творчасць бацькі. Паслухаем Ігара Аляксандравіча:

— Мой бацька нарадзіўся ў Варонежы, але найбольш яскравыя моманты яго жыццёвага шляху звязаныя з Беларуссю. "Край беларускі мне бліжэй. Тут я шмат чаго перажыў", — казаў ён.

Скончыў тэатральны тэхнікум і разам з маёй маці, Вольгай Мікалаеўнай, выступаў у цырку з акрабатычнымі і стралковымі нумарамі. У свой час ён быў вядомым у Беларусі, бо кожны год бываў тут з гастролямі. У энцыклапедычных выданнях мой бацька ўзгадваецца як падзвіжнік у развіцці беларускай эстрады і цырка. Маці цыркавога выхавання не мела — гэта па ініцыятыве бацькі яны сталі выступаць разам. Але, як ён узгадваў, яна вельмі хутка вучылася, была народжана для эстрады. Спачатку свайго кутка мы не мелі: жылі там, дзе былі гастролі. Дзяцей у сям'і было двое: я і сястра. Пасля вайны нарадзіўся брацік. Цяжка было…

Бацька з задавальненнем пісаў гумарыстычныя куплеты, вершы. Спачатку гэтая справа была як хобі, але потым ён адчуў у сабе талент паэта, заняўся творчасцю сур'ёзна.

У 1939 годзе ён заняў другое месца на літаратурным конкурсе ў Яраслаўлі. Грашовая прэмія была вялікая — 9 тысяч рублёў. Тады сям'я змагла купіць частку невялічкага доміка пад Масквой. Бацькі перайшлі працаваць у Мосэстраду. Аляксандр Міхайлавіч паступіў на завочнае аддзяленне ў Літаратурны інстытут у Маскве. Пачаў пісаць п'есы. Паводле адной з іх нават збіраліся зняць мультфільм. Неўзабаве пачалася вайна. Яму прапаноўвалі застацца ў канцэртнай брыгадзе, але бацька, як сапраўдны патрыёт, пайшоў на фронт…

У 1941-м трапіў у палон, у канцлагер Шталаг 342, які знаходзіўся каля Маладзечна. Пазней узгадваў, што найвялікшым грахом у Шталагу лічылася паэзія. Фашысты знайшлі ў яго сябра сшытак з вершамі, дык, не задумваючыся, расстралялі. Гэта было акурат на яго вачах.

Бацька пісаў вершы ў маленечкі блакноцік, памерам прыкладна з запалкавы карабок. Гэты блакноцік захаваўся і пасля вайны. Я здаў яго ў 1956-м у архіў у Мінску.

У 1943-м бацьку пашчасціла збегчы з лагера. "Трапіць на волю з палона — усё роўна, што ізноў нарадзіцца", — казаў ён.

У 1943 — 1944 гадах Аляксандр Міхайлавіч актыўна ўдзельнічаў у баявых аперацыях партызанскай брыгады "Народныя мсціўцы" імя Варанянскага. Як прафесійны снайпер, вучыў партызан страляць па нямецкіх самалётах, пісаў вершы, удзельнічаў у стварэнні партызанскіх часопісаў, баявых лісткоў.

Па бацькавай ініцыятыве і пры яго непасрэдным удзеле выдавалася "Кніжка-малышка, фашыстам — крышка!". Партызаны перапісвалі кнігу ад рукі друкаванымі літарамі — гэта, можна сказаць, і была своеасаблівая ксеракопія. Як прафесійны артыст ён арганізоўваў канцэрты партызанскай самадзейнасці, пісаў партызанскія песні і маршы. У падпольнай друкарні быў выдадзены зборнік яго вершаў "Паэзія вайны". Але ён так хутка разышоўся па партызанскіх атрадах, што бацька яго так і не пабачыў.

У вайну мы нічога пра бацьку не ведалі, думалі, што няма ўжо ў жывых… Трэба было неяк жыць. Маці выступала ў складзе франтавых брыгад. Мне тады было гадоў сем, а сястрыцы і таго меней, таму мы значны час жылі з бабуляй у Яраслаўлі. Калі я вучыўся ў другім класе — пеў у хоры. Шмат выступалі ў ваенных шпіталях. Калі прыходзілі туды, заўсёды чакаў, што сустрэну бацьку. Восенню 1943-га прыйшоў першы бацькаў ліст. Добра помню той дзень; помню, які быў рады.

За час партызанскага жыцця бацька атрымаў два цяжкія раненні. Пасля вызвалення Мінска пачаў працаваць. Але да тых, хто пабываў у палоне, ставіліся вельмі насцярожана, яму было цяжка. Крыху пазней яго прызначылі на пасаду выконваючага абавязкі дырэктара Белдзяржфілармоніі, а яшчэ праз нейкі час — начальнікам канцэртна-гастрольнага аркестра.

Бацька ўдзельнічаў у рабоце рускай секцыі Саюза пісьменнікаў Беларусі. У мяне нават ёсць стары нумар газеты "Літаратура і мастацтва" з матэрыяламі трэцяга з'езда пісьменнікаў Беларусі. Было вырашана выдаць бацькавы вершы. У 1953 годзе выйшаў зборнік дзіцячых вершаў "Чудесный ящик", але аўтар, на жаль, гэтую кнігу ўжо не пабачыў. У час вайны ва ўмовах партызанскай барацьбы знаходзіліся сродкі і магчымасці выдаваць творы бацькі, а ў мірныя часы — не. Выключэнне склалі толькі некалькі вершаў у зборніку Я. Зазекі "Лясныя песні. Паэзія партызан". Бацька напісаў больш за сто вершаў. І кожны, як старонка ці хвілінка партызанскага жыцця…"?

Ігару Аляксандравічу пайшоў 77-ы год. Яго бацькі няма ўжо шэсць дзесяцігоддзяў. Але сапраўды кажуць: пакуль жыве памяць пра чалавека, жыве і сам чалавек…

Уладзімір ПАДАЛЯК
Фота аўтара



## Традыцыі і сучаснасць

Жаданне спыніцца на цікавых момантах з жыцця і творчасці пісьменнікаў-класікаў — не новае ў сучаснай літаратуры. Для прыкладу можна згадаць кнігу Пятра Васючэнкі "Ад тэксту да хранатопа" ці асобныя эсэ Марыйкі Мартысевіч са зборніка "Цмокі лятуць на нераст" ("Частка і цэлае", "Мужчыны, якіх мы выбіраем"). Тэндэнцыя акадэмічнага звароту да класікі — без згадвання агульнавядомага, без "асноўных" дат — падаецца станоўчай, бо спрыяе фарміраванню ў чытача новага погляду на беларускую літаратуру. У рэчышчы гэтай тэндэнцыі — і цыкл артыкулаў пад рубрыкай "Традыцыі і сучаснасць", дзе сёння мы звернем увагу на творчасць пачынальнікаў — Францішка Багушэвіча, Алаізы Пашкевіч і Янкі Купалы.

# Пачынальнікі: адметнасць вядомага

...Чым з большым спадзяваннем разгортваеш кнігу, тым больш адмысловага ў ёй бачыш — і наадварот, калі рыхтуешся да чарговага руціннага тэксту з аднастайнымі ідэямі і тэмамі, нават адметнае ў ім застаецца па-за ўвагай. Праўда, заўважыць адметнасць творчасці вядомага пісьменніка, пра якога ўжо напісана некалькі дзесяткаў навуковых прац, магчыма толькі пры засяроджанасці выключна на ягоных тэкстах, датах біяграфіі і гістарычных фактах.

Перад першым азнаямленнем з тэкстам лепш не звяртацца да прысвечаных яму літаратуразнаўчых артыкулаў: гэта можа прытупіць самастойнасць мыслення і пры чытанні застанецца адно знаходзіць пацвярджэнні тэзісаў аўтара артыкула. У горшым жа выпадку агульныя фразы і штампы, якія можна дапасаваць да паловы твораў і аўтараў першай паловы XX стагоддзя ("энцыклапедыя жыцця беларускага народа", "велізарны ўклад у развіццё беларускай літаратуры", "аўтар тонка адчувае драматызм жыцця селяніна", "сваім мастацкім словам ён, не стамляючыся, будзіць чалавечае сумленне") створаць апатычны, млявы настрой, і творы непазбежна пачнуць успрымацца як аднастайныя і банальныя.

Безумоўна, шаблоннымі выразамі злоўжываюць не ўсе літаратуразнаўцы, але ўласнае свежае ўспрыманне робіць мастацкі тэкст больш запамінальным і асабістазначным. Таму здаецца, што з г. зв. "крытыкай" лепш мець справу пасля аўтарскіх тэкстаў — каб супаставіць сваеназіранні з ацэнкамі навукоўцаў. Пры гэткім індывідуалізаваным падыходзе можна заўважыць шмат цікавага і адмысловага нават у творчасці знаёмых са школы пісьменнікаў. Так, бясспрэчнай павагі варты Францішак Багушэвіч за тое, што першым у беларускай мастацкай літаратуры паспрабаваў абудзіць беларусаў як нацыю. На жаль, значнасць гэтага сёння крыху зацерлася, бо ледзь не ў кожнага паэта не-бумбамлітаўскай плыні знойдзецца па некалькі (часам — дзесяткаў) вершаў на тэму Бацькаўшчыны з непазбыўнымі дубамі, каласамі, продкамі, вясной і змаганнем, дзе, да таго ж, нацыянальныя пытанні асэнсоўваюцца фактычна на Багушэвічавым узроўні. Вядома, шмат якія праблемы ў нашай краіне дагэтуль не вырашаныя, але на працягу стагоддзя сацыяльныя і палітычныя ўмовы значна змяніліся, што магло б даць падставу аўтарам засяродзіцца на сучасных нюансах, а не чарговым разам канстатаваць адвечнае...

Пераемніца традыцый Багушэвіча Алаіза Пашкевіч здзіўляе здольнасцю выдатна ствараць кантрастныя настроі, прычым у адным і тым жа самым вершы яна можа непрыкметна перайсці ад замілавання да балючай незадаволенасці ("Восень"), ад жаху да хваравітага аптымізму ("Перад новым годам"), ад сумнага спачування да бадзёрасці і ўпэўненасці ("Сіроцінка"). Вершы Цёткі даюць магчымасць адчуць халерычны тэмперамент першай рускай рэвалюцыі: вера ў барацьбу, рашучасць, пераканансць бяруць пачатак з расчаравання, роспачы і поўнай знямоганасці... Уражвае, што ў творах Алаізы Пашкевіч больш палымянасці, пафаснасці і рэвалюцыйнага духу, чым у паэзіі іншых літаратараў-сучаснікаў. Звяртае на сябе ўвагу і шакіруе не-жаноцкасць асобных ейных вершаў:

Не плач, матуля,
Не сярдуй, татуль,
Што забілі Вінцуля,
Што не прыйдзе адтуль...

Так распачынае паэтка верш "Пад штандарам", прысвечаны забітаму рэвалюцыянеру. Маленькі герой, з якім знаёміцца чытач на пачатку "Першага чытання для дзетак беларусаў", таксама завецца Вінцулём...



Малюнак Алесі Ісы

І матка сына даць нам гатова,
І жонка мужа вышле ў агонь.
І дзед старэнькі
бяжыць у дружыну,
І ўнучак следам дзеда спяшыць.

Гэтак гіпербалізавана выяўляе Цётка ўдзел народа ў рэвалюцыі ("Добрыя весці", 1905 г.). Магчымасць змагання цешыць паэтку, нягледзячы на ўсведамленне непазбежных ахвяр, і гэтая ваяўнічасць крыху здзіўляе ў сённяшні мірны час, час дэкларованага гуманізму.

Імпэту і ўтрапёнасці было багата не толькі ў творчасці Алаізы Пашкевіч, але і ў яе жыцці. Безумоўна, літаратурна-грамадская дзейнасць не была надта папулярнай між тагачасных жанчын, але канец XIX — пачатак XX стагоддзяў пакінуў для нас імёны Элаізы Ажэшкі, Зоф'і Манькоўскай, Зоські Верас, Канстанцыі Буйло... Сярод іх Цётка адметная вялікай прагай да адукацыі: да 35-гадовага ўзросту яна навучалася ў розных універсітэтах і ў выніку была адной з найбольш адукаваных у асяроддзі беларускай інтэлігенцыі.

Сёння здаецца фантастыкай, што калісьці выкладаць ва універсітэце і займаць пасаду акадэміка мог, прыкладам, Якуб Колас, які скончыў адно настаўніцкую семінарыю, роўную сучаснаму педагагічнаму каледжу, і Аляксандраўскае ваеннае вучылішча. Час быў такі, што здольнасці вызначалі больш, чым працяглaсць навучання, праўда, далёка не ўсе самастойна дасягалі прафесійнага ўзроўню Вацлава Ластоўскага.

Звяртае на сябе ўвагу і вельмі позні шлюб Алаізы Пашкевіч — яна выйшла замуж у тыя ж 35 гадоў і, дзякуючы новаму прозвішчу, здолела вярнуцца з-за мяжы на Радзіму. Дагэтуль паэтка, магчыма, была цалкам засяроджаная на культурнай і грамадскай працы, але біёграфы згадваюць то ад'ютанта Цёткі — Адама Бурбіса, то гасцяванне паэткі ў сям'і замежнага мастака...

Але вернемся да літаратуры: зварот да асабістага жыцця класікаў дзеля папулярызацыі іх творчасці вітаецца далёка не ўсімі... Істотна, што вершы Алаізы Пашкевіч рэвалюцыйныя па сваёй сутнасці — настроем, ідэямі, тэмамі, — але пры гэтым не перагружаныя лозунгамі, заклікамі, сацыялістычнымі штампамі, на што прыкметна хварэе нават ранняя паэзія Янкі Купалы, дзе народ спрэс — "згібнуты ў аковах", "рабскія натуры", "сірата, якой нідзе заснуць". Асабліва ж шкада, што нават унікальная паэма "Яна і Я" заканчваецца бясправўем і ланцугамі, якімі мілая «мусіла шмат год званіць", — нягледзячы на тое, што пасярэдзіне твора лірычны герой заўважае: "Багата мы з табою маем гоняў, // Ў пару абсеяць, зжаці толькі б іх...". Некаторыя ж метафарычныя выяўленні любові да Бацькаўшчыны ("…грудзьмі тулюсь к ёй, як да матчыных грудзей") падштурхнулі б паслядоўнікаў Зігмунда Фрэйда да глыбокіх разваг пра прыроду гарачай любові да Радзімы ў беларускіх паэтаў.

Увогуле ж, адметнасць вершаў Янкі Купалы — шыкоўнае спалучэнне фальклорнай вобразнасці з асабіста-аўтарскімі сюжэтамі, ідэямі, кампазіцыяй. Дзякуючы сталым метафарам ды эпітэтам, філасофскія і інтымныя вершы паэта маюць выразную нацыянальную танальнасць, а ўжыванне абстрактнай, высокай лексікі стварае ў чытача ўзнёслы настрой.

Праўда, калі адкінуць сонца, зоркі, шляхі, галубак, арлоў, цароў і г. д., то далёка не кожны твор будзе багатым на аўтарскія мастацкія сродкі. Вобразы мужыкоў, дзяўчын, князёў у вершах і паэмах Янкі Купалы з'яўляюцца заўсёды абагуленымі, мала індывідуалізаванымі (тэндэнцыя да залішняй абагуленасці была пераадоленая, прыкладам, Змітраком Бядулем у паэме "Адплата пану", дзе пан ужо надзелены яркімі асабістымі рысамі, своеасаблівай мовай). Адметнасць паэзіі Янкі Купалы — частотнае ўжыванне паэтам прыёму адухаўлення, адкуль вялікая колькасць "узыходзячых шчасцяў" і "марнеючых песняў".

Безумоўна, зварот да вуснай народнай творчасці быў уласцівы шмат якім пісьменнікам на прыкладна суадносным узроўні нацыянальнага развіцця (тут можна згадаць і паэзію Роберта Бёрнса, і казкі Аляксандра Пушкіна). Але ў тагачаснай беларускай літаратуры былі і аўтары, якія пісалі зусім у іншым рэчышчы, дасканала валодаючы прыёмам уласнай метафары… Пацвярджэнне гэтага — творчасць Змітрака Бядулі, разгляду якой будзе прысвечаны наступны артыкул.

Алеся ЛАПІЦКАЯ

E-mail:lecsa87@gmail.com

# Недапетая песня Юркі Снапка

У аддзеле рэдкай кнігі Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея захоўваюцца асобныя нумары часопіса "Педагогическое дело". Гэты часопіс выдаваўся ў Гродне ў 1911 — 1914 гадах на рускай мове і з'яўляўся органам Гродзенскага педагагічнага таварыства. З друку выйшла 12 нумароў. Часопіс публікаваў метадычныя распрацоўкі, бібліяграфічныя агляды, справаздачы аб педагагічных курсах і вучнёўскіх экскурсіях, нататкі настаўнікаў і нават мастацкія творы. Сярод літаратурных твораў у першым і трэцім нумарах "Педагогического дела" былі змешчаны некалькі вершаў беларускага паэта з Беласточчыны Юркі Снапка.



Яго вершы друкаваліся таксама і ў "Коласе беларускай нівы". Гэта была газета-аднадзёнка, як пісала Зоська Верас у артыкуле "Гродзенскі гурток беларускай моладзі" ("Беларускі каляндар-1981", Беласток, 1981. С. 180 — 189). Там Юрка Снапко апублікаваў вершы "Вясна", "Не даў мне бацька ні багацця…" і "Па краю".

Верш "Вясна" — гэта своеасаблівы гімн беларусам, гімн вясне, гімн свабодзе. Аўтар заклікае, каб беларусы прачнуліся, прабудзіліся, як вясна ад доўгага сну:

Прабудзілась зямля, прабудзіся і Ты,
Прабудзісь ад цямноты, нядолі,
Беларускі народ, нешчаслівы, святы,
Рвісь да сонца, навукі і волі!

У вершах "Не даў мне бацька ні багацця…" і "Па краю" паэт апявае долю беларускага мужыка, які "не знаў шчасця, лепшай долі, к зямлі сагнуўшыся хадзіў". Наогул, Юрка Снапко шмат сваіх паэтычных радкоў адрасаваў простаму беларускаму люду. Ён так і пісаў "для бедных, багатых складаў" свае вершы.

Аляксей Пяткевіч ў зборніку "Краю мой — Нёман" (Мн., 1986) усе гэтыя вершы Юркі Снапка змясціў асобнай падборкай. Ёсць там і яшчэ адзін верш, які называецца "Барацьба". Як мяркуе Аляксей Пяткевіч, ён быў напісаны значна пазней, дзесьці ў 1915 годзе, за год да смерці паэта. Магчыма, верш "Барацьба" Юрка Снапко напісаў ужо на фронце Першай сусветнай вайны. Цяжка паэту было на вайне. Ды й каму ў акопах было калі лёгка?! Але паэт заставаўся аптымістам, адчуваў сябе ўпэўнена і мужна:

Ды пакуль кроў кіпіць, сэрца б'ецца маё,
Пакуль чую сябе маладым,
Буду долю каваць, долю-шчасце маё,
Буду з лёсам змагацца сваім!

У паэзіі Юркі Снапка пераважалі грамадзянскія матывы. Паэт паказаў драматызм лёсу селяніна-працаўніка, апяваў яго маральную сілу і чалавечую годнасць, сцвярджаў неабходнасць для народа навукі і асветы як фактара грамадскага абнаўлення жыцця, паэтызаваў любоў да Бацькаўшчыны, услаўляў барацьбу за волю і шчасце…

Юрка Снапко — гэта псеўданім паэта, актыўнага сябра Гродзенскага гуртка беларускай моладзі Язэпа Лявіцкага. У Язэпа Лявіцкага было яшчэ два псеўданімы. Гэта Бацька і Dziadzko. Яны згадваюцца і ў "Слоўніку беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў" Янкі Саламевіча. Пад псеўданімам Dziadzko ён друкаваў вершы ў "Коласе беларускай нівы". А вось твораў пад псеўданімам Бацька Язэпа Лявіцкага знайсці не ўдалося.

Наш зямляк нарадзіўся ў 1893 (?) годзе на хутары Горны Хлеўск Сакольскага павета на Беласточчыне ў простай беларускай сялянскай сям'і. Бацька меў маёнтак і добры кавалак зямлі. У 1913 годзе Язэп Лявіцкі скончыў Гродзенскую мужчынскую гімназію. Падчас вучобы юнак вельмі актыўна ўдзельнічаў у рабоце Гродзенскага гуртка беларускай моладзі.. Аб гэтым светлыя ўспаміны пакінула Зоська Верас: "Адразу з восені пачалі мы рыхтавацца да чарговай вечарыны-спектакля. Выбралі "Моднага шляхцюка" К. Каганца. Заварушыўся наш гурток — пачалося вывучэнне роляў, рэпетыцыі, спеўкі, рэпетыцыі аркестра, падрыхтоўка дэкарацый і г.д… "Модны шляхцюк" выйшаў вельмі добра. У яго пастаноўцы прымалі ўдзел: Д. Сівіцкая (Ганка), Язэп Лявіцкі (бацька), Казюк Калышка (шляхцюк) <…>. Публікі было шмат, быў нават адзін настаўнік з Гродзенскай рэальнай гімназіі, прагрэсіўны, разумны чалавек. Але найбольшую радасць адчулі мы, бачучы дарагога госця з Вільні — Івана Луцкевіча, які прыехаў на наша запрашэнне…" ("Беларускі каляндар-1981", Беласток, 1981.

Пасля вучобы ў Гародні, Язэп Лявіцкі паступіў на прыродазнаўчы факультэт Пецярбургскага універсітэта. Праўда, правучыўся ён там толькі адзін год. Вучыўся добра, таму па ўласным жаданні юнака з Сакольшчыны хутка перавялі ў Ваенна-медыцынскую акадэмію.

У Пецярбургу Язэп Лявіцкі таксама не сядзеў убаку ад беларускіх спраў. Ён актыўна ўключыўся ў беларускі літаратурна-грамадскі рух, быў сябрам беларускага студэнцкага гуртка. Шмат перапісваўся з Зоськай Верас. Гэтыя лісты яна да смерці захоўвала ў сваім хатнім архіве. Як расказаў прафесар Гродзенскага універсітэта Аляксей Пяткевіч, пісьмы Юркі Снапка сведчылі, што гэта быў дапытлівы, жыццялюбівы юнак, схільны да разваг, самааналізу. Ён сур'ёзна шукаў сваю жыццёвую сцяжыну, але яму нялёгка было прыжыцца ў вялікім і далёкім ад Беларусі горадзе.

У 1915 годзе Язэпа Лявіцкага прызвалі ў царскую армію і забралі на фронт Першай сусветнай вайны, дзе ён праз год загінуў. Паводле іншай версіі, юнак, як студэнт медыцынскай акадэміі, быў накіраваны ў Маскву ў інфекцыйны шпіталь. Там ён захварэў на тыф і памёр у 1916 годзе.

Юрка Снапко меў вялікі талент, але яго літаратурная песня так і засталася недапетай. А яму ж было толькі 23 — 25 гадоў.

Сяргей ЧЫГРЫН

На здымку: Зоська Верас ў ролі Ганкі ў спектаклі "Модны шляхцюк".

## Гусіным пяром



Іна СПАСІБІНА. Нарадзілася ў 1972 годзе на Браншчыне. Пасля школы скончыла Полацкі лясны тэхнікум. Маці чатырох дзяцей. Хатняя гаспадыня. Удзельнік семінараў школы маладога літаратара пры Гомельскім абласным Палацы творчасці "Юнацтва". Жыве ў Гомелі.

Зборнік вершаў "ОБЕРЕГИ" (выд-ва "Кнігазбор", 2010, рэдактар Ю. Мядзведзева) выйшаў у серыі "АЗ", заснаванай паэтам Іванам Бісевым пры фінансавым забеспячэнні "Гомелькатлосервіс".

# «В неповторимости мгновенья»

Як ні дзіўна, у наш прагматычны час ёсць яшчэ даволі шмат людзей, апантаных паэзіяй. Гэта, безумоўна, радуе. І нават знутры паўстае і турбуе пытанне: гэта натуральная прыродная з'ява ці звыш змыслены супраціў сучаснаму разбуральнаму працэсу чалавечай духоўнасці? Урэшце, нічога новага — усё тая ж дыялектычная барацьба дабра і зла, і чым большая верагоднасць сіл разбурэння, тым большая патэнцыяльная моц супраціву. І калі раней людзі не сумняваліся ў перавазе дабра (жыццё, маўляў, на зямлі таму і трывае), то сёння ёсць прычыны для сумневу — на фоне саміх глабальных ідэй надта ж глабальныя і катастрафічныя падаюцца змены ў чалавечым грамадстве і акаляючай яго прыродзе. Паэт — не ваяр і не суддзя, паэт — празорца. Ён, як чуйны сейсмограф, павінен загадзя апавяшчаць чалавецтва пра небяспеку, якая пагражае яго гуманнай дзейнасці і жыццю. Адно трывожыць – чалавецтва мала зважае на гэтыя сігналы. Хіба толькі спалохана вылупляе зенкі ўжо толькі перад самой непазбежнасцю страшнага...

Днямі прыемна было атрымаць ажно два зборнікі вершаў з магчымага эпіцэнтра былога Герадотавага мора — Гомеля. Аказваецца, там існуе школа маладога літаратара, якая і спарадзіла выданні трох паэтаў. На калектыўны зборнік вершаў "Не наступайте птице на крыло" Дар'і Дарошкі і Уладзіміра Чараухіна "ЛіМ" ужо адгукаўся кароткай рэцэнзіяй А. Мельнікава. А вось пра кніжку Іны Спасібінай "Обереги" я вырашыў паразважаць сам. І калі патэлефанаваў паэтцы, каб пазнаёміцца і даведацца пра яе жыццё-быццё, то наколькі можна было, руская па нараджэнні, яна старалася са мной падтрымліваць размову на маёй беларускай мове. І гэта ўнутрана ўва мне з удзячнасцю адзначылася. Але само знаёмства з Інай праз вершы было непараўнальна іншым. Горшым-лепшым — не тыя вызначэнні. Тады я гаварыў з душэўнай інтэлігентнай жанчынай-маці, а тут яна гаворыць са мной "паэтычнымі рускімі сімваламі і метафарамі". Але яшчэ пры размове з Інай мне падумалася, што паколькі ў згаданай школе актыўна працуе, перадаючы свой літаратурны вопыт, і вядомая наша паэтка Ніна Шклярава, то неўзабаве трэба чакаць адтуль і беларускамоўнага паэтычнага дэбюту.

Зрэшты, найперш пра зборнік, ужо сама назва якога — "Обереги" — нібыта папярэджвае магчымага чытача пра своеасаблівасць жаночай натуры аўтара: творцы-чараўніцы са сваімі прымхамі, традыцыямі і замовамі... Хоць у сваёй падзячнай прадмоўцы ўсім, хто паспрыяў выданню зборніка, яна зазначае на гэты конт, што яе "Обереги" — не амулеты и магические предметы — это стихи, берегущие от серого уныния, окрашивая жизнь в яркие цвета". З гэтым можна было б і пагадзіцца, зыходзячы з цэльнасці ўсёй кніжкі, але не з мастацкага зместу паасобных вершаў. Паэзія Іны як дыстыляваная вада: яе п'еш, не баючыся атруціцца, але ў той жа час ёй бракуе натуральнага прэснага смаку. Як быццам Іна жыве ў нейкай ізаляцыі. Нічога беларускага ў яе вершах няма ні на каліва. А яна ж тут жыве больш за дваццаць гадоў. Адчуваецца, што ўсё жыццё яе замкнутае на сабе, сям'і і дзецях (іх у яе чацвёра, і яна даўно нідзе стала не працуе). Адтуль — з хатняй кніжнасці — і сама мова. Калі б не ведаў біяграфіі паэткі, то, чытаючы яе вершы, можна было б падумаць, што аўтар іх калі не ясенінскага пакалення, то рубцоўскага пэўна. Ні табе сучаснай урбаністычнай панарамы (як у жыхаркі абласнога горада), ні чарнобыльскага ці меліярацыйнага пейзажу, ні грамадскіх дачыненняў, ні сучасных літаратурных пасылак ці стылёвых адметнасцей.

Мой дом в лесу
 опутал дикий хмель,
А весь порог
 порос душистой мятой.
Я там пряду
 крапиву за окном…
Там радость расстилает
 по утрам
На пол скоблёный
 солнечные блики.

Альбо такія радкі:

Печь хрустит дровами,
 как корова,
И даёт душистое тепло…

І гэткія:

Я встану с петухами,
Умоюсь у колодца!
И прорастут стихами
В тетрадку зёрна солнца.
И задрожат росисто
Слова на нитях строчек —
И быть простой и чистой
Душа моя захочет!

Тут матывы і Сяргея Ясеніна і Ксені Някрасавай... І ўсё ж і ў гэтым, "выгараджаным асабістым укладам жыцця і характару", свеце ёсць свая разынача, свая лірычная высокая аўра, якую ахоўвае, як ад спамаўскіх вірусаў, ад сённяшніх грамадска-палітычных перыпетый, цынізму і прагматыкі і акаляе яе, напаўняючы даўнім закансерваваным у памяці і сэрцы святлом, чыстым цютчаўскім рускім духам... І ў гэтым правя і выбітнасць, як гэта парадаксальна ні гучыць услед за сказаным папярэдне, таленту Іны Спасібінай. Уласна я чытаў яе вершаваны зборнік, як саборны рускі тэкст, не абдзелены мастацтвам і асабовасцю індывідуальнага паэтычнага вызначэння. Тым больш, што сама паэтычная ідэя І. Спасібінай палягае на дабры, любові і пошуку гармоніі зямнога і паднебнага (чалавечага і боскага). Гэта вартая душэўнай выпакутаванасці задача. Не кожны скажа пра нараджэнне верша, як нараджэнне дзіцяці, без лішняй пабочнай эпатажнасці.

Как тихо,
 как торжественно вокруг!
Природа ждёт…
Чего?
Я вместе с нею
В неведомом
 волнении немею
И трепещу в предчувствии…
И вдруг:
Вдруг разродится
 словом тишина,
И нежный звук
 моё воспримет ухо…
А я сегодня,
 словно повитуха,
Принять ребёнка
 этого должна —
И я молюсь
 и славлю небеса
За то, что мне
 позволено участье…
И влагою
 нечаянного счастья
Искрятся благородные глаза.

Па-дзіцячы шчырае, падчас наіўнае захапленне жыццём і зямной прыгажосцю, а таксама даволі адмысловае рыфмаванне пачуццяў і павярхоўных эмоцый ("Я, как снегурочка, любви…", "Прогулка", "Попутчики", "Стихи по заказу, по поводу…", "Дорожное", "Босиком", "Ветру", "Лазарет", "Малиновая тишина") — усё гэта не абышло першы зборнік таленавітай паэткі. І хоць чамусьці зіма найчасцей фігуруе ў пейзажных вершаваных эскізах аўтаркі (бель, снег, чысціня, мароз, цвярозасць…), але хіба не здзівяць і не захопяць чытацкую ўвагу такія радкі і строфы І. Спасібінай:

Одуванчик моих волос
Лёгким облаком
 вздымет ветер.

Альбо гэтыя:

Я мотыльки упавших звёзд
Сачком медведицы поймала…

Ці такія:

Это возле флюгера
 на крыше
Толстогубый ветер
 сладко спит…

Зрэшты, можа, гэта і добра, пакуль ёсць вострыя ад-



чуванні (рэфлектары), — занатаваць для нашчадкаў наша сённяшняе зямное быццё ў такіх непаўторных метафарах:

Свежестью, мятой, вереском
Пахнут мои мечты.

Таму адразу верыш, калі паэт кажа табе, што

На лице её жили глаза.

Да гэтага ўжо самому хочацца дадаць метафарычныя, але характэрныя для паэткі штрыхі, мазкі, колеры, гукі... Прыкладам, такія:

Я выброшу все зеркала
И стану глядеться в озёра;
Забуду на время слова
И буду молчать,
 словно горы;
И буду дышать, как моря,
Прилив чередуя
 с отливом;
Себя, как молитву, творя,
Я всё-таки
 стану счастливой!

Пэўна ж, мы памылімся, калі зробім выснову, што ў паэткі такая плюшава-гуллівая біяграфія, не зважаючы нават на яе ўдакладненне ("светлы игрушек плюшевые лики"), бо насамрэч сапраўдны паэт з'яўляецца пакутным носьбітам лёсаў усіх скрыўджаных людзей. "Он вместилище ада", ужо і не памятаю, хто выказаў гэтую страшна-глыбокую філасофскую думку. Няважна.

Словам, у невялікім (заўважу, дбайна адабраным) зборнічку паэзіі дастаткова добра зробленых версіфікацый (адвольных і часцей за ўсё бессюжэтных) і, на першы погляд, усё ж мала перажытых і ўласна выпакутаваных вершаў... Зрэшты, не сумняваюся, што з вопытам жыцця гэтае "суперажыванне" (а не толькі ўласнае перажыванне) прыйдуць і да Іны Спасібінай. Урэшце, кожны паэт мае свае непаўторныя карані таленту... Цяжка, праўда, пагадзіцца вось з гэтай тэзай паэткі: "Мы наших судеб сами палачи". Але, раздумаўшыся, і не пагадзіцца нялёгка... Пакінем сабе спадзяванне, што мы ўсё ж будзем абаронцамі і адвакатамі сваіх лёсаў перад судом Божым, калі нізка не ўпадзём, абцяжараныя грахоўнасцю... Напрыканцы не магу абысці маўчаннем адну алюзію кіраўніка школы маладога літаратара І. Бісева, які ў прадмове да зборніка І. Спасібінай напісаў так: "Сказки на Руси сказывали нараспев. На старинный песенный лад. И эта чудесная музыка звучит, стоит раскрыть сборник на любой странице. И какой же она оказывается до боли родной. Как отчаянно тревожит то глубинное, русское, что почти уже не проглядывает из-за великого оскудения наших, оглохших от чужого, неславянского, псевдокультурного засилья душ! А покуда звучат песни и стихи, жив наш великий Русский язык!"

Што ж тады ўжо казаць нам, беларусам, і як вызначаць сваё моўнае "оскудение"?! Няўжо ж яшчэ сёння некаму трэба даводзіць, што ўсе славянскія мовы, асабліва руская, украінская і беларуская, "закладзены" на гэтай тэрыторыі, як своеасаблівы дрэнаж, каб не забалоцець альбо не высахнуць да пустэльні, бо, крый Бог, калі адна з гэтых моў змізарнее, то паступова пачнецца агульны разрух і занепад, у тым ліку і рускай. Бо і руская ж — застаўшыся адна перад глабальнай англійскай — неўзабаве можа знікавець і занямець... Таму наша выратаванне ў агульнай падтрымцы славянскіх нацыянальных моў і культур. Як паэт, а тым больш педагог і кіраўнік літаратурнай школы моладзі І. Бісеў, здавалася б, павінен заклікаць сяброў літаб'яднання да талерантнасці, павагі і любові да мовы і культуры той краіны, дзе яны жывуць і грамадзянамі якой з'яўляюцца... Таму, шаноўныя, калі вы дасылаеце свае паэтычныя зборнікі ЛеГАЛу ў беларускамоўную газету творчай інтэлігенцыі са спадзяваннем на крытычны водгук, то павінны не забывацца і на сучасны стан беларускай мовы, на датклівасць і нацыянальны гонар гэтага чалавека і супрацоўніка выдання. Не папракаю, а кажу, каб наперад пра тое не забываліся, — гэтак жа як беларусы не забываюцца на паважнае стаўленне да рускай мовы і культуры...

У нас былі і ёсць рускамоўныя паэты, якім мы аддаём належную павагу: С. Полацкі, І. Шклярэўскі, Д. Кавалёў, Н. Кіслік, А. Дракахруст, Д. Сімановіч. Але ва ўсіх тут мной пералічаных быў і ёсць своеасаблівы піетэт да Беларусі, і не толькі ў самой творчасці.

Уся мной выказаная горыч, вядома ж, не тычыцца творчасці паэткі І. Спасібінай. Якраз у ёй я адчуваў чалавечую і грамадзянскую павагу як да сваёй асобы, так і да беларускай нацыянальнай літаратуры. Бо ж не можа паэт называцца паэтам, не спачуваючы бліжняму, як сабе самому... Шкада, што ў Беларусі стала менш на аднаго ляснічага, але добра, што і на паэта пабольшала. А тое, што Іна сумняваецца ў сваім прызванні, і ёсць паказнікам яе паэтычнай вартасці:

И в иллюзорности теней,
В блестящем
 бисере минут,
В неповторимости мгновенья
Живут мои
 стихотворенья…
Когда действительно живут.

ЛеГАЛ

"16 чэрвеня 1798 года ў беларускім горадзе Дуброўна нарадзіўся хлопчык — Аляксандр Казарскі. Ёсць звесткі, што ў дакументах указалі няправільна год нараджэння, і фактычна ён з'явіўся на свет на год раней", — так пачынаецца першая глава кнігі Ігара Кісарава "Казарскі: памяць яго з роду ў род на вечныя часы", якая толькі што выйшла з друку ва ўкраінскім горадзе Нікалаеў.




# Помнік і кніга — герою з Дуброўна

У пачатку ж другой главы тлумачыцца, як будучы герой руска-турэцкай вайны 1828 — 1829 гадоў, стаўшы ўжо адукаваным хлопцам, трапіў з Дуброўна на берагі Чорнага мора: "У 1808 годзе праездам з Санкт-Пецярбурга ў Нікалаеў да Казарскіх заехаў Сашын хросны, брат бацькі, надворны саветнік Васілій Сямёнавіч Казарскі. Ён ехаў, каб уступіць на пасаду сакратара канторы галоўнага камандзіра Чарнаморскага флоту і партоў, і прапанаваў хрэсніку кар'еру ваеннага марака. Аляксандр быў зачараваны формай марскога афіцэра з корцікам і стаў марыць пра мора".

Усяго праз год пасля смерці Аляксандра Казарскага (ёсць звесткі, што яго атруцілі ў Нікалаеве раскрадальнікі царскай казны, напалоханыя рэвізорскай прынцыповасцю героя) у Севастопалі ў 1834 годзе быў узведзены помнік герою. Сваімі абрысамі помнік нагадвае даўнюю вежу, вяршыню якой упрыгожвае бронзавая трыера — старажытнагрэчаскі карабель таго тыпу, на якіх плавалі легендарныя Геракл і Адысей. На вежы напісана: "Нашчадкам у прыклад". "Нашчадкам" — гэта і нам з вамі, яго суайчыннікам.

Дык які ж "прыклад" мы павінны




браць з Аляксандра Казарскага? Найперш мужнасці, нязломнасці ў, здавалася б, безнадзейнай сітуацыі. У 6-тве за свабодны праход праз Басфор брыгу "Меркурый" усяго з 18 гарматамі супрацьстаялі турэцкія лінкоры "Рэал-бей" з 74 гарматамі і "Селіміе" ажно з 110 гарматамі на борце. Сілы праціўнікаў былі ў агнявой магутнасці настолькі няроўныя, наколькі, пішa І. Кісараў, "абодва браты баксёры Клічко пераўзыходзяць астматычнага першакласніка". Астатнія турэцкія караблі нават не ўключаліся ў бой: яны "леглі ў дрэйф у чаканні пацемнага відовішча" — узяцця ў палон або гібелі "Меркурыя", якім камандаваў лейтэнант Казарскі. Але на нарадзе афіцэраў у кают-кампаніі было вынесена рашэнне: "абараняцца да апошняй крайнасці", а потым узарваць брыг. Бой доўжыўся тры гадзіны. Геройства і набожнасць (уся каманда са 115 марaходаў прыняла прычасце) былі памножаны на кемлівасць і хітрасць. Рускі карабель змяёй прайшоў паміж лінкорамі, спачатку патапіўшы "Селіміе", а потым "Рэал-бей", і годна пакіраваў у бок Севастопаля. Адзін з турэцкіх афіцэраў, які назіраў за боем, запісаў потым, што калі летапісы розных часоў захоўваюць для нас доказы бясстрашнасці, то ўчынак Казарскага зацьміць усе іншыя.

Усеагульнае прызнанне — народнае і царскае — выключнага геройства не прымусіла сябе доўга чакаць. Казарскі атрымаў ордэн Георгія 4-й ступені, званне флігель-ад'ютанта ў свіце расійскага імператара, чын капітана ІІ рангу. А брыгу "Меркурый" была перададзена вышэйшая ўзнагарода ў рускім флоце — кармавы Андрэеўскі сцяг. У складзе Чарнаморскага флоту сёння ёсць тральшчык "Казарскі" і судна "Меркурый". Імем Казарскага названы вуліцы ў Севастопалі і Нікалаеве. Брыг "Меркурый" уздымаецца на памятным знаку "Доблесці маракоў-чарнаморцаў", адкрытым 18 верасня 2008 года на перасячэнні Нахімаўскага і Севастопальскага праспекта. А мы, крымскія беларусы, у святочныя дні, у тым ліку на свята вызвалення Беларусі, збіраемся са сцягамі каля помніка герою ў Севастопалі.

Памятаюць Аляксандра Казарскага і на яго радзіме, дзе яго бацька служыў упраўляючым маёнтка князя Любамірскага. У адным з заключных раздзелаў кнігі гаворыцца: "Як паведамляла прэсслужба Чарнаморскага флоту Расійскай Федэрацыі, 29 чэрвеня 2008 г. у штабе Чарнаморскага флоту РФ адбылася сустрэча камандуючага ЧФ РФ адмірала Уладзіміра Камаедава са старшынёй раённага выканкама беларускага горада Дуброўна Міхаілам Ляшчынскім". Камандуючы "перадаў у дар Дуброўна Адміралцейскі якар, адзначыўшы, што з гэтага часу ён будзе сімвалізаваць сувязь паміж Чарнаморскім флотам і радзімай аднаго з найбольш выдатных яго афіцэраў — Аляксандра Казарскага".

У цэнтры Дуброўна ёсць мемарыяльная дошка, прысвечаная славутаму зямляку. Але, не сумняваюся, неўзабаве пабач з ёй з'явіцца і другая. Бо, як высвятляецца, брат Аляксандра, капітан 2 рангу Міхаіл Казарскі, нарoджаны там жа, камандаваў тым жа брыгам "Меркурый" у 1840 — 1848 гадах, "крэйсераваў каля абхазскіх берагоў".

Валерый БАРТАШ,
старшыня праўлення Севастопальскага таварыства беларусаў імя М. Багдановіча

На здымках: вокладка кнігі; помнік Аляксандру Казарскаму ў Севастопалі.

# Усё пачалося са званка Васілю Быкаву…

Знаёмства з Анатолем Майко ў нас пакуль што завочнае. Сённяшняя электронная сувязь якраз гэтаму спрыяе. Як не спрыяе эканоміка мець з людзьмі іншых краін і гарадоў свету стасункі вочныя.

Колькі слоў дзеля знаёмства чытача з Анатолем Фёдаравічам Майко. Нарадзіўся ён ва Украіне. А бацька яго — беларус, з Зацітавай Слабады Пухавіцкага раёна. 22 чэрвеня 1941 года Анатоль, яго малодшы брат Эдуард і маці Варвара Васільеўна (таксама — ураджэнка Зацітавай Слабады) выправіліся ў Беларусь на летні адпачынак да бабулі і дзядулі. Бацька ж, Фёдар Іосіфавіч, першы сакратар аднаго з райкамаў партыі, застаўся ва Украіне. Няпроста склаўся ваенны лёс кожнага з сям'і Майко. Але ўсе чацвёра засталіся жывымі.

Хлопчыкам Толя бачыў і прыход немцаў, і яўрэяў, якія туляліся з адмысловымі пазнакамі вакол пухавіцкага гета, і сполахі вогнішча, у якое фашысты кінулі мірных жыхароў лясной вёскі Беразянка. А сам прайшоў праз блакаду ў партызанскім атрадзе, ледзьве выратаваўся з сямейнага лагера.

…Пасля Анатоль жыў на Украіне, гадаваўся без маці, разам з бацькам. Стаў вядомым журналістам, адным з кіраўнікоў Кіеўскага тэлерадыёвяшчання. Напісаў некалькі кніг дакументальнай прозы, якія пабачылі свет у Палітвыдаце Украіны. За журналісцкую працу адзначаны ордэнам "Знак Пашаны".

Але вайна не давала спакою. І Анатоль Фёдаравіч паспрабаваў распавесці пра яе так, як памятае сам, як адклалася яна ў яго ўласных пакутлівых перажываннях. Так нарадзіліся новыя аповесці і апавяданні. Адзін з твораў надрукаваны сёлета ў "Нёмане". Аповесць жа "Помста" перакладаецца на беларускую мову і запланавана да публікацыі ў часопісе "Маладосць".

Аднак хацелася б тут распавесці пра іншую сувязную нітачку, што таксама яднае Анатоля Фёдаравіча з Беларуссю… "Года з паўтара (а можа, і два) таму, — расказвае мой украінскі карэспандэнт, — атрымаў ліст з Фонду Быкава, які нямала мяне здзівіў. Супрацоўніца фонду знайшла ў запісах пісьменніка маё імя і папрасіла расказаць, як і чаму яно там аказалася.

І чаму ж я "там" аказаўся? А толькі таму, што даўным-даўно мне як журналісту захацелася давведацца пра меркаванне яго з нагоды адной газетнай публікацыі. Не вельмі спадзеючыся на поспех, я пазваніў на вуліцу Танкавую, дзе жыў тады пісьменнік. І цуд: ён не толькі пагадзіўся адказваць, але і быў надзвычай добразычлівы. А калі мы ўжо развіталіся, я незнарок сказаў, што наша гутарка — падарунак мне на мой дзень нараджэння. І было гэта 22 чэрвеня…

Як толькі ён пачуў гэтую дату, адразу ажыў, і… пайшло-паехала: а ў якім годзе я нарадзіўся (я назваў 1932-гі), адкуль мае бацькі (я назваў Пухавічы, Зацітаву Слабаду), дзе быў у час вайны (зноў жа назваў Слабаду і партызанскі атрад), чым я займаюся, пра што пішу…

Я не магу дакладна сказаць, колькі працягвалася гэтая размова, але назаўсёды запомніў як афарызм адну фразу: "Як важна, каб пра падзеі на вайне пісалі калі не яе непасрэдныя ўдзельнікі, то хаця б іх відавочцы. А іх жа становіцца ўсё меней і меней…" Болей таго, ён параіў мне напісаць пра маё ваеннае дзяцінства і нават пагадзіўся сам прачытаць рукапіс і падтрымаць. Але тады я яшчэ не "выспеў"…

Размова з Васілём Быкавым сапраўды падштурхнула Анатоля Фёдаравіча, каб згадаць пра вайну. Так нарадзілася яго аповесць "Помста". Падлетак Янка, галоўны герой твора, — зборны персанаж з 1941 года... У вёску прыходзяць першыя немцы. Шныраць па сялянскіх падворках, паводзяць сябе, як нахабныя гаспадары. На вачах хлопчыка — здзекі над яго аднавяскоўцамі, ваеннапалоннымі, якім усяляк стараюцца дапамагчы вяскоўцы. Янка сустракаецца са знаёмым яго дзеда яўрэем шаўцом Шлёмам… Мяне цікавілі многія падрабязнасці, правобразы, бо сам жа я родам з той Зацітавай Слабады, што ў час вайны прытуліла Анатоля.

"Мне не трэба было выдумляць геаграфічнае месца дзеяння. Канечне ж, гэта — Зацітава Слабада, Пухавічы, рэальны мост праз Свіслач, які вядзе на ўсход. Драматычныя падзеі на ім адлюстраваны адзін да аднаго. Толькі не да ўяўнага дзеда Адама, а да нас у двор забег чырвонаармеец. Выпіў жбан малака і расказаў пра тое здрадніцтва… Не даводзілася напружваць і фантазію, каб апісваць пейзажы, дзе адбываліся падзеі; яны ў мяне перад вачыма пастаянна… Ці былі самалёты, якія, пэўна, ляцелі на Берлін? Так, былі. І мяне сапраўды разбудзіла маці. І людзі сапраўды выбягалі той ноччу з хат і сапраўды гучала слова "нашы".

…Цяпер вельмі горкае пытанне — пра яўрэйскую трагедыю. У нашым мястэчку ўсё яўрэйскае насельніцтва жывымі закапалі ў траншэю. Пра ўсё гэта я даведаўся з размоў паміж дарослымі. Там сапраўды доўга стагнала зямля. А што датычыць дзядзькі Шлёмы, то яго фактычна не было, але ў дзеда Пададзеба часта бываў калега-шавец з мястэчка, імя якога не памятаю. Але помню, як аднойчы ён з'явіўся з жоўтай пазнакай на спіне і як бабуля збірала яму клуначак з прадуктамі…"

Аповесць "Помста" — першы мастацкі твор, дзе расказваецца пра трагедыю знішчэння яўрэяў на Паповай Горцы каля вёскі Пухавічы. Сотні людзей, сотні лёсаў… Знаёмства з Анатолем Майко — і напамін пра тое, колькі яшчэ не расказанага пра пакуты і жудасці, здавалася б, такой далёкай вайны. Для кіеўскага журналіста першым штуршком да вяртання ў даўнія падзеі, каб узнавіць іх, расказаць наступным пакаленням, стаў званок Васілю Быкаву.

Мікола БЕРЛЕЖ

## У будучы даведнік

Аўтарскім калектывам, які складаецца з даследчыкаў і журналістаў, ужо на працягу некалькі год рыхтуецца другое, значна пашыранае і ўдакладненае, выданне энцыклапедычнага даведніка "Беларусы і ўраджэнцы Беларусі" (першае выданне выйшла ў 2000 годзе). Спадзяёмся, што матэрыялы па гэтым узору будуць паступаць і ў рэдакцыю "ЛіМа".

# Паэт беларускі, рускі і ўкраінскі

Казакоў Міхаіл Аўрамавіч (8.10.1938, в. Халіпы Дрыбінскага р-на Магілёўскай вобл. — 2000, Ялта, Украіна), беларускі, рускі і ўкраінскі паэт, журналіст. Член Саюза пісьменнікаў Украіны з 1984 г.

Міхаіл Казакоў нарадзіўся ў беларускай сялянскай сям'і. На радзіме закончыў Крычаўскае педвучылішча (1956) і філалагічны факультэт Магілёўскага педінстытута (1961). Да 1964 г. быў дырэктарам Галабоўскай васьмігадовай школы ў родным раёне. У 1964 г. пераехаў у Крым, дзе ў сакскай раённай газеце "Красное знамя" працаваў карэктарам, літаратурным супрацоўнікам, адказным сакратаром, намеснікам рэдактара. З 1972 г. адказны сакратар, а з 1974 г. — намеснік рэдактара абласной "Курортной газеты" (цяпер "Крымская газета").

Паэт з'яўляецца аўтарам дзесяці зборнікаў вершаў, выдадзеных у Мінску ("Млечны шлях", "Родныя гарызонты", "Вянок васількова"), Кіеве ("Сем калодзяў", "На нашай, на сваёй зямлі"), Маскве ("Зямное прыцягненне"), у Крыме ("Вечная крыніца", "Аўтограф", "Сілуэты Крыма", "Горыч палыну"), сааўтар калектыўнага зборніка "Светлая туга Беларусі". Ён прымаў актыўны ўдзел у грамадскім і культурным жыцці Крымскай аўтаноміі. З'яўляўся членам праўлення Саюза пісьменнікаў Крыма, членам Беларускага культурна-асветніцкага таварыства Крыма, камітэта па прэміях Аўтаномнай Рэспублікі Крым, кіраўніком Ялцінскага гарадскога літаратурнага аб'яднання.

Міхаіл Казакоў — лаўрэат прэміі імя Максіма Багдановіча Крымскага рэспубліканскага фонду культуры, літаратурнай прэміі імя Антона Чэхава.

Валерый АТРАШКЕВІЧ

Старонку падрыхтавалі доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Адам Мальдзіс і Алеся Лапіцкая.



# Іскрынкі будучыні

Гэты праект вылучаўся, калі не сказаць — выбіваўся, з "выставачнага канвеера" сталічнага Палаца мастацтва, дзе рэгулярна праходзяць тэматычныя і жанравыя рэспубліканскія вернісажы, канцэптуальныя прэзентацыі арт-суполак, персанальныя і юбілейныя экспазіцыі майстроў розных сфер выяўленчай творчасці. Сюды, у прэстыжную галерэю Беларускага саюза мастакоў, прыйшлі са сваімі лепшымі работамі таленавітыя дзеці ды іх настаўнікі — вучні і выкладчыкі школ эстэтычнага кірунку з Фрунзенскага раёна Мінска. Выстаўку сваёй шчырай і яскравай творчасці яны прысвяцілі 65-годдзю Вялікай Перамогі над гітлераўскай навалай.





Прасторная зала на другім паверсе палаца поўнілася промнямі сонца і музыкай: спяваў дзявочы хор, граў струнны ансамбль, што ўносіла ў шматквецце экспазіцыі часцінку вялікай гармоніі жыцця і мастацтва. Юныя аўтары выглядалі сапраўднымі героямі вернісажа: па-дзіцячы (ці па-мастакоўску?) жвавыя, непасрэдныя, з прасветленымі натхнёнымі тварамі, іскрыстымі цікаўнымі вачамі, яны шпацыравалі па галерэі, разпораз прыпыняючы крок, засяроджана разглядалі якую з работ, захоплена, але нешумліва, абмяркоўвалі яе, а потым таропка вярталіся... пастаяць побач з уласнымі творамі.

"Не было б гэтых таленавітых дзяцей, гэтых самабытных беларускіх "іскрынак", калі б не Перамога, — падкрэсліла, выступаючы на адкрыцці выстаўкі, начальнік упраўлення адукацыі Адміністрацыі Фрунзенскага раёна сталіцы Таццяна Казачонак. — Новыя пакаленні павінны ведаць гісторыю і з удзячнасцю за мірнае, годнае, незалежнае жыццё несці ў сваіх сэрцах памяць пра вялікую ўсенародную перамогу ў мінулай вайне. Паказаць у Палацы мастацтва творчасць юных жыхароў нашага раёна — шчаслівая магчымасць і вялікі гонар. Яны, можна сказаць, робяць першыя крокі на вачах у такой шырокай аўдыторыі гледачоў. І, магчыма, менавіта гэтая сур'ёзная падзея дапаможа кожнаму з удзельнікаў выстаўкі вызначыцца ў свеце сваіх захапленняў і ўрэшце знайсці ўласны шлях да будучай прафесіі".

Стракаты і шчыры свет дзіцячай творчасці гэтак жа не падлягае слоўным апісанням, як і вобразны свет музыкі. Вось і на гэтай выстаўцы: жыццядайная, пазітыўная поліфанія фарбаў, формаў, фактур, жанраў і тэхнік атуляла цябе — і паланіла, узрушвала пачуцці — і ўсцешвала душу...

Колькі фантазіі, вынаходлівасці, густу ў вышываных сюжэтах і габеленах, вырабах са скуры і акварэлях, мазаічных карцінах з яечнага скарлупіння і маляваных дыванах, керамічных выявах і графічных аркушах, у складаных кампазіцыях, выкананых з неверагодным спалучэннем самых розных тэхнік! Луналі на дрыготкіх ніцінах пад столлю саламяныя павукі — ахоўнікі шчасця. Каляровымі карамелькамі-ледзяшамі ззялі, працятыя святлом з аконных шыбаў, вітражныя пано. Вабіў сваёй мяккай пластычнасцю, хатняй утульнасцю "Сонечны горад" з салёнага цеста.



Хацелася пашукаць казачную папараць-кветку ў загадкавым "Рогу дастатку" — творы фітадызайнераў. Партрэт Усяслава Чарадзея прадставіў Уладзіслаў Архіпаў, кампазіцыю "Грунвальд" — Уладзімір Козак (СШ № 185, кіраўнік А. Аракчэева); батык "Сланечнікі" — Іван Яўдохаў (СШ № 185, кіраўнік А. Вітко); "Палавінкі" — такую назву дала маляванаму вобразу незвычайных рамантычных захапленняў Ганна Цішкевіч (СШ № 7, кіраўнік А. Гусева). Выкладчыца СШ № 185 Данута Астравух парадавала гледачоў шыкоўнымі цёмнымі півонямі — "Кветкі ў гарлачы". А 15-гадовыя выхаванцы СШ № 201 зрабілі арт-аб'ект на тэму сямейнага святкавання Дня Перамогі, скарыстаўшы ў калажы патэфон, франтавы ліст, вінілавую кружэлку, нотныя радкі са словамі "Кацюшы". Іх настаўнік Станіслаў Шашкоў прадставіў скульптурную кампазіцыю "Няскораны"...

"З такіх выставак і пачынаецца шлях да творчых вышыняў, і пачынаюць складвацца будучыя імёны, — звярнуўся да прысутных на вернісажы старшыня рады БСМ, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі краіны Уладзімір Зінкевіч. — Калісьці мы з калегамі таксама былі пачаткоўцамі. І пачыналі з правінцыйных выставак. Наогул, далучэнне да мастацтва, сам па сабе дзівосны стан творчасці, уваходжанне ў творчае наваколле — цудоўна! Мастацтва — гэта цікавы таленавіты свет, неабходны як асяроддзе. Таму што без мастака не можа развівацца ніводная форма чалавечай дзейнасці. Без мастака было б сумна жыць. У нашай краіне з кожным годам нараджаюцца ўсё новыя імёны, крыніца талентаў не перасыхае. Мяне гэта прыемна здзіўляе, але ў той жа час я разумею, што таленавітыя беларускія мастакі бяруцца з жывога творчага асяроддзя, якое нараджаеце і сілкуеце вы — адораныя дзеці. У вас надзіва выразныя вочы, якія са шчырым захапленнем глядзяць на свет. За вамі бачыцца вялікая будучыня айчыннага мастацтва".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: работы ўдзельнікаў выстаўкі.

Фота Віктара Кавалёва

## У наступным нумары

Імя пісьменніцы і даследчыцы літаратуры Лідзіі Арабей, аўтара шматлікіх апавяданняў, аповесцей, некалькіх раманаў, кніг для дзяцей, сатырычных твораў, ва ўспрыманні многіх непарыўна звязанае з постаццю славутай пісьменніцы-рэвалюцыянеркі Цёткі. Можна сказаць, што Лідзія Львоўна ў сваіх даследаваннях дэтальна аднавіла вобраз і біяграфію Алаізы Пашкевіч, пра якую ў савецкія часы было вядома вельмі мала.

Наш карэспандэнт павіншавала Лідзію Львоўну з 85-гадовым юбілеем і папрасіла яе прыгадаць самыя адметныя ўспаміны з доўгага творчага жыцця. Як пісьменніца адшукала магілу Цёткі, адкуль у яе з'явілася распяцце, што калісьці вісела над ложкам маці Алаізы Пашкевіч, чаму Якуб Колас даручыў ёй апрацоўваць свой архіў — гэтыя і іншыя цікавыя гісторыі Лідзія Арабей распавяла чытачам "ЛіМа".

З глыбінкі

## Крыніца натхнення

Пад такой назвай у цэнтральнай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча горада Маладзечна адкрылася выстава жывапісу аднаго са старэйшых мастакоў Маладзечаншчыны Кастуся Харашэвіча.

Кастусь Іванавіч нарадзіўся ў вёсцы Літва Маладзечанскага раёна. У творчай скарбонцы мастака больш як паўтысячы карцін. Усе яго работы вельмі індывідуальныя, у іх адчуваюцца вялікая любоў да роднага краю і яго непаўторнай прыгажосці.

Многія з карцін мастака можна ўбачыць у выдадзеным у 2007 годзе да яго 80-годдзя каталогу "Старонкі жыцця і творчасці". А пра сваё няпростае жыццё Кастусь Харашэвіч расказаў у аўтабіяграфічнай кнізе "Зведанае і пражытае".

Работы Кастуся Харашэвіча захоўваюцца ў Мастацкім фондзе Рэспублікі Беларусь, фондах Нацыянальнага мастацкага музея, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, Беларускай Нацыянальнай бібліятэцы ў Лондане, Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне. Многія карціны знаходзяцца ў беларускіх прыватных калекцыях, а таксама ў Польшчы, Германіі, ЗША, Ізраілі, Канадзе і іншых краінах. У 1999 годзе Кастусь Харашэвіч быў узнагароджаны медалём Беларускага саюза мастакоў "За заслугі ў выяўленчым мастацтве".

Сярод яго карцін значнае месца займаюць тэматычныя палотны, якія прысвечаны гістарычным падзеям нашага краю. Тут у першую чаргу трэба назваць твор "Паўстанне нарачанскіх рыбакоў", які ён напісаў у далёкім 1963 годзе. Яго карціны "Ля возера", "Вёска", "Вадзяны млын у Пятроўшчыне", "Восень у Гальшанах", "Панадворак" і іншыя дораць людзям цеплыню і радасць, вучаць любіць прыроду так, як любіць яе сам мастак.

За апошнія дзесяць гадоў мастак стварыў галерэю партрэтаў дзеячаў гісторыі і культуры. Падоўгу затрымліваюцца наведвальнікі выставы каля такіх яго карцін, як "Вацлаў Ластоўскі. Вільня", "Барыс Кіт. Акадэмік астранаўтыкі", "Радашковічы. Браніслаў Тарашкевіч", "Кастусь Каліноўскі", "Мікола Ермаловіч", "Генадзь Каханоўскі", "Мае настаўнікі". Удаліся мастаку і работы "Роздум", "Споведзь", "Дарога ў калгас", "Гарадзілава. Маладосць маіх бацькоў Веранікі і Янкі Харашэвіч", "Бабуля Насця". На гэтай выставе мастак Кастусь Харашэвіч на суд гледача прадставіў 24 работы.

Янка ГАЛУБОВІЧ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856
Наклад 2903
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 1.07.2010 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 3145

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-6646